Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4657) 16 сакавіка 2012 г.

## *Калонка рэдактара*

## Каста



Кожны творчы чалавек памятае свой першы крок у тое, што яшчэ нават не ўсведамляецца, нават пра сябе не называецца Мастацтвам. Проста аднойчы ты не можаш больш трымаць унутры гэтыя гукі... Ты не адразу чытаеш іх некаму — на гэта таксама варта рашыцца, — блытана тлумачыш, што вось, маўляў, паслухай, я тут нешта… Ты толькі не смейся, калі ласка!.. Ну, цябе ж прасілі!!! І ты думаеш, што ніколі больш… Але зрываешся зноў і зноў. І вось ужо нехта кажа: "А ведаеш, мне падабаецца". Гэты чалавек не здагадваецца, што зрабіў табе кепскую паслугу. Горш можа быць толькі калі ён спытае: "Чаму б табе гэта не надрукаваць?" Вось тут трэба было б, канечне, замахаць рукамі і збегчы як мага далей, туды, дзе няма ніводнай рэдакцыі газеты, а лісты ўсё яшчэ носяць галубы… Аднак ты пакуль нічога не ведаеш пра Касту і думаеш: "А і праўда, чаму б?.." І ты нясеш свае радкі па адрасе, пазначаным на апошняй старонцы нейкага літаратурнага выдання… Куда не здараецца! Цябе ніхто не перахоплівае па дарозе, дзверы рэдакцыі адчыненыя, рэдактар аддзела ў гуморы, ты чуеш: "Добра. Мы вас надрукуем. Чакайце". І ты чакаеш, каб аднойчы ўзяць неслухмянымі пальцамі газету ці часопіс з уласным прозвішчам на старонках. Наўрад ці адразу пазнаеш свае творы (рэдактар пашкадаваў цябе і добра-такі "паправіў"), гэта трохі збянтэжыць, але толькі на момант, бо галоўнае — адчуванне таго, што ты трапіў у Касту! "Гэта ж так проста!"— ты бяжыш дадому, каб хутчэй паўтарыць боскае адчуванне. Але… Чамусьці ў другі раз не так шанцуе: і абед у рэдакцыі, і рэдактар "пасля ўчарашняга", а можа, ты і сам паспяшаўся… З "надрукаваных упершыню" большасць імёнаў мы ўжо не сустрэнем на старонках. Гэтыя людзі, на шчасце, выбіраюць занятак нечым больш карысным. Аднак і тых, хто не здолеў адмовіцца ад небяспечнай прынады, хапае, каб стварыць чэргі з публікацый на бліжэйшы год… Ды ты ўжо ўмееш чакаць. За гэты час збіраеш грошы і творы на першую кніжку — выдаткі кампенсуюць пару ўхвальна-крытычных артыкулаў, а найперш некалькі слоў "мэтраў", якім ты, хваліючыся, падпішаш свой зборнік… А потым ты раптам усведамляеш, што гэта — праца. Яна патрабуе часу, сілы волі, здароўя, яшчэ больш часу, яшчэ больш… Але спыніцца позна: ты — у Касце! Ты шукаеш падтрымкі калег, але праўду пра сябе хутчэй даведаешся з плёткі, чым з размоў віка на віка. І тады разумееш, што недзе цябе падманулі, нечага недагаварылі — ты ўсё па-іншаму ўяўляў. Аднак Каста не можа існаваць без барацьбы, і ты змагаешся з тымі, каму няма да цябе справы. А яны, разлаваныя, пачынаюць змагацца з табой (якасць твораў тут не будзе мець прынцыповага значэння). Калі ж ты выплывеш дзякуючы ўласнай настойлівасці ці працягнутай некім руцэ (што амаль неверагодна), то ўпершыню адолее пытанне: "Навошта членам Касты знішчаць адзін аднаго?"

…Але мінаюць стагоддзі, а нехта ўсё адно імкнецца здавацца чысцейшым на фоне бруду, вылітага на таварыша.

"Вы ўсё яшчэ не ў Касце?.."

**Таццяна Сівец**

# Мастацтва пачынаецца з любові

**Такога не было ніколі за ўсю шматгадовую гісторыю Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі: тут адкрылася вялікая выстаўка беларускага жывапісу XX стагоддзя з прыватных калекцый. Гэты вернісаж стаўся па-свойму сенсацыйнай падзеяй не толькі ў жыцці нашай галоўнай скарбніцы выяўленчага мастацтва, але і ў сферы айчыннай культуры наогул. Ён успрымаецца як першая ластаўка доўгачаканых плённых перспектыў у стасунках "мастак — грамадства — дзяржава — бізнес".**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**



Ці не сама багіня Флора стварыла гэты расквітнелы астравок вясны ля халодных мармуровых прыступак, што вядуць на галерэю? З вільготнай глебы прабіваюцца пяшчотныя крокусы; цягнуцца да святла кволыя сцяблінкі, увянчаныя бутонамі цюльпанаў; на танклявых прутках фарзіцыі — набрынялыя квеценню жоўта-зялёныя пупышкі; красуюць шыкоўныя гіяцынты, напаўняючы паветра п'янкім экзатычным водарам. Вось такая дзівосная кампазіцыя з жывых раслін размясцілася пад вельмі сімвалічным у кантэксце вернісажа, рамантычным пейзажам, аўтар якога спыніў імгненне ціхага надыходу беларускай вясны: празрыстыя абрысы ўзлеску пад няяркім небам, апошні снег абапал дарогі, скіраваный за далягляд. Выставачную прастору праціняў тэмпераментны маналог скрыпкі: віртуозная мажорная імправізацыя саліста Карэна Карапецяна, нібы разняволеная энергія паўнаводных вясновых крыніц, птушыныя зыкі-перазовы, жыццяносны спеў прыроды, трыумф творчасці! А перадусім — голас чалавечага сэрца...

Беларускі жывапіс і сапраўды перажывае трыумф. Новая экспазіцыя пад назвай "Мастацтва пачынаецца з...", разгорнутая ў фае і на галоўнай галерэі музея, уключае манументальныя палотны і натхнёныя экспромты на кардоне, мініяцюрныя нацюрморты і складаныя фігуратыўныя кампазіцыі, работы, падпісаныя папулярнымі сёння імёнамі, і створаныя пакуль не вядомымі ці падзабытымі айчыннымі аўтарамі. У маляўнічым і важкім каталогу, выдадзеным да вернісажу, — каля трохсот старонак з рэпрадукцыямі карцін амаль сямідзесяці мастакоў ды іх кароткімі біяграфічнымі звесткамі: ад "А" да "Я", ад Галіны Азгур да Пятра Явіча. Многае з гэтага неабсяжнага збору засталося па-за межамі экспазіцыі, у якую, аднак, увайшла без малога сотня твораў!

*Да 18 сакавіка кожны наведвальнік выстаўкі можа ўзяць удзел у конкурсе "Адгадай мастака". Яго ўмовы размешчаны ў музеі на спецыяльным стэндзе, побач з чатырма непадпісанымі работамі беларускіх аўтараў. Глядач-пераможца, які правільна вызначыць аўтарства ўсіх чатырох карцін, атрымае ў якасці прыза адну з іх. Напрыклад, гэту.*

Упершыню ўнікальная падборка нашага жывапісу ад першых пасляваенных гадоў і па сёння выйшла ў свет не з музейных фондаў. І далёка не ўсе наведвальнікі выстаўкі здагадваюцца, што за няпэўным абагульненым вызначэннем "з прыватных калекцый" — жыццёвае захапленне і частка ўнутранага свету аднаго чалавека: уладальніцы гэтых карцін, шчырай прыхільніцы беларускага мастацтва, якая не афішуе сваю персону і прадстаўляецца проста: Маргарыта.

Падчас адкрыцця выстаўкі дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў падкрэсліў, наколькі важна падтрымліваць творцу, вымушанага несці цяжар будзённых клопатаў. Спадарыня Маргарыта, член апякунскага савета НММ, зрабіла першы крок насустрач музею і дзяржаве ў практычнай падтрымцы айчыннага мастацтва, значны ўнёсак у агульную справу.

"Мастацтва пачынаецца з..." — люструнак эстэтычных прыхільнасцей калекцыянера, сярод якіх і наша класіка, і проста гісторыя, і жывы працяг творчасці. Тут можна трапіць у "Баранавіцкі парк культуры і адпачынку" далёкага 1948-га (палатно Кастуся Максімцава), убачыць ідылічную дэкаратыўнасць "Ускраіны Мінска" вачамі Аляксандра Кішчанкі; падзівіцца на "Паляўнічых" прызнанага майстра кветкапісу Валяр'яна Жолтак; атрымаць асалоду ад беларускіх краявідаў, гэтак па-рознаму апетых Віталем Цвіркам, Кастусём Качаном і Міколам Ісаёнкам; затрымацца ля манументальнага партрэта Якуба Коласа, намаляванага Абрамам Заборавым, бацькам Барыса Заборава; падыхаць водарам "Бэзу" Генрыха Бржазоўскага; улучыцца ў кветкавую стыхію Марыі Ісаёнак; павандраваць па цёплых краінах следам за Паўлам Масленнікавым; адкрыць для сябе творчасць Валерыя Песіна і новае таленавітае імя — Улад Пятручык...

Ці ёсць адрозненне класічнага музейнага збору ад вялікай прыватнай калекцыі? Што за пытанне! Крытэрыі адбору для дзяржаўнага музея — вызначаная экспертамі высокая мастацкая каштоўнасць твора, аўтарытэтнасць аўтара і да т. п. А калекцыянер можа фарміраваць свой збор, кіруючыся суб'ектыўным густам, выбіраючы тое, што проста падабаецца. Чаму спадарыня Маргарыта збірае карціны? Таму, што вельмі любіць мастацтва і людзей мастацтва, любіць наведваць іх майстэрні і набываць тое, што прыйшлося да душы.



***На здымках: Уладзімір Рагалевіч "На кухні" (палатно, алей, 1994); адна з работ, якія ўдзельнічаюць у конкурсе.***

## Пункціры

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ, якім быў зацверджаны новы склад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Беларусі. Прэзідыум камітэта ўзначаліў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Рубінаў. Кіраўніком падкамітэта па Дзяржаўных прэміях у галіне навукі і тэхнікі прызначаны старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Анатоль Русецкі. Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ўзначаліў генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Уладзімір Грыдзюшка. Склад Прэзідыума абноўлены на 60 працэнтаў, склад падкамітэтаў — адпаведна на 50 і 57 працэнтаў.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб прызначэнні стыпендый Прэзідэнта Беларусі 78 аспірантам. 20 з іх выконваюць дысертацыйныя даследаванні па тэхнічных, 13 — па эканамічных і гуманітарных, 11 — па медыцынскіх навуках.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР, народнага артыста Грузінскай ССР Зураба Саткілаву з 75-годдзем. "Ваша творчасць — адно з найвышэйшых дасягненняў сучаснага опернага мастацтва", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Расійскай Федэрацыі Таццяну Васільеву з юбілеем. "Сваім талентам, упэўненай акцёрскай ігрой, глыбінёй створаных вобразаў, жаноцкасцю і абаяннем Вы па праве заслужылі прызнанне калег і вялікую глядацкую любоў", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Дні культуры Беларусі прайшлі ў Катары. Фотавыстаўка ў нацыянальным тэатры прадставіла катарцам нашу краіну. Артысты Дзяржаўнага ансамбля танца пазнаёмілі з харэаграфічнай спадчынай. Цікавасць у публікі выклікала выступленне Камернага аркестра Рэспубліканскага музычнага каледжа. Плануецца правядзенне ў гэтым годзе таксама Дзён культуры Катара ў Беларусі.

✔ Факсіміле Полацкага Евангелля, якое, паводле падання, уласнаручна перапісвала Еўфрасіння Полацкая, рыхтуецца да выдання ў юбілейным для старажытнага Полацка годзе. Выдавецтва Беларускага Экзархата завяршае лічбавы варыянт духоўнага рарытэта.

✔ Рэканструкцыя і тэхнічнае пераабсталяванне шасці айчынных тэатраў вядзецца сёлета. Гэта — Брэсцкі і Гродзенскі абласныя тэатры лялек, Слонімскі беларускі драматычны тэатр, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр і Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Усяго за перыяд з 2004 года завершаны рамонт і абнаўленне 18 беларускіх тэатраў.

✔ У Год Кнігі Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі вылучае сто самых цікавых кніг пасродкам інтэрнэт-галасавання. Таксама ў планах БРСМ арганізацыя круглагадовай інтэрнэт-алімпіяды для членаў клубаў юных журналістаў і конкурс для літаратараў-пачаткоўцаў, які будзе праводзіцца ў партнёрстве з Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Да 1150-годдзя Полацка

# Гасцям тут заўсёды рады

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

**У святкаванні 1150-годдзя Полацка возьмуць удзел дэлегацыі 18 яго пабрацімаў з бліжняга і далёкага замежжа.**

Полацк. Усяслаў Брачыслававіч, Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі… Кожнае імя — яркая, нязгасная зорка Беларусі. Старажытны легендарны горад рыхтуецца да юбілею. Гэтай тэме была прысвечана прэс-канферэнцыя "Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці".

Старшыня Полацкага гарвыканкама Аляксандр Пазняк расказаў журналістам пра ход падрыхтоўкі да ўрачыстасцей, якія пачнуцца 25 мая і закончацца 5 чэрвеня. Да юбілею выдадзена кніга "Полацк — бацька гарадоў беларускіх", брашуры, буклеты і праспекты, створаны рэкламны відэаролік. Сумесна з латышскімі і літоўскім партнёрамі распрацаваны турыстычны маршрут па беларуска-балтыйскім рэгіёне праз Полацк.

Вечарам 25 мая адбудзецца канцэрт "Шэдэўры опернага мастацтва каля сцен старажытнай Сафіі", а таксама фэст сярэднявечнай культуры. У святочныя дні адкрыюцца выстаўка "Беларускія мастакі Полацку", гандлёва-рамесніцкія падворкі "Полацкі гандлёвы пасад". Зоркі эстрады выступяць у канцэрце "Залатая калекцыя беларускай песні". Навукоўцы і даследчыкі збяруцца на міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Полацк, Полацкая зямля ў гісторыі культуры Еўропы".

Намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў значнасць Полацка ў сусветнай гісторыі. ЮНЕСКА ўключыла 1150-годдзе горада ў каляндар памятных дат 2012 — 2013 гадоў. Пры садзейнічанні гэтай міжнароднай арганізацыі пра юбілей беларускага горада даведаюцца не толькі жыхары і госці Парыжа (месца штаб-кватэры ЮНЕСКА), але і ў іншых гарадах ды краінах.

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка нагадаў, што закончэнне ўрачыстасцей запланавана на 5 чэрвеня — дзень памяці святой Еўфрасінні Полацкай, заступніцы зямлі беларускай. Ён пачнецца Хрэсным ходам і сумесным урачыстым богаслужэннем царкоўных іерархаў трох святых Сафій — Полацка, Вялікага Ноўгарада і Кіева. Несумненна, што цікавасць выкліча і міжнародны фестываль перазвону.

Вячаслаў Даніловіч, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, паведаміў, што да юбілею Полацка падрыхтавана калектыўная манаграфія навукоўцаў. Гэта ўнікальнае выданне, аналагу якому няма ў гісторыяграфіі.

Старажытны Полацк плануе прыняць прыкладна тры тысячы гасцей, дэлегацыі 18 гарадоў-пабрацімаў, а таксама гарадоў, якія сталі ў вытокаў беларускай дзяржаўнасці, — Мсціслаўля, Оршы, Турава, Пінска і іншых. Яны прадставяць гісторыю сваіх родных мясцін на тэматычных падворках, у выступленнях творчых калектываў.

Полацк — беларускі Рым. Кіраўніцтва горада клапоціцца пра стварэнне адпаведнай турыстычнай інфраструктуры, добраўпарадкаванне гістарычных аб'ектаў.

Аляксандр Пазняк запэўніў: свята будзе цікавым, змястоўным і запамінальным.

## Імпрэзы



# Пра Беларусь на сямі мовах

Стас ЛОКУШ,
фота Кастуся Дробава

**Міжнароднае радыё "Беларусь" Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі наладзіла прэзентацыю ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Месца імпрэзы, прымеркаванай да пяцідзесяцігоддзя радыёстанцыі, было абрана не выпадкова. Праграмы Радыё "Беларусь" гучаць у міжнародным эфіры на сямі мовах. Таму большасць супрацоўнікаў — студэнты, выпускнікі і нават выкладчыкі МДЛУ.**

Дзякуючы гэтай прэзентацыі студэнты МДЛУ атрымалі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з Радыё "Беларусь" і ў перспектыве — праявіць свае здольнасці ў міжнародным эфіры. Галоўны дырэктар Радыё "Беларусь" Навум Гальпяровіч падкрэслівае, што такія сустрэчы дапамагаюць многім студэнтам вызначыцца з будучай прафесіяй:

— Наша радыё гучыць у міжнародным эфіры на сямі мовах, з якіх пяць — замежныя: англійская, нямецкая, польская, французская ды іспанская. Зразумела, што прафесійнае валоданне мовамі — адно з галоўных патрабаванняў да нашых супрацоўнікаў. Але ж толькі добра гаварыць і пісаць па-англійску ці па-нямецку — яшчэ паўсправы. Трэба развіваць журналісцкія навыкі, літаратурныя і акцёрскія здольнасці.

Трэба зазначыць, што немалую долю ў вяшчанні на замежжа займаюць наша нацыянальная культура, літаратура. З цікавасцю праслухалі студэнты ўрывак з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" на польскай мове ў выкананні артыста Алега Вінярскага.

Шмат карыснага пра паўвекавую гісторыю Радыё "Беларусь" і яго сённяшні дзень даведаліся прысутныя ад намесніка галоўнага дырэктара Р. Прохарава, дырэктара праграм на замежных мовах В. Лакцюшына, загадчыка аддзела З. Занеўскага, супрацоўнікаў англійскай і нямецкай службаў Л. Суарэс, К. Кавалёвай, А.Шыкун.

*На здымку: супрацоўнікі Радыё "Беларусь" на чале з дырэктарам Навумам Гальпяровічам.*

## Рэха падзеі

# Яны сталі першымі

Яўген СІНІЧЭНКА

У Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ўручылі дыпломы чатыром першым выпускнікам факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі па спецыяльнасці "Літаратурна-мастацкая творчасць".

Выпускнікоў павіншаваў дырэктар Інстытута журналістыкі, кандыдат філалагічных навук дацэнт Сяргей Дубовік.

У аўдыторыі Інстытута сабраліся выкладчыкі і выпускнікі гэтай установы. Панавала атмасфера згуртаванасці, прыязнасці, але ў той жа час і нейкай універсітэцкай строгасці, урачыстасці. Кожны з гэтых студэнтаў за два гады навучання стаў блізкі выкладчыкам і, у прыватнасці, дэкану факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі, кандыдату філалагічных навук, дацэнту Ганне Басавай, якая лічыць, што студэнты гэтай спецыяльнасці — будучыня беларускай творчай інтэлігенцыі, і спадзяецца, што яны стануць добрымі прадаўжальнікамі духоўных традыцый нашай краіны.

# «У яркім вобразе жанчыны»

**Нечакана, ярка і па-веснавому святочна прайшоў у Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы "круглы стол" з беларускімі пісьменніцамі Раісай Баравіковай, Наталляй Голубевай, Наталляй Батраковай, Юліяй Зарэцкай, Таццянай Сівец і Яўгеніяй Пастэрнак — "У яркім вобразе жанчыны…"**

Аляксей ГАРБУНОЎ

Журналісты, большасць з якіх таксама аказаліся прадстаўніцамі прыгожай паловы чалавецтва, цікавіліся месцам творчасці ў жыцці жанчыны, перспектывамі гэтак званай "жаночай" літаратуры, а таксама стаўленнем нашых пісьменніц да свайго літаратурнага поспеху.

Пасяджэнне пачалося з уручэння кожнай з прысутных кветак, чым нібыта падкрэслівалася адметнае месца жанчыны ў свеце, якім кіруюць мужчыны. Аднак гутарка распачалася, і ўпэўненасць у менавіта такой пабудове грамадства пахіснулася. Першае ж пытанне, зададзенае пісьменніцам, гучала гэтак: "Ці праўда, што жанчына кіруе светам?"

— Вельмі многім насамрэч кіруе жанчына, — адказала Раіса Баравікова. — Мы — цывілізацыя культурная і развітая, адмаўляць заканамернасць існавання ў нашых продкаў матрыярхату наўрад ці будзем. Яны цанілі і шанавалі сакральнасць жаночай існасці, той, што дае жыццё і захоўвае род. У беларускай тапаніміцы і этнакультуры існуюць і Бабін Камень, і Бабіна Дарога, і жаночае бажаство Баба, і культ вясковай Бабы-пупарэзкі. Я памятаю стаўленне да павітухі на вёсцы. Як да святой, бо лічылася, што пупарэзка перадае новым пакаленням сваю моцную жыццядайную энергетыку. Ёсць у жаночай сутнасці нешта таемнае і моцнае, што мусіць прызнаць за ёй права на кіраванне светам.

Іншую думку выказала Наталля Голубева:

— І мужчыны, і жанчыны — частачкі Сусвету. Раўнацэнныя, і таму я за раўнапраўе. Аднак раўнапраўе не значыць тоеснасць. У мужчыны лепш атрымліваецца абарона ўсяго жывога. Жанчына ж валодае талентам слухаць і разумець гэты свет.

Адказваючы ж на іншае пытанне, пра натхненне, Наталля Аляксандраўна як аўтар многіх гістарычных кніг сказала:

— Натхняе на стварэнне новых твораў велізарная колькасць гістарычных дакументаў, якія захоўваюцца ў нашых архівах і пакуль не сталі здабыткамі многіх людзей.

А вось Юлію Зарэцкую натхняюць самі людзі з іх найцікавейшымі драматычнымі жыццёвымі гісторыямі. Зрэшты, менавіта з жыцця, прызналіся і іншыя суразмоўцы, бяруць яны сюжэты для сваіх празаічных твораў. А паэзія? Яна, як аказалася, нараджаецца глыбока ў душы пад неадольным парывам пачуццяў. І гэта падобна да ўспышкі свята, да моманту ісціны, да цёплай хвалі абсалютнага шчасця.

Амаль усе згадзіліся: падзяляць літаратуру на "жаночую" і "мужчынскую" нельга. Што такое "жаночая літаратура"? Творы, напісаныя жанчынамі? Творы "лёгкага" жанру? Феміністычныя творы? Калі няма адназначнага адказу, пра што размова? Яўгенія Пастэрнак распавядала пра свой вопыт літаратурнай працы з аўтарам-мужчынам — Андрэем Жвалеўскім. А Наталля Батракова — пра тое, як мужчыны кансультавалі яе пры апісанні боек у раманах.

Пытанні да пісьменніц былі самыя розныя. Але нікому з журналістаў не прыйшло ў галаву пацікавіцца, чаму менавіта гэтыя шэсць жанчын былі запрошаны трымаць адказ за ўсіх прадстаўніц сучаснай беларускай літаратуры. Проста яны — з ліку самых паспяховых аўтараў, яны, здаецца, знайшлі ўжо свайго адданага чытача. А значыць, ім ёсць пра што распавесці.

## Літабсягі

# Сустрэча ў кіназале

**У сталічным кінатэатры "Піянер" у межах новага праекта "Будзем знаёмыя!" адбылася творчая сустрэча пісьменніка Сяргея Трахімёнка са старшакласнікамі чатырнаццаці мінскіх школ.**

Лізавета БАГАДЗЯЖ,
фота Кастуся Дробава

Размовы з цікавымі людзьмі перад кінасеансамі тут — даволі частая з'ява. Юныя кінааматары ахвотна ідуць на кантакт з гасцямі, трымаюцца непасрэдна — гэта ж не бібліятэка і не школьная актавая зала. Ведаючы пра гэта, адміністрацыя "Піянера" вырашыла ў Год Кнігі запусціць праект з пісьменніцкімі творчымі сустрэчамі. Саюз пісьменнікаў Беларусі ахвотна пайшоў на кантакт і прапанаваў шэраг сапраўды неардынарных творцаў, якія ўмеюць трымаць увагу залы і ведаюць, як прадставіць маладому чытачу свае кнігі, каб ён захацеў пазнаёміцца з імі бліжэй.

Сяргей Трахімёнак, аўтар захапляльных раманаў і аповесцей пра нашых разведчыкаў і варожых шпіёнаў, абаронцаў правапарадку і яго парушальнікаў, людзей, на чый лёс выпала выпрабаванне вайной, і тых, хто служыць Айчыне ў мірны час, стаў першым у гэтым спісе.

Меў рацыю класік марксізму, калі распавядаў пра выключнае значэнне кіно для народных мас. Сяміхвілінны дакументальны фільм-прэзентацыя пісьменніка Трахімёнка перад яго выступленнем адразу настроіў школьнікаў на гутарку з чалавекам, які не толькі стварае кнігі, але і асабістую біяграфію мае не менш цікавую, чым у літаратурнага героя. А ўсмешлівы мужчына з гітарай, што з'явіўся перад юнакамі і дзяўчатамі адразу пасля прагляду стужкі, аказаўся настолькі абаяльным суразмоўцам, што праз некалькі хвілін ужо ўспрымаўся моладдзю не як настаўнік жыцця, а як вопытны старэйшы таварыш, які мае права на параду.

Школьнікі адразу ж "засыпалі" госця пытаннямі, якія былі не толькі і не столькі пра творчасць — яны былі пра жыццё. Пра канкрэтныя і гіпатэтычныя выпадкі, пра асабістыя прыхільнасці Сяргея Трахімёнка і тое, што яго непакоіць. Пісьменнік аказаўся з пачуццём гумару. І густу. Словы перамяжалася жартам і песнямі, якія таксама адказвалі на пэўныя пытанні. Урэшце Сяргей Аляксандравіч прапанаваў прыз за лепшае пытанне — уласную кнігу з аўтографам.

Пасля гутаркі з літаратарам моладзь з цікавасцю паглядзела мастацкую кінастужку вытворчасці кінастудыі "Беларусьфільм" "На спіне ў чорнага ката". Наступная пісьменніцкая сустрэча ў праекце "Будзем знаёмыя!" запланавана на май. У госці запрошана паэтка Таццяна Лебедзева.



***На здымку: песні ў выкананні вядомага пісьменніка спадабаліся ўсім.***

## Артлінія

Святлана ШВАЙБОВІЧ,
дызайнер

# Свет праз выцінанку

**Выстаўка "Папяровыя карункі" адкрылася ў Барысаве ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева. Экспазіцыя знаёміць гледачоў з цудоўным, казачным і прыцягальна прыгожым светам мастацтва выцінанкі. Аўтар гэтага трапяткога і крохкага скарбу — мастачка Ірына Гінц, колішняя выпускніца Мінскага мастацкага каледжа імя А. Глебава ды мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.**

Ірына сёння дапамагае дзецям спазнаць свет прыгажосці, выкладаючы творчыя дысцыпліны ў СШ № 2 горада Барысава. Тут яе добра ведаюць як удзельніцу шматлікіх выставак, з творчасцю мастачкі знаёміліся гледачы ў іншых гарадах Беларусі, а таксама за мяжой. Ірына Гінц валодае многімі прыёмамі стварэння незвычайнай прыгажосці на звычайным палатне, можа крэатыўна раскрыць светаўспрыманне праз інсталяцыю.

Гэтым разам у цэнтры ўвагі апынулася менавіта беларуская выцінанка. Як вядома, асаблівасць яе — у прынцыпе шматразовага складвання паперы, манахромнасці і сіметрыі. Выцінанка распаўсюдзілася па Беларусі ў той час, калі вясковыя дзяўчаты не маглі сабе дазволіць адмысловыя заморскія карункі для аздобы хаты, а здзіўляць навакольных вытанчаным густам ды незвычайным "дызайнам" вокнаў было найпершай справай, асабліва на вялікія святы. Вось так ад белага аркуша паперы з дапамогай нажніц для стрыжкі авечак (напачатку менавіта яны выкарыстоўваліся народнымі майстрамі) нарадзілася беларуская выцінанка.

Звычайна, калі мы чуем слова "выцінанка", ва ўяўленні перадусім з'яўляюцца класічныя сняжынкі, добра вядомыя кожнаму з дзяцінства. А пачынаеш разглядаць творы Ірыны Гінц — і проста здзіўляешся, як такое магчыма! Большасць з нас пры наяўнасці нейкага досведу працы з нажніцамі ды належнай цярплівасці можа паспрабаваць выразаць сняжынку, альбо птушачку, альбо анёла... А вось паказаць праз выцінанку "Зімовы сон", ці "Вясновыя спевы", ці "Купалле" альбо "Вялікдзень" здольны толькі Майстра гэтай справы!

Мінаюць гады і стагоддзі, а цуд-выразанка жыве, удасканальваецца, працягвае радаваць вытанчаным хараством. Сёння можна з упэўненасцю казаць, што выцінанка стала ўвайшла ў свет беларускага мастацтва і пачуваецца там утульна ды пасвойску. І нясе яна на сабе нейкі адбітак сакральнасці ды пэўнай непрадказальнасці. Бо калі працуеш над такім папяровым вырабам, бачыш толькі палову ад цэлага — таго, што павінна атрымацца.

На думку Ірыны, прыцягальнасць выцінанкі ў тым, што яна дае магчымасць і дарослым, і дзецям, і людзям сталага веку творча бавіць вольны час — асвоіць у нейкім сэнсе медытатыўны занятак: мастацкае выразанне з паперы. Можна такім чынам падрыхтаваць невялікія падарункі сваім сябрам ды сваякам: арыгінальныя паштоўкі, пано ды шмат іншай драбязы. Бо выцінанка — гэта найперш неўтаймаваны палёт вашай фантазіі, якой вы дапамагаеце набыць рэальныя абрысы!



***На здымку: выцінанка Ірыны Гінц.***

## Повязі

# Паўлавапасадская казка

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Уладзіміра Пучынскага

***Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах экспануе лепшыя ўзоры славутых паўлавапасадскіх шаляў. Выстаўка працягнецца да 30 красавіка.***

Раскошная стракатая шаля з доўгімі кутасамі яшчэ ў пачатку XX стагоддзя была своеасаблівым атрыбутам заможнасці, добрага густу жанчыны і — сведчаннем любові і гармоніі ў яе сямейным жыцці. Шчодры, непітушчы муж абавязкова дарыў каханай жонцы такое ўпрыгажэнне. Чым больш дарагая шаля, тым больш статус жанчыны ў грамадстве.

Калісьці самыя яркія шалі прывозілі купцы з Усходу. Пасля з'явілася мануфактура ў старажытным горадзе Паўлаўскі Пасад (Расія), дзе выраблялі шалі з такімі непаўторнымі і блізкімі, такімі роднымі для вачэй славянкі кветкамі. За амаль 200 гадоў свайго існавання тут склалася адзіная ў сваім родзе паўлавапасадская школа хустачнага малюнка.

Час ідзе, а паўлавапасадскія шалі па-ранейшаму карыстаюцца попытам. Яны даўно перасталі быць аксесуарамі да адзення толькі рускіх жанчын, набыўшы вядомасць далёка за межамі краіны. І, безумоўна, цудоўна "ўпісаліся" ў жыццё беларусак. І хаця сёння жанчыны значна радзей носяць іх на галовах, плечы іх па-ранейшаму чакаюць дотыку гэтага стракатага цуда, якое, аказваецца, пасуе і да дублёнкі ў этна-стылі, і да зручнай курткі на кожны дзень, і да заходнееўрапейскага пакрою драпаванага паліто.

Каля 40 шаляў і хусцін вытворчай калекцыі "Вытокі" завітала сёлета ў Раўбічы. За апошнія два гады гэта ўжо дзясятая выстаўка славутага расійскага вытворцы ў Беларусі. Некаторыя шалі паўтараюць узоры XIX — пачатку XX стагоддзя. Старыя малюнкі, аднаўлёныя сёння, ствараюць непаўторную атмасферу гістарычнасці. На выстаўцы прадстаўлены і ўзоры паводле лепшых малюнкаў сучасных паўлавапасадскіх мастакоў. Залатыя лілеі на цёплым, глыбокім чорным фоне; яркія, "цыганскія" ружы сярод зялёных лісткоў; пяшчотна-ружовая шыпшына; мудрагелісты "кашмірскі" арнамент, які калісьці стаў неад'емнай часткай традыцыйнай рускай хусціны... А некаторыя шалі зроблены наогул як карціны. Напрыклад, "Казкі Пушкіна".

Прадстаўленую на выстаўцы калекцыю паўлавапасадскіх шаляў стварылі тытуляваныя майстры — заслужаныя мастакі Расіі, лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Расійскай Федэрацыі Ірына Дадонава і Віктар Зубрыцкі, лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Расіі Алена Жукава, Таццяна Сухарэўская, Валерыя Фадзеева, мастакі Наталля Белакур і Алена Фаварытава. Яны нагадваюць нам, што мода — з'ява часовая, а сапраўднае мастацтва, у якой бы галіне яно ні выяўляла сябе,— вечнае.



***На здымку: такая шаля толькі падкрэсліць хараство славянскай красуні.***

## З-пад пяра

➤ У вялікай зале Дома літаратара прайшоў творчы вечар, прысвечаны памяці пісьменніцы Алены Пяхоты, якая тварыла ў рэдкім для паэзіі жанры — фэнтэзі. Вечар арганізавалі Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне Беларускага саюза музычных дзеячаў. Успамінамі пра Алену Ануфрыеўну падзяліліся пісьменнік Міхась Пазнякоў, мастак Генадзь Пяхота. На вечары прагучала нямала вершаў Алены Пяхоты ў выкананні артысткі Вольгі Багушэўскай. Слухачы горача апладзіравалі таксама спевакам і музыкантам Надзеі Бронськай, Аляксею Скрыпніку, Сяргею Міклашэўскаму, Таццяне Бандарэнцы, якія ўпрыгожылі вечар сваім майстэрствам.

Павел КУЗЬМІЧ

➤ У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі "Над Віллёй-ракой..." ("Адкрый Літву"), створанай у рамках Міжнароднага выставачнага праекта музея Песняра, фотаклуба "Мінск" і фотаклуба "FOTOEXPRESS.LT" (Літва) пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Літоўскай рэспублікі і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы. Выстаўка прымеркавана да Дня Незалежнасці Літвы і 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Работы членаў клуба "FOTOEXPRESS.LT" даюць магчымасць беларускаму гледачу ўбачыць суседнюю дзяржаву вачыма яе жыхароў, а таксама пазнаёміцца з тымі літоўскімі мясцінамі, якія звязаны з жыццём і творчасцю Янкі Купалы.

Марына ПЛАЎСКАЯ

➤ У Брэсцкім музеі выратаваных каштоўнасцей прайшла першая з серыі сустрэч з аматарамі творчасці літаратараў Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На ёй гучалі вершы і празаічныя ўрыўкі ў выкананні майстроў слова і слухачоў з залы. Пісьменнікі Зінаіда Дудзюк, Георгій Тамашэвіч, Любоў Красеўская, Анатоль Бензярук, Аляксандр Юдзіцкі распавялі ўдзельнікам сустрэчы, як нараджаліся некаторыя іх творы, падарылі музею свае кнігі з аўтографамі.

Аляксандр МАІСЕЕЎ

➤ Сёлета грамадскасць нашай краіны будзе адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Танка — ураджэнца Мядзельшчыны. З гэтай нагоды ў школах і ўстановах культуры раёна ладзіцца шмат мерапрыемстваў, падчас якіх пра знакамітага беларускага паэта згадваюць яго паслядоўнікі — сучасныя пісьменнікі. Не засталася ўбаку і Камароўская сярэдняя школа, дзе правялі вечар паэзіі пад назвай "Пакуль душа натхнення просіць". Госць імпрэзы — паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, загадчык аддзела эканомікі і рынкавых адносін мядзельскай раённай газеты "Нарачанская зара" Аляксандр Быкаў. Вучні дэкламавалі вершы паэта, выконвалі песні, напісаныя на яго тэксты. І сам герой вечара парадаваў слухачоў новымі творамі.

Міра ІЎКОВІЧ

➤ Мерапрыемствы пад агульнай назвай "Далучыся да роднага слова" правялі супрацоўнікі Рагачоўскай дзіцячай бібліятэкі, якой загадвае Людміла Гуськова. Святы беларускай мовы яны арганізавалі ў гімназіі з удзелам навучэнцаў 2 — 3-х класаў і ў сярэдняй школе № 3, дзе ўдзельнікамі свята былі першакласнікі. Дзеці разам з бібліятэкарамі акунуліся ў свет казак з кнігі Анатоля Караленкі "Вясёлка «чорнага золата»" і п'есы-казкі Галіны Каржанеўскай "Кошка мышцы не сястрыца".

Міхась КАВАЛЁЎ

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Ягоны «Вянок» — «Матчын дар»

**Лёс адмераў Алесю Гаруну ўсяго 33 гады. Як і Максім Багдановіч, ён застаўся аўтарам адзінага паэтычнага зборніка, выдадзенага ў 1918 годзе. Праўда, былі яшчэ дзве кнігі, пазначаныя 1920 годам: “Жывыя казкі”, адрасаваная дзецям, і асобнае выданне паэмы “Мае Коляды”. Аднак ягоны “Вянок” — гэта, безумоўна, “Матчын дар”.**

Аднак М. Багдановіч куды хутчэй прыйшоў да чытача такім, якім ён і ёсць. А. Гаруна ж не крытыкавалі. Яго проста замоўчвалі. Ажно да 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі, кажучы словамі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, “трапяткое слова аднаго з самых пакутных яе песняроў” нарэшце было вернута з небыцця. Асабліва шмат дзеля гэтага зрабіў Уладзімір Казбярук, пра што засведчылі ягоныя публікацыі ў перыёдыцы. У 1991 годзе напісаны ім нарыс жыцця і творчасці А. Гаруна выйшаў у серыі “Нашы славутыя землякі”. У. Казбярук падрыхтаваў два аднатомнікі А. Гаруна, адзін з якіх — “Выбраныя творы” — папоўніў бібліятэчку “Беларускі кнігазбор”.

Прычына такога доўгага забыцця А. Гаруна — ягоная палітычная біяграфія. Аляксандр Прушынскі (сапраўднае прозвішча), зразумела, не застаўся ўбаку ад рэвалюцыйнай барацьбы, бо, як шчыры сын Беларусі, жадаў ёй лепшай долі. Больш за тое, на гэты цярністы шлях ён стаў зусім яшчэ маладым, у 1904 годзе, маючы за плячыма ўсяго сямнаццаць гадоў. Аднак у адрозненне ад тых, хто звязаў свой лёс з партыяй бальшавікоў, пайшоў іншым палітычным шляхам: уступіў у партыю эсэраў. 4 сакавіка 1907 года А. Гаруна арыштавалі ў падпольнай друкарні ў Мінску (у Мінску, дарэчы, 11 сакавіка 1887 года ён і нарадзіўся). Судзілі яго, прытым двойчы, разам з ягоным кампаньёнам Абрамам Левітасам. Абодвух 10 ліпеня 1908 года адправілі на пасяленне ў Сібір.



Лютаўскую рэвалюцыю А. Гарун сустрэў на прыісках у Бадайбо. Напярэдадні ён, спачатку ў сяле Макараўскае над Ленай, а потым у вёсцы Крывая Лука, займаўся сталярскімі і слесарскімі работамі, потым працаваў на Лене вадалівам. У Сібіры пазнаёміўся і пасябраваў з Язэпам Лёсікам. На вяртанні ў верасні 1917 года ў Мінск ад палітычнай барацьбы не адмовіўся. Ды зноў жа ішоў не ў “агульным рэчышчы”, а ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. Калі ж БСГ распалася, стаў членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Дый у далейшым ішоў сваім шляхам, хоць, як вядома, ён быў не такім і доўгім, бо з Сібіры вярнуўся хворым на сухоты. Памёр Алесь Гарун 28 ліпеня 1920 года ў Кракаве, куды быў вывезены незадоўга да гэтага на санітарным поездзе. Ягоны стан быў настолькі цяжкі, што ў вагон яго ўнёслі на насілках.

Паводле сведчання Максіма Гарэцкага, вершы А. Гарун пісаў змалку, прытым спачатку гэта рабіў па-руску. Аднак першыя пробы пяра не захаваліся. Самы ранні, што дайшоў да нас, — ужо згаданая паэма “Мае Коляды”. Першы ж надрукаваны верш “Маці-Беларусі”, які датуецца 1907 годам, пабачыў свет у 28-м нумары газеты “Наша ніва”. Зразумела, што пісаўся ён у ссылцы, як і шмат якія іншыя. Яны сталі сведчаннем таму, што А. Гарун не толькі не зламаўся, але і жыў упэўненасцю, што ўсё зменіцца да лепшага.

Знаходжанне А. Гаруна ў Сібіры — гэта, па сутнасці, тая ж адарванасць ад Беларусі Максіма Багдановіча. Канечне, паралель такая шмат у чым умоўная. Усё ж становішча М. Багдановіча было куды іншае, чым А. Гаруна, але ёсць і агульнае. Як слушна зазначыў У. Казбярук, А. Гаруну “даводзілася — без падручнікаў і граматык, нарматыўных і тлумачальных слоўнікаў, без бібліятэк і роднага асяроддзя не толькі засвойваць, але і выпрацоўваць для сябе правілы і нормы роднай мовы з яе багатымі стылёвымі і вобразнымі магчымасцямі, з выкарыстаннем лексічных багаццяў, якія зберагла яго маладая памяць, не трэба забываць, што гэта быў перыяд, калі правапіс і літаратурныя нормы беларускай мовы яшчэ толькі складваліся там, дзе з’яўляліся першыя перыядычныя выданні, кнігі, зборнікі, календары”.

Аднак трэба памятаць і іншае: А. Гарун правучыўся ўсяго тры гады ў царкоўнапрыходскай школе і столькі ж гадоў на дрэваапрацоўчым аддзяленні рамеснага вучылішча. Значыць, і ў сэнсе адукацыі да многага і многага мусіў даходзіць сам. Таму сібірскі перыяд даў яму вельмі шмат. Была, вядома, знясільваючая праца: “Часамі праца ўдзень кіпіць, — // Цярплю і я прыгон, — // Аж косць аб косць ў плячу рыпіць...”, але было і тое, што спрыяла нараджэнню паэта са сваім адметным почыркам.

Алесь Гарун, адарваны ад Бацькаўшчыны, унутрана, усёй повяззю сваіх думак і памкненняў быў звязаны з тым, чым жыла тагачасная беларуская літаратура. Пацвярджэннем таму, прынамсі, — ягоны верш “Малітва”, што пераклікаецца з купалаўскім “Цару неба і зямлі” (пра яго А. Гарун не мог ведаць хоць бы таму, што ўпершыню верш пабачыў свет у 1922 годзе). Але вось што цікава: абодва вершы датаваны 1912 годам, з разбежкай напісання ў нейкія два месяцы. Да Цара неба і зямлі звяртаўся Я. Купала. Усявышняму адрасавана і маленне А. Гаруна:

*Схініся к нам Ты і абач:*
*З гадзінай горш жывецца,*
*Цяжэе боль, мацнее плач,*
*Галоў усё болі гнецца.*
*Паслухай ноччу, ўдзень, Святы,*
*Скажы маўчацці звонам, —*
*І колькі жальб пачуеш Ты!*
*Зямля азвецца стогнам...*

Але А. Гарун выступаў не толькі ў паэзіі. У газетах “Наша ніва”, “Вольная Беларусь”, “Беларус” і іншых змяшчаліся ягоныя абразкі, апавяданні. Шмат што было апублікавана і тады, калі пісьменніка ўжо не стала. Нешта дайшло да чытача, перадрукаванае з рукапісаў. Усё гэта кранаецца чуйных струн чытацкай душы, бо яно не прыдуманае, а ўзятае з самога жыцця. Ва ўсякім разе игрная “прысутнасць” відавочна там, дзе выказваецца стаўленне да беларускасці. Як у апавяданні “Свята”, галоўны герой якога Грыневіч нечакана для самога сябе апынуўся ў сібірскай глушы, знайшоўшы на сваіх катаржных дарогах блізкую сабе, “родную душу”. У “страшнай сібірскай самоце” прыходзіць сапраўднае свята: “Бабка гаварыла па-беларуску! Словы, якімі яна зрабіла свой адказ нявестцы, звінелі, як тыя, каторымі ён думаў. Адкуль тут яго родная мова?” Як высветлілася, старэнькая бабулька — родная сястра бабулі Грыневіча, пра лёс якой ён так доўга нічога не ведаў.

Драматургічныя ж творы пісаліся ўжо тады, калі аўтар іх быў прыкаваны да ложка, але, не зважаючы на гэта, не страчваў аптымізму не толькі ў жыцці, а і ў творчасці. Сваімі казкамі выхоўваў у дзяцей лепшыя чалавечыя якасці, вучыў іх дабрыні, шчырасці, спагадзе.

Алесь Гарун верыў у беларускі народ, кроўнай часцінкай якога з’яўляўся. І ніколі не ставіў сябе вышэй за яго. Такое стаўленне і мусіць быць у таго, хто сваім народам узгадаваны:

*Народ — не мы, не чалавек,*
*Яму нішто ні год, ні век,*
*Ні бой насмерць, ні гнеў, ні здзек;*
*Народ — не слабы чалавек.*
*Народ — крыніца. Шмат лам’я*
*Кідала ворагаў сям’я*
*Ў крыніцу тую — цёк спыніць,*
*Каб жыцце смерцю замяніць.*
*І ўсё дарма: з варожых пут*
*Народ ўстае, як нейкі цуд.*

Свой вечны спачын А. Гарун знайшоў на вайсковых Ракавіцкіх могілках у Кракаве, дзе на яго магіле 24 верасня 1988 года намаганнямі актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы нарэшце быў адкрыты помнік. У тым жа годзе выдавецтва “Мастацкая літаратура” факсімільна перавыдала “Матчын дар”.

## *Госці з «Маладосці»*

Мікола КАНДРАТАЎ

# Поле барацьбы Алеся Гаруна

**Часопіс “Маладосць”, у якім на пачатку года з’явілася новая рубрыка “Літаратурны задыяк”, прапануе і чытачам “ЛіМа” пазнаёміцца з астралагічным поглядам на лёс паэта Алеся Гаруна, 125-годдзе якога адзначаецца ў гэтым месяцы. Чытайце ў сакавіцкім нумары “Маладосці” іншыя матэрыялы рубрыкі — “Ратаванне вершамі Еўдакіі Лось” Міколы Кандратава і “Крыж Кандрата Крапівы” Іны Лайвант.**

Алесь Гарун нарадзіўся пад знакам Рыб, але не з’яўляецца яркім прадстаўніком названага знака, бо ў ім апрача Сонца знаходзіцца толькі Чорны Месяц. Найбольш жа вылучаныя ў ягонай касмаграме два процілеглыя знакі — Авен і Шалі. Яны нібы два палюсы, паміж якімі працякалі жыццё і дзейнасць пісьменніка-рэвалюцыянера. Авен — знак актыўнасці і напору, прамалінейнасці і барацьбы. Шалі — наадварот, сімвалізуюць партнёрскія адносіны, гармонію і элітнасць, этыку і эстэтыку. Многае з названага мела месца ў жыцці Алеся Гаруна, нялёгкім і трагічным.

Нягледзячы на няпоўнасць знака Рыб, ён усё роўна быў важным для пісьменніка, бо ў ім знаходзіцца планета Сонца, якая сімвалізуе самога чалавека, яго дух. Якім чынам мусіў выявіцца Алесь Гарун, паказваюць планеты-апекуны ягонага сонечнага знака. Так, Няптун знаходзіцца ў знаку Цяльца, знаку, які адметны назапашаннем матэрыяльных каштоўнасцей, унутраным настроем на спакой і гармонію. Другі апякун знака Рыб, Юпітэр, у касмаграме Гаруна трапіў у Скарпіён — знак экстрэмальных сітуацый, рызыкі, масавых рухаў, смерці і адраджэння. Як бачым, названыя планеты-апекуны таксама пацвярджалі напружанне і супярэчнасць, палярнасць жыццёвых праяў Алеся Гаруна — у рэвалюцыі і творчасці.

Трэба адзначыць абумоўленасць зведаных Алесем Гаруном перыпетый яшчэ адной вельмі важнай акалічнасцю ў ягонай касмаграме. Як вядома, авестыйская астралогія адрозніваецца ад заходняй у першую чаргу тым, што апошняя не ўлічвае фіктыўныя планеты Селену і Друдж. Селена сімвалізуе светлую праграму чалавека, шлях ісціны і святарнасці, а Друдж — паказчык граху і спакусы, шлях заганы і падману, наша ахілесава пята. Яны вызначаюць у гараскопе чалавека месца Дабра і Ліха. У дадзеным выпадку атрымалася, што гэтыя планеты пазначаюць сваёй прысутнасцю важныя антаганістычныя лагеры: знак Шалі з Белым Месяцам і Месяцам з аднаго боку, а з другога — знак Авена, дзе паяднаны знак Рыб з Сонцам і Чорным Месяцам у злучэнні. Паяднанасць знакаў Рыб і Авена абумовіла становішча планет Сонца і Венеры, што памяняліся сваімі знакамі экзальтацыі — іх рэцэпцыя, якая звязвае планеты часам нават мацней, чым звычайны аспект паміж імі.

Першы лагер планет у касмаграме Алеся Гаруна спрыяў паэтычнай творчасці: Месяц у злучэнні з Уранам азначае падсвядомае адчуванне Бога. Паэт карыстаўся тэанімічнай лексікай і выяўляў гуманістычнае светабачанне ў сваіх творах.

Але другі лагер планет падштурхнуў маладога Алеся да рэвалюцыйнай дзейнасці. Вядома, што Сонца (дух) у злучэнні з Чорным Месяцам у знаку Рыб сімвалізуе сакрэтныя арганізацыі, таемных ворагаў і заганнае грамадства. А таксама падказвае, што Рыбы — ахілесава пята касмаграмы Гаруна. Друдж імкнуўся шляхам падману спакусіць ягоны дух, прымусіць працаваць на сістэму Ліха. Але ад самага горшага варыянта — пераўтварэння ў страшнага злодзея, правобраз паўшага анёла Люцыфера — Алеся Гаруна ратавала літаратурная творчасць, паэтычнае, а пазней і празаічнае слова. Пра гэта гаворыць Меркурый у злучэнні з Марсам, па іншаму, воля, жарсць слова пад знакам Авена. Марс у касмаграме Гаруна самая моцная планета са станоўчым каралеўскім кармічным статусам 12 балаў. Яна давала смеласць, нават пасіянарнасць, але пры гэтым знаходзілася ў 1° — градусе вяртання даўгоў, ахвярнага ягняці. Такі чалавек бярэ на сябе грахі іншых людзей.

На вялікі жаль для беларускай літаратуры ў гараскопе Алеся Гаруна сілы Ліха аказаліся мацнейшымі.

Як паведамлялася ў польскім урадавым лісце з вайсковага шпіталя, Алесь Гарун памёр ад дызентэрыі 28 ліпеня 1920 года ва ўзросце 33 гадоў. Якраз у гэты час транзітнае Сонца, што азначае становішча планеты ў бягучы момант, стала на Чорны Месяц у ягоным радыксе, становішчы планеты на момант нараджэння.

У суправаджальным артыкуле да перавыдадзенага зборніка “Матчын дар” Васіль Быкаў пісаў: “Так ужо склалася ў нашай гісторыі, што жыццё рэдка песціла капрызлівым шчасцем сваіх песняроў, аднак лёс гэтага паэта быў асабліва сляпы і жорсткі. Несправядліва паставіўся ён да аўтара, неміласэрна аднёсся да яго нягучнай, надзвычай душэўнай, поўнай нутраной сілы паэзіі. Мабыць, не шмат трэба паэту для шчасця, але яму заўжды неабходна быць пачутым сваім народам. І, мусіць, найбольшы карай для яго з’яўляецца немата, на якую ён бывае несправядліва асуджаны. Алесь Гарун прабыў у немаце ўдвая болей, чым пражыў на свеце…”


Пятніца 1 чэрвеня 1945 г.

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І ЎПРАЎЛЕННЯ ПА СПРАВАХ МАСТАЦТВА ПРЫ СНК БССР

Прыём у Крэмлі ў чэсць камандуючых войскамі Чырвонай Арміі

Выступленне таварыша І. В. СТАЛІНА

Таварышы, дазвольце мне падняць яшчэ адзін, апошні тост.

Я хацеў-бы падняць тост за здароўе нашага совецкага народа і, перш за ўсё, рускага народа. (БУРНЫЯ, ПРАЦЯГЛЫЯ АПЛАДЫСМЕНТЫ, ВОКЛІЧЫ «УРА»).

Я п'ю, перш за ўсё, за здароўе рускага народа таму, што ён з'яўляецца найбольш выдатнай нацыяй з усіх нацый, якія ўваходзяць у склад Совецкага Саюза.

Я падымаю тост за здароўе рускага народа таму, што ён заслужыў у гэтай вайне агульнае прызнанне, як кіруючай сілы Совецкага Саюза сярод усіх народаў нашай краіны.

Я падымаю тост за здароўе рускага народа не толькі таму, ...

ЯНКА КУПАЛА

# ЛіМ:1945 год

**Вольга ПАСІЯК**

Дзясятага красавіка 1945 года выйшаў у свет першы пасля пачатку вайны нумар "ЛіМа". Пра што ён быў? Зразумела, пра Перамогу, хаця да ўзяцця рэйхстага заставаўся амаль месяц. Вялікая савецкая краіна рыхтавалася адзначаць свой трыумф, сумненняў у якім не было. Чаго толькі варта падрыхтоўка да Усесаюзнай мастацкай выстаўкі "Перамога": "*У творах беларускіх мастакоў будуць адлюстраваны тэмы: Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржаўнасці; Чырвоная Армія — вызваліцельніца з-пад прыгнёту нямецкіх захопнікаў; партызанскі рух на Беларусі і яго выдатныя дзеячы; героі Савецкага Саюза, якія адзначыліся ў баях за Беларусь — Заслонаў, Гастэла, Бумажкоў, Казлоў і другія. Будуць выстаўлены партрэты Панамарэнкі, Жукава, Ракасоўскага, Чарняхоўскага і другіх*" (ЛіМ, 1945, 10 красавіка). Але гартаеш нумар за нумарам — і з кожнай старонкай усё больш ясна разумееш глыбокі сэнс выразу "свята са слязьмі на вачах".

Так, артыкул за артыкулам прапаноўваюць чытачу падлічыць урон, нанесены бескампрамісным ворагам: "*Яны [фашысты], як каршуны, накінуліся на ўсе святыні беларускага народа: спалілі дамы народных паэтаў Купалы і Коласа з каштоўнейшымі рукапісамі; разрабавалі багацці дзяржаўнай бібліятэкі, вывезшы ў Нямеччыну ўсе кнігі і рукапісы беларускага аддзела; яны перватварылі ў стайню памяшканне Беларускага опернага тэатра; знішчылі мастацкую галярэю; раскралі музеі Беларусі*" (ЛіМ, 1945, 10 красавіка). Даведваемся, што значную частку ўдару прыняў на сябе менавіта оперны тэатр, веліччу якога так ганарыліся жыхары даваеннага Мінска. Ён не раз станавіўся мішэнню для нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў, яго скарбы сталі здабычай варожай арміі: "*Нямецка-фашысцкія дзікуны ў час акупацыі Мінска разрабавалі ўсе каштоўнасці і маёмасць [опернага] тэатра. Яны вывезлі ў Германію або знішчылі ўсю мэблю, абсталяванне, электраапаратуру, дэкарацыі, абутак, парыкі, нотную бібліятэку і музычныя інструменты. Яны разбурылі памяшканне тэатра і вывезлі каля чатырох тысяч касцюмаў*" (ЛіМ, 1945, 10 красавіка). На жаль, такі лёс напаткаў не толькі гэты храм муз, але і іншыя нашы скарбніцы. Але і тады, у 1945-м, час ад часу трапляліся вартыя самых красамоўных апісанняў знаходкі: "*Вялікі цэх фабрыкі [на захадзе ад горада Рацібора] завалены кнігамі. На падлозе ляжаць творы Дзяржавіна, Ламаносава, Пушкіна, Талстога, Мечнікава, Ціміразева, Шэкспіра, творы рускіх, беларускіх, украінскіх пісьменнікаў і паэтаў, навуковыя даведнікі, падручнікі, тэхнічныя і медыцынскія кнігі. На кнігах — пячаткі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імені Леніна, Беларускай Акадэміі навук, Віцебскай бібліятэкі*" (ЛіМ, 1945, 22 красавіка).

А вось яшчэ адна цікавая інфармацыя: "*У 1945 — 1946 гг. павінна быць скончана будаўніцтва і абсталяванне кінофабрыкі "Савецкая Беларусь". Прывезлі ўжо два вагоны апаратуры для асвятлення, якая была вывезена немцамі, у перыяд акупацыі, у Рыгу*" (ЛіМ, 1945, 22 красавіка). Крок за крокам узнімалі патрапаныя на фронце крылы літаратура і мастацтва. "*Няма ніводнага жанра прозы, для якога б вялікія падзеі гэтай вайны не давалі разнастайных зместам тэм*" (ЛіМ, 1945, 20 чэрвеня). Такое сцвярджэнне з'явілася ў адным з нумароў газеты і стала ключавым на некалькі дзесяцігоддзяў.

У кожным нумары газеты публікуюцца творы пісьменнікаў, прысвечаныя Вялікай Айчыннай, геаічнай барацьбе савецкага народа супраць фашыстаў, узнаўленню разбуранай народнай гаспадаркі. "ЛіМ" не забывае ўспомніць і пра гадавіну смерці Янкі Купалы. Максім Танк піша: "*Хутка плыве час. Ужо не дні, не месяцы, а годы пачынаюць аддзяляць нас ад даты смерці вялікага паэта зямлі беларускай — Янкі Купалы… Песняр жыве і будзе жыць у сэрцы свайго народа, які з любоўю захоўвае і беражэ памяць аб ім і з найвялікшай пашанай вымаўляе яго імя*". Дарэчы, менавіта аўтару "Кургана" і "Тутэйшых" адведзены некалькі нумароў газеты за 1945-ы год. Гэта яму адрасуюцца поўныя павагі і ўдзячнасці словы: "*Як жа ганарыўся паэт тым, што беларуская мова з пагарджанай і "хамскай" стала дзяржаўная, а беларускі народ — роўны і вольны паміж другімі народамі*" (ЛіМ, 1945, 1 чэрвеня).

Але што пасля чатырох жудасных гадоў дарыла народу аптымізм і надзею на светлую будучыню? Што прымушала высыхаць слёзы болю і адчаю? Рэцэптаў жыцця-адраджэння нямерана, але асноўны — непахісная вера ў тое, што на шляху да Берліна "*савецкі чалавек разам са сваёй дасканалай зброяй прынёс таксама і савецкую культуру*" (ЛіМ, 1945, 20 мая).

І яшчэ адзін факт. Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай і Другой сусветнай вайны на медыяпрасторы (так і напрошваецца гэта модная сёння слоўца!) з ваеннай лістоўкі "Раздавім фашысцкую гадзіну" ўзнікла яркая зорка перыёдыкі — сатырычна-гумарыстычны часопіс "Вожык". Рэдагаваў яго не хто-небудзь, а сам майстар пякучага слова Кандрат Крапіва: "*З добрымі намерамі і вострымі іголкамі*"!

# Беларускі пашпарт і расійская перабудова

**Сяргей ЖОЛУД**

Лютаўскі нумар часопіса "Беларуская думка" прапануе шмат надзённых матэрыялаў і цікавых тэм. Так, без сумнення, асабліва зацікавіць чытача артыкул Сяргея Галоўкі "Шляхам любові і духоўнасці", прысвечаны сёлетняму лаўрэату прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" архіепіскапу Навагрудскаму і Лідскаму Гурыю. У матэрыяле расказваецца пра жыццёвы і духоўны шлях Уладыкі, пра вялікую работу, што праводзіцца ім і яго падзвіжнікамі ў Навагрудскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Разам з аўтарам артыкула архіепіскап Гурый разважае і пра тое, як змагацца са слабасцямі і як настроіцца на духоўнае жыццё.

Пра эфектыўнасць сучаснай сістэмы атэстацыі кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі, ролі Вышэйшай атэстацыйнай камісіі ў развіцці навукі, павышэнні яе прэстыжу і значнасці для эканомікі краіны расказаў у інтэрв'ю "Ліпавых вучоных нам не трэба" старшыня ВАК, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Анатоль Афанасьеў.

На пасяджэнні "круглага стала" "Энцыклапедыя — пашпарт краіны. Задачы развіцця агульнай інфармацыйнай прасторы" пра перспектывы развіцця энцыклапедычнай галіны ў кнігавыдавецкай справе вялі гаворку беларускія спецыялісты і іх калегі з Літвы, Расіі, Венесуэлы, Арменіі і іншых краін. Матэрыял "Якім павінен быць «пашпарт краіны»?" падрабязна асвятляе ход зацікаўленай размовы.

"Ці чакае Расію «перабудова № 2»?" — гэтым пытаннем задаліся журналісты часопіса "Беларуская думка" і паспрабавалі знайсці на яго адказ у размове з шэрагам вядомых расійскіх экспертаў. Сваімі меркаваннямі наконт сітуацыі ў краіне-суседцы пасля мінулагодніх выбараў у Дзяржаўную Думу з галоўным рэдактарам выдання Вадзімам Гігіным падзяліліся доктар юрыдычных навук Уладзімір Аўлачынскі, дырэктар Інстытута праблем глабалізацыі, правадзейны член Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук Міхаіл Дзялягін і дырэктар Цэнтра рускіх даследаванняў Інстытута фундаментальных і прыкладных даследаванняў Маскоўскага гуманітарнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук Андрэй Фурсаў.

Сярод іншых матэрыялаў другога нумара "Беларускай думкі" чытача зацікавяць артыкулы Галіны Махнач "Больш, чым брэнд", у якім асвятляецца дзейнасць вядучага прадпрыемства машынабудаўнічага комплекса нашай краін ААТ "Беларускі аўтамабільны завод", аспіранткі БДУ Алены Дакуновай "За калючым дротам: Дулагі, Шталагі, Афлагі" пра дзейнасць на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Беларусі лагераў для савецкіх ваеннапалонных.




У сваім артыкуле "Беларуская АЭС у грамадскай думцы" кандыдат сацыялагічных навук Міхаіл Хурс аналізуе вынікі сацыялагічнага маніторынгу грамадскай думкі па праблеме развіцця энергетычнай галіны нашай краіны. Асноўныя аспекты развіцця СССР у канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў, якія ў выніку прывялі да распаду Савецкага Саюза і стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, прыводзяцца ў матэрыяле "СНД: Ад Віскулёў да нашых дзён" кандыдата гістарычных навук Андрэя Русаковіча.

З іншых матэрыялаў лютаўскага нумара "Беларускай думкі" чытач можа даведацца пра найбольш паспяховыя прыклады сацыяльнай адказнасці беларускага бізнесу і яго спрыянне ў ажыццяўленні розных гуманітарных праектаў, пра праблемы і перспектывы ўдасканалення сістэмы адукацыі ва ўмовах фарміравання ў нашай краіне інавацыйнай эканомікі, пра сённяшні стан і будучыню беларускай міжнароднай журналістыкі.



# Памяці сябра

Праз два гады — 18 лютага — яму магло б споўніцца сто гадоў. Век!

Васіль Пятровіч Ласковіч… Легенда. Ганаровы грамадзянін Брэста. Удзельнік заходнебеларускага вызваленчага руху, паплечнік Веры Харужай і Сяргея Прытыцкага, іншых змагароў за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Даследчык вызваленчага руху, публіцыст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Быў адным з арганізатараў выступлення сялян в. Навасёлкі Брэсцкага павета ў 1933-м. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1934-м, асуджаны да 10 гадоў зняволення. Вызвалены ў верасні 1939-га пасля прыходу Чырвонай Арміі. Быў дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў 1939 годзе ў Беластоку. З чэрвеня 1941-га на фронце, удзельнічаў у абароне Смаленска.

Але яго як "заходніка", гэта значыць чалавека пад падазрэннем, адправілі ў Сібір. Дапамагло толькі хадайніцтва даўняй знаёмай Веры Харужай. І ўжо ў 1942 годзе Васіль Ласковіч становіцца курсантам разведшколы ў Маскве. Менавіта там ён сустрэў сваё каханне — Валянціну, якая стала надзейным сябрам і спадарожнікам на ўсё жыццё. Пасля вайны Васіль Пятровіч паспяхова працаваў у органах юстыцыі, пракуратуры Брэсцкай вобласці. А бліжэй да паўвекавога ўзросту пачаў пісаць. Ён палічыў сваім абавязкам увекавечыць памяць тых, побач з кім змагаўся ў падполлі, ваяваў. Адна за другой выйшлі кнігі "Тайнымі сцяжынамі", "З племені няскораных", "Подзвіг Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі", "Водгук далёкай навальніцы". Ён — адзін з аўтараў зборнікаў "У суровыя гады падполля", "У працы і ў баі", "Гады выпрабаванняў і мужнасці".

Рабочы кабінет Васіля Ласковіча і цяпер нагадвае памяшканне бібліятэкі, хоць паважаны ветэран не вельмі даўно перадаў абласному архіву больш як чатыры сотні папак сабраных ім дакументаў пра рэвалюцыйны рух у заходніх абласцях Беларусі, Польшчы, Украіны. Таксама каля трох тысяч кніг і дакументаў з яго бібліятэкі пераехала ў краязнаўчы музей.

Нястомны аўтар працаваў над чарговай кнігай. Насамрэч, да апошняга ўздыху. У мінулы свой дзень нараджэння Васіль Ласковіч прызнаваўся журналістам: маўляў, калі б лёс адмераў яму яшчэ сто год жыцця, ён усе іх прысвяціў бы творчасці.

Ён занадта часта сутыкаўся са смерцю, неаднойчы быў на валасок ад яе, але прага жыцця, прага служэння людзям аказаліся настолькі моцнымі, што апынуўся яшчэ і доўгажыхаром. А гэта ж таксама прыклад.

Васіль Пятровіч навек застанецца ў нашай памяці і ў памяці нашчадкаў як прыклад нязломнага, мужнага змагара, мэтанакіраванага, нястомнага руплівца.

**Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Пераможная параза: інавацыйная тэхналогія мастацкага аўтадафэ

**Асноўнай формай жыццядзейнасці прадстаўнікоў касты чытачоў (“згалелай”, але ганарлівай) сёння ёсць уцёкі. Нягледзячы на агульнасць мэты (уцёкі ў кірунку, які прынцыпова не супадае з магістральнымі памкненнямі панылай паўсядзённасці) і, так бы мовіць, “сродку” яе дасягнення (уцёкі выключна праз літаратуру), уцякаюць прадстаўнікі згаданай касты ў розных напрамках.**

Апошнім часам пераважная іх большасць ахвотна дае лататы па вымытых шампунем аўтастрадах чытва (любоўнага, крымінальнага, палітычнага, гатычнага, гламурнага — выбар багаты). У сваю чаргу, пераважная меншасць з новабайранічнай задуменнасцю асвойвае малалюдныя маршруты так званай сур’ёзнай літаратуры. Гнаныя высокай самотай, гэтыя ўцекачы раз-пораз спакушаюцца экстрымам і, збочыўшы з гасцінца, прастуюць — без страху, дакору, гарачага і салодкага — да мройлівых відзяжоў найноўшай мастацкай славеснасці. І вось калі ўцёкі нарэшце амаль ператвараюцца ў сапраўдны палёт, у той самы момант, калі прадстаўнік выключаной з паўсядзённых трыумфаў касты ўсёй існасцю сваёй адштурхоўваецца ад жыццёвага чарнавіка і ўжо прадчувае рай невяртання, — ён сутыкаецца (не пашанцуе — дык і з нежартоўнымі наступствамі) з адзінокім пісьменнікам. Пасярод канструктыўных уцёкаў ад рэчаіснасці той адчайна б’ецца з яе прывідамі, з ценямі свайго мінулага, са шкілетамі з чужых шафаў і здaнямі нетутэйшай будучыні, — бо ён, неадноўчы аўтар, ведае: уцякаць, акрамя як *да сябе самога*, яму ўжо няма куды.

Празаік Алена Брава з самых першых сваіх твораў прадэманстравала выключную пэўнасць намераў у дачыненні не толькі да свету, існага ў рэчах, але і да “тонкага сусвету” асобы. Уся гісторыя апошняга бачыцца гэтаму літаратару гісторыяй супраціву Вялікай Стандартызацыі — асноўнаму прынцыпу, метаду і спосабу жыцця ў “псеўдарэальнасці, якая раілася навокал, размнажаючыся з хуткасцю насякомых” не толькі ў “камендацкія” часы яе савецкага дзяцінства ды юнацтва. Аповесці пачатку 2000-х гадоў — працяваны “Камендацкі час для ластавак” (2004), а таксама “Бязлітасны мой воін” (2001) і асабліва “Імя Ценю — Святло (*Гісторыя адной фабіі*)” (2003) — засведчылі, што родная рэчаіснасць займела ў асобе гэтага аўтара рашучага і, галоўнае, дзейснага апанента, па вызначэнні не здольнага да ўцёкаў, затое схільнага біцца да метафізічнай “крыві” з жыццём за права быць самой сабой, якой бы няздарай, дурніцай ці вычварэнкай гэтая “сама” ні падавалася навакольным. Разам з тым, да аповесці “Рай даўно перанаселены” (апублікавана ў № 1 часопіса “Маладосць” за гэты год) плёнам экзістэнцыйна-мастацкай мужнасці А. Брава былі паслядоўныя паразы яе персанажаў у сакральнай вайне з выракам адзінотніцтва. Выракам, што найчасцей быў адзіным “мацярынскім капіталам”, які лёсіла атрымаць гераіням твораў гэтага пісьменніка ў “гвалтоўную” спадчыну. Сінтэз бязлітаснай натуралістычнасці і пранізлівага лірызму, фізіялагічнасці апісанняў і пачуццёвай аголенасці псіхалагічных “дыягназаў” — найбольш відавочная пакуль стылявая дамінанта прозы А. Брава — практычна гарантаваў ператварэнне ці не кожнага яе твора ў вогнішча для “самаспальвання”, мастацкага аўтадафэ.

Варта падкрэсліць, што *аўтадафэ* як своеасаблівы *творчы метад* да нядаўняга часу рэалізаваўся гэтым пісьменнікам бескампрамісна — без усякіх шанцаў і для апавядальнікаў, і для персанажаў (нават другарадных ды эпізадычных) на духоўнае ці хоць бы душэўнае самааднаўленне (напрыклад, па славутай тэхналогіі Фенікса). Дык вось менавіта “Рай…” у абсягах творчасці А. Брава сёння бачыцца тым пунктам, у якім, нарэшце, сышліся прычыны і наступствы, гісторыя і перспектыва “крыжовага паходу” празаіка супраць татальнай “псеўды” (скарыстаем назву твора Ю. Станкевіча).

У аповесці А. Брава “Рай даўно перанаселены” згаданая “псеўда” запаўняе мастацкі хранатоп да краёў, прычым выплюхвацца ёй няма куды, бо “Рай…” яна заліла якраз у выніку паводкі, ад якой пацярпела вонкавая рэальнасць. Сілкуецца “псеўда”, што відавочна для апавядальніка “Раю…”, перадусім “чалавечынай”: “*Я ўсё спрабую разглядзець тую кропку, у якой чалавек, што нарадзіўся на неаглядных прасторах краіны,* *дзе захлынулася не адна варожая армія, страчваў права на індывідуальную будучыню і, адпаведна, на ўласнае жыццё*”. Сутнасна “псеўда” вызначаецца праз паняцці ненажэрнасці (бясконцага “стрававання” псеўдасутнасцей, псеўдазначнасцей і г.д.) і безаблічнасці. “Псеўда” не грэбуе ахвяраваннямі свету не толькі “*гэтага*” (“…я ішла па знаёмым калідоры нашай раённай бальніцы, а цяпер падымаюся па лесвіцы. Мяне не пакідае гнятлівае адчуванне, што менавіта такой, казённага ўзору, і мусіць быць лесвіца ў пекла…”), але і “*таго*”: “Чалавеку адмоўлена ў праве быць самім сабой не толькі ў жыцці: пасля спынення фізічнага існавання яго гвалтам уціскваюць у тыповасць, і на гэта ўжо не запярэчыш. Смерць: канчатковая перамога ўніфікацыі над індывідуальнасцю”.

Персаніфікуецца “псеўда” ў новай аповесці А. Брава *натуральным* (для гэтага празаіка) чынам у вобразе маці, ад імя яе дачкі Люсі і вядзецца аповед. У згаданым сэнсе новы твор ёсць выспай стабільнасці ў імклівым інфармацыйным свеце і прадказальна не расчароўвае. Іншая справа, што ў “Раі…” вобраз маці як бы ўбірае ў сябе ўсе папярэднія “інкарнацыі”. Рассыпаныя па ранейшых творах рознаракурсныя “фотаадбіткі”, эскізныя накіды *прота-вобраза* тут, нарэшце, зліваюцца, “кандэнсуюцца” ў вобраз-тып не проста завершаны: ён настолькі аб’ёмны ў сваёй гратэскава-саркастычнай “ўцялесненасці”, што мог бы стацца 3D-помнікам найноўшаму раблезіянству: “На заводзе, дзе працавала маці, у яе з’явіліся сяброўкі: гэта быў няшчыры альянс амбітных асоб, апантаных мэтай запісацца ў хадавы тавар эпохі ды заняць месца на паліцы, абазначанай біркай «актывістка». <…> Заўсёды істэрычна ўзбуджаныя, поўныя нейкай сатанінскай энергіі, якая з самага ранку гнала іх прэч ад хатняга цяпла, з-за чаго іх блізкія звыкла зараблялі сабе гастрыты і язвы, кватэры зарасталі брудам, а яны імчаліся наперад са свістам: «Чассссвыбраўнасссс!» і спрытам коннай пажарнай каманды, якая скача па справе”.

Зрэшты, ёсць важкія падставы меркаваць, што першапачаткова “Рай…” мусіў стацца “гімнічным” ушанаваннем Веры. Вера — бабуля Люсі з боку бацькі. “Дармаедка” ва ўяўленні былой нявесткі-“актывісткі”, самаахвярная жонка, маці, бабуля, Вера была нястомным вартавым таго “раю абароненасці”, які і для Люсі-падлетка, і для Люсі пасталелай застаўся адзінай сапраўднасцю ў “псеўдасвеце”. Менавіта *сапраўднасць* бабулі, асвечаная талентам “фантастычнага цярпення”, абгрунтаваная яе спагадай і любоўю (“ні за што, без усякіх умоў” — да пamaўзлівага мужа; да сына, “безнадзейнага падлетка”; да нявестак — і да першай, “актывісткі”, і да другой, Калаўроткі), — дазваляла Люсі насамрэч верыць. Найперш — у тое, што намаляваная на ліcце паперы каляровымі алоўкамі “сонечная дзяўчынка ў каракулевым футры і валёнках”, якая “гуляе на тым баку сонца і лепіць піражкі са снегу”, — гэта яна, *сапраўдная* Люся.

Час ад часу аповед нібы спрабуе вырвацца з-пад улады аўтара. Тады рэпартаж з хлебазаводскага цэху, дзе Вялікі Цестамес “сядзіць сабе і выбраляе ўбогіх сэрцам і розумам”, часова абрываецца — дзеля кароткага спецвыпуску шчымліва-светлых “кінанавін”, падрыхтаваных кранальна-ўсёдаравальнай “дзіцячай памяццю”. Нягледзячы на гэта, “Рай…” не спраўдзіўся ў якасці экзістэнцыйна-лірычнага гімна бабулі Веры (узорам жанру стаўся, напрыклад, “Дзед” Уладзіміра Сцяпана). Упартае нежаданне (ці “элементарная”, “прыроджаная” няздатнасць?) празаіка А. Брава да ўцёкаў ад жыцця (= ілюзіі) робіць немагчымым і ператварэнне аповесці ў “агіяграфію” Веры. Бо паводле жыццёвага канону “феніксам дабра і… нeспасцігальнага, да храбусцення пазванкоў і крышэння зубоў цярпення”, належыць узнагарода за “звышцярпенне”: “«Яна трапіць у рай», — сказала Тамара. Думаю, мегаполіс, які носіць назву Рай, *даўно перанаселены* — не тое што ў часы Адама ды Евы. І таму адміністрацыя тамтэйшая вымушана абмяжоўваць прапіску розных лімітчыкаў, а мо нават адсяляць зноў прыбываючых за соты кіламетр”.

“Дробныя дэманы” юнацтва (сяброўка маці Капа, што “называла сябе не інакш, як Капіталінай, і сцвярджала, што бацькі далі ёй імя ў гонар “Капітала” Маркса”, айчым — “Бажок-Пузаты”) упарта пераследуюць апавядальніка. Люся згадвае іх настолькі самаахвярна, вярэдзячы духоўна-душэўныя раны з такой метадычнасцю, што толькі безнадзейна “сляпы” чытач не разгледзіць сапраўдную мэту гэтага аўтакатавання. Выкрывальніцкая стылістыка палкай інвектывы маскіруе псіхатэрапеўтычную “мантру”, з дапамогай якой можна захаваць рэшткі саматоеснасці (=індывідуальнасці) у “дарослым свеце”. Бо тут месца “дробных дэманаў” занялі іх нашчадкі, “*прафесійныя едакі*”: “За ўбогімі грымасамі нашчадкаў названай у гонар «Капітала» праступаюць брудныя сцены чырвонага кутка з інструкцыямі па выратаванні тапельцаў. У празрыстых распухлых мяхах боўтаецца тлустая мешаніна неперастраўленай ежы. <…> «На дарожку» мне піхаюць цукеркі — асарці злосці, зайздрасці ды шэрасці; гэтыя чорныя згусткі атруцілі б мой арганізм, выклікалі б у ім успышку якой-небудзь хваробы. Дзякую, даражэнькія, ешце самі!”

“Рай…” мог бы спраўдзіцца ў якасці чарговай часткі ваярскай сагі, прысвечанай бітве аўтара (не на “зусім не страшны страх смерці”, а на “жах жыцця”) са шматаблічнай “псеўдай”, улюбёным (а можа, проста зручным) урэчаўленнем якой ёсць вобраз маці. Але гэтаму перашкаджае Вера, шматпланавы вобраз-“медыум”, насамрэч звышцярплівы пасрэднік — паміж дачкой і маці, адчаем і… адчаем. Бо “актывістка” насамрэч толькі “дзеліць суму пражытых гадоў на нуль шанцаў знайсці ў гэтым жыцці самую сябе, і атрымлівае ў выніку бясконцасць расчаравання. <…> Не, яна зусім не жадае адрозніваця ад іншых — яна, што паклала палову жыцця на тое, каб *адпавядаць*! Але перайманне плакатных узораў больш не выратоўвае”.

У момант, калі, здавалася б, апавядальнік мінае “пункт невяртання” і ўсе дэманы шматкроць прапушчаныя праз мясарубку Люсінай памяці, “Рай…” выходзіць з-пад кантролю — ахвяра д’ябла становіцца яго адвакатам: “Але ж я, я любіла яе! Любіла як ніхто ў свеце — і шалёна пакутавала ад рэўнасці ды крыўды, бо яе не цікавіла нічога, акрамя горычы ад свайго няўдалага жыцця — горычы, якой яна атруціла нашае дзяцінства… <…> Ува мне яна з агідай бачыла самую сябе — а менавіта сябе і прывучана была ганіць «танней за ўсё», таму так шалёна шукала пацвярджэння ўласнай значнасці то ў каханні свайго вахлака-сужыцеля, то гуляючы ў соцыумныя бірулькі. Не знайшла, ды і не магла знайсці”.

Той, хто змірыўся з вырокам вечнай вайны з псеўдажыццём і раптам усвядоміў, што здолеў гэтую вайну завяршыць — дарэшты “пражыць”, “зжыць” Словам і праз Слова псеўду ў сабе самім, наўрад ці будзе пераймацца наконт стылявой бездакорнасці сваёй пераможнай “зброі”. Гэта той, хто ямэчэ ўцякае, можа чапляцца вокам за лексічныя недакладнасці, граматычныя недарэчнасці, сінтаксічныя грувасткасці: кожны ў дарозе бавіць час па-свойму, людзі ж розныя, аднаму, перафразуючы Д. Быкава, кавун — скаромніна, а іншаму — свіны храсток посная ежа… Аповесць А. Брава “Рай даўно перанаселены” спраўдзілася, бадай, як *пераможная параза*: яе я-героі больш не будуць мець апраўдання для аўтадафэ. Апраўдання іх уцёкам ад сябе ўжо няма, бо яны прыйшлі да сябе. Яны на месцы. З сабой. У сабе. У пункце дасканалага супадзення руху і спакою: “І тая лодка плыве насустрач залаціста-сіняму дыску”.

Больш зручнага моманту распачаць стварэнне свайго раю можа не быць.


Фота Аксаны Спрынчан

Васіль МАКАРЭВІЧ

# Сямейная малітва

**Пасля распаду Савецкага Саюза ў друк хлынулі вершы і паэмы, апавяданні і аповесці на рэлігійную тэму. Не ўсе яны былі роўныя ў мастацкіх адносінах, але да іх больш не чаплялася ваяўнічая цэнзура. Верылася, што з цягам часу скончыцца кан'юнктура і з'явяцца сапраўдныя мастацкія шэдэўры.**
**І вось перад намі паэтычныя кніжкі сямейнага дуэта І. Катлярова "Зовущая печаль" і С. Шах "Малітваспеў", што пабачылі свет у канцы мінулага года ў выдавецтве "Кнігазбор". У іх на поўную моц гучаць рэлігійныя матывы, аўтары звяртаюцца да Усявышняга, разважаюць пра яго прысутнасць у гэтым свеце і нашым жыцці.**

Калі гаварыць пра вершы І. Катлярова, здаецца, што аўтар тчэ іх з паветра і тады-сяды дазваляе сабе гульню са словам. Радкі, прысвечаныя Усявышняму, вызначаюцца строгасцю і дакладнасцю выказанай думкі, празрыстасцю і душэўнай чысцінёй. У вершы, якім адкрываецца зборнік, паэт заўважае: "Пока найдётся нужная строка, // я много слов переберу губами". І. Катляроў звяртаецца да Усявышняга: "Вот и сейчас вдыхаю синеву и верю, верю, Господи, как будто я нынче это утро проживу за все потом не прожитые утра". Радкі сведчаць, што душа паэта яднаецца з тым высокім і абагаўлёным духам, які існуе ў прыродзе.

У зборніку С. Шах "Малітваспеў", як паведамляецца ў анатацыі, "сабраны вершы і вянкі санетаў, у якіх яна з уласцівай ёй пранікнёнасцю звяртаецца да Усявышняга". Уступны верш пачынаецца так: "Даруй за нязграбныя, Божа, малітвы, // за недасканаласць адчайную іх, // што мкнуцца напружана ў храм Твой блакітны — // не думкай, не шэптам, а іменна ўслых". З той самай малітоўнай інтанацыяй паэтэса працягвае: "Не я выбіраю настаўнікаў, Божа, — // імпэтна мяне ўжо абралі яны, // каб ведала больш за нястачай, раскошай, // жывучы ці не мой зеніт нутраны". Паэтэса імкнецца гаварыць проста і даходліва, прачула і пераканаўча, як гэтага патрабуе святая малітва. І мы гатовыя дараваць ёй "недасканаласць адчайную" за стылізацыю пад прастамоўе, але як прайсці міма такой, з дазволу сказаць, перліны, як "зеніт нутраны". Аднак чытачам не можа не імпанаваць шчырасць, з якой С. Шах звяртаецца да Усявышняга: "О, Госпадзі, ўратуй і захавай!.. // Я ведаю: такіх, як я, мільёны, — // тых, што ў цябе шукаюць абароны, — // і толькі выслухоўваць паспявай". Здзіўляе непадробная наіўнасць і спачуванне Усявышняму, маўляў, да яго па дапамогу звяртаецца столькі вернікаў, што "толькі выслухоўваць паспявай".

Калі Соф'я Шах звяртаецца да Усявышняга з просьбай дапамагчы, то Ізяслаў Катляроў рашуча прамаўляе: "Я знаю, что молитвы — для прошений, // но прикажу прошению: «Молчи!..»" Паэту імпануе малітоўны выраз: "В Его святыни и хвалите Бога" і, зыходзячы з гэтага пастулата, ён заяў-



ляе: "Я только восхваленью разрешаю…" Сказана катэгарычна і крыху рызыкоўна. Адчуўшы гэта, паэт спрабуе апраўдацца і гаворыць, што "ад не страшен, коль живешь в аду". І працягвае думку ўжо ў наступным вершы: "Прости меня за это, светлый Боже, // я не желаю от себя таить, // ведь знаю: вовсе не одно и то же — // быть благодарным и благодарить". Якім жа чынам, у рэшце рэшт, усхваляе І. Катляроў Усявышняга? Аўтар прызнаецца: "О Господи, я знаю, знаю, знаю. // Слезами я Тебя благодарю". Паэт своечасова расстаўляе акцэнты, і мы разумеем, што робіцца ў яго на душы і чаму з ім усё адбываецца вось так, а не інакш: "И «Слава в вышних Богу…» тоже слышу // уже как будто в голосе своём". У дадатак аўтар больш чым пераканаы, што "похвала молитвою — не лесть".

Малітоўны выраз "Слава в вышних Богу…" адгукаецца і ў радках Соф'і Шах: "Цяпер нам толькі Госпада прасіць… // Прасіць, прасіць нас потым не забыць // сваёй уладай *вышне*-справядлівай". Гэтая пераклічка гаворыць пра духоўную роднасць душ двух паэтаў, якіх звязваюць не толькі сямейныя клопаты і справы.

Бог у паэзіі І. Катлярова не выступае ў ролі старонняга назіральніка, ён бярэ непасрэдны ўдзел у чалавечым жыцці: " — Отчего так душа болит? — // Оттого, что ей Бог велит…" Здаецца, сказанаму крыху можна было б і запярэчыць. Але калі ўзважыш усе "за" і "супраць", чамусьці не хапае рашучасці зрабіць гэта. У радках ёсць нешта ад мудрага афарызма. Гаворачы пра боскую ўсюдыіснасць, паэт укладвае свае словы ў вусны лірычнага персанажа: "Господь на мысли отвечает — // ему твоих не надо слов…"

Соф'ю Шах цікавіць пытанне жыцця і смерці. Паэтэса пачынае свае разважанні з дня з'яўлення на свет: "Ці не падзея самая — з'явіцца тут, на зямлі… і з гэтае прычыны не журыцца. // Наадварот, — дзівіцца і дзівіцца, // што гэта — не фантазія, не сон". Але яна добра ведае, што кожны з нас пачынае паміраць з дня свайго нараджэння. Ці не таму ўжо ў іншым вянку санетаў пытаецца: "А як жа там, за даллю векавой?" Але наўрад ці даведаецца чалавек пра такую таямніцу, што чакае яго пасля скону "за даллю векавой". Пра гэта можна толькі гадаць ды пытацца ў Бога. С. Шах упэўнена, што жывому трэба думаць пра жывое і радавацца кожнаму пражытаму дню разам з каханым: "Цяпер нам толькі Госпада прасіць, // цяпер нам толькі да Яго звяртацца, // калі магчымасць даў сумесна жыць, // адно адным дзівіцца, ратавацца". Паэтэса не баіцца скону, яе турбуе іншае: каб толькі не расстацца з каханым нават там, "…за памежнаю хвілінай у часавай прасторы хуткаплыннай". Яна жадае "разам і далей быць трэба нам хоць тут, а хоць, у рэшце рэшт, і там, дзе іншы свет..." Для паэтэсы, здаецца, не існуе смерці ўвогуле. А калі яна і разважае пра яе, то прыблізна так, як гэта рабіў адзін з грэчаскіх філосафаў: маўляў, пакуль я жыву, то не думаю пра смерць, а калі памру, хіба змагу думаць пра яе? У творах С. Шах смерць — гэта з'ява філасофская, і яе таямніца падуладная толькі Богу, а Ён, у сваю чаргу, таямніца для ўсіх нас.

Некаторыя вянкі санетаў Соф'я Шах называе малітвамі. Гэта дазваляе паэтэсе гаварыць з Богам як бы "з вока на вока", выказвацца з найбольшай эмацыянальнай сілай. У адной сваёй малітве паэтэса, здаецца, прад'яўляе Усявышняму залішнія прэтэнзіі, у якіх чуюцца ноткі дакору: "Божа, Божа, як Ты ўсё-такі цярпенне, // як Ты скруху выпрабоўваеш



маю: // жыць з дачушкаю на гэткім аддаленні, // што яе і ў снах парой не пазнаю…" Але хіба Бог вінаваты, што дачка жыве "на гэткім аддаленні"? Калі б яна трапіла ў бяду, то можна было б і паскардзіцца, толькі не на Бога, а на нешчаслівы лёс. Але гэта, відаць, той выпадак, калі ліра С. Шах выдае не да канца вывераную ноту. Аднак ужо ў чарговым вершы інтанацыя кардынальным чынам мяняецца на іншую, больш шчырую, па-жаночы пяшчотную і лагодную. С.Шах звяртаецца да Усявышняга з вершам-малітвай, дзе яна просіць для дачкі: "Каб яе жаночае жаданне, // што ўзяло ўжо і мяне ў палон, // мела, Госпадзі, тваё спрыянне // і дало доўгачаканы плён".

Гэтую гаворку як бы падхоплівае і працягвае І. Катляроў. Хаця ў яго вершы пра Усявышняга не сказана ні слова, мы разумеем, што ён усё-такі пачуў і здзейсніў просьбу С. Шах. Пра гэта гаворыцца ў радках, у якіх паэт звяртаецца да сваёй каханай: "Сядь… Отдохни… Но снова ищешь дела — // о том и этом хочешь хлопотать… // Став бабушкой, ты вновь помолодела, // как будто стала матерью опять". Аўтар не стрымлівае свайго захаплення: "И сколько же святого материнства // ещё таится, милая, в тебе!"

С. Шах не застаецца ў даўгу, яна ўзвышае і абагаўляе каханне і свайго абранніка, пішa пра духоўную еднасць і адданасць: "Адно ў адным — вясны кругазварот, // адно ў адным — зноў зімачкі прыход, // і разам, вечна разам застацца".

Вершы С. Шах і І. Катлярова пра каханне нагадваюць своеасаблівы дыялог, дзе гаворка вядзецца пра глыбокае пачуццё, якое даецца Усявышнім. Паэт нібы адказвае сваёй каханай: "Живём единою судьбой, // иначе жить не можем, — // и только рядышком с тобой — // я песнопевец тоже…" Віншуючы каханую з днём нараджэння, І. Катляроў працягвае: "Ну вот, опять влюблённо говорю // влюблённое спасибо ноябрю // за этот день, за дни, что нами стали, // коль будут Божьей милостью даны // для наших душ возвышенной печали".

Узнікае пытанне: што падштурхнула І. Катлярова і С. Шах звярнуцца ў сваіх творах да Бога? Хутчэй за ўсё, гэтай споведзі запатрабавалі душы паэтаў, іх узрост, жыццёвыя абставіны і нялросты час, у які мы ўсе жывём. Звароты да Бога ў іх вершах не выглядаюць штучнымі ці неабавязковымі. Наадварот, такія радкі, здаецца, напоўненыя нейкім гаючым святлом: "«Искупитель» — слово-то какое, // снятое с распятия, с креста, — // что-то очень многовековое, // ставшее синонимом Христа". Такіх прыкладаў можна прывесці безліч.

Пазнаёміўшыся з паэтычнымі кнігамі І. Катлярова "Зовущая печаль" і С. Шах "Малітваспеў", мы як быццам пабылі на царкоўным богаслужэнні, прычасціліся каля святога алтара, каб зноў акунуцца ў клопатны вір штодзённага жыцця.

Уладзімір НАВУМОВІЧ,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт

# Клічу жывых! Смуткую па загінуўшых! Выкрасаю маланкі!

## (Пра адзін мастацкі эпізод з кнігі М. Чаргінца "Сыны")

На адной з літаратурных сустрэч са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пісьменнік Мікалай Чаргінец, адказваючы на пытанне пра сваю творчасць, распавёў у дэталях эпізод з рамана "Сыны". Уявіце сабе: маці, сын якой служыць у Афганістане, выходзіць з пад'езда, намерваючыся зайсці на рынак. І раптам "натыкаецца" на групку салдат у такой жа форме, як і яе Коля, бачыць на іх плячах вялікі цяжкі груз. Груз-200. Пра такія ведалі тады ўсе. Маці жахнулася.

— Вось так, — скончыў расповед празаік. — Не папярэдзіўшы маці, родных, блізкіх.

Як з возам "пхнуцца" салдаты з труной сына (цынкавая труна!) адразу да яе ў кватэру.

Студэнты зніякавелі. Блізка да сэрца прынялі юнакі і дзяўчаты казёншчыну, абыякавасць, беспардоннасць агрубелых на вайне саслужыўцаў і афіцэраў, мясцовых чыноўнікаў.

Эпізод сапраўды запамінальны, кранальны. І згадаўся даўні лацінскі выраз "Memento mori" ("Помні пра смерць"), які стаў назвай хрэстаматыйнага ўжо апавядання народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля.

Клічу жывых! Смуткую па загінуўшых! Выкрасаю маланкі!

Так гаварылі даўней людзі, калі сутыкаліся са смерцю. Клікаць жывых не давялося, яны прыйшлі самі. Смутак па загінуўшых — вечны. Маці будуць аплакваць сваіх сыноў усё жыццё. Выкрасаць маланкі было шмат прычын. Бо хлопцы злажылі галовы ў мірны час. Недзе там, далёка ад дому. Бо гэта недарэчна — бачыць труну сына дома, у сваёй кватэры. Бо не павінны маці развітвацца з сынамі-воінамі, якія ў маладым веку адыходзяць у іншы свет.

Раздзел у рамане М. Чаргінца называецца "Сыночак", але запаветнае слова маці так і не змагла вымавіць. Нямы крык закамянеў у сэрцы Веры Фёдараўны, калі яна ўбачыла цынкавую труну ва ўласнай хаце. Сцэна ў рамане атрымалася пераканаўчай, дэталізаванай, трагічна завостранай. Без афектацыі, але драматычнай і суровай.

Наўрад ці маці з рамана М. Чаргінца "Сыны" ведала старадаўні лацінскі выраз "memento mori". Ёй, працавітай жанчыне, занятай паўсядзённымі клопатамі, хутчэй за ўсё, тое выслоўе было невядома. У вёсках і мястэчках, у гарадах беларусы мала задумваліся пра магчымую смерць. "Жывём, покі жывецца, бо жывы ў зямлю не палезеш, а прыйдзе смерць, тады пахаваюць", — кажа бабка Мар'я ў рамане Я. Коласа "На ростанях". "І жыць будзем, і пець будзем, і танцаваць будзем, а смерць прыйдзе — паміраць будзем", — здаўна гаварылі ў народзе.

Паміраць беларусы не вельмі спяшаліся. Жыццё любілі. Весялосць любілі. Жылі душэўна. Цёпла.

Адкуль жа з'явіўся выраз? І што стаіць за ім?

У старадаўнім Рыме вядомая фраза ў абавязковым парадку прамаўлялася ў час трыумфальнага шэсця рымскіх палкаводцаў, якія вярталіся з урачыстай перамогай. За спіною военачальніка, як правіла, ставілі нявольніка, які павінны быў час ад часу нагадваць трыумфатару, што, нягледзячы на славу, той застаецца роўным з іншымі перад тварам смерці.

Але чалавек, калі ён застаецца чалавекам у любых умовах, перамагае. Перамог стары пячнік у апавяданні "Memento mori" Я. Брыля. "І ён згарэў — адзіны, хто мог бы ў той дзень не згарэць. І ён жыве". Перамог і Коля Коблік, цынкавая труна якога дастаўлена "грузам-200" у родны дом.

Перамагла і Вера Фёдараўна, якой давялося шмат чаго перанесці.

М. Чаргінец у сваім рамане не згадвае вядомы лацінскі выраз, але ўсім ходам апавядання, логікай рэчаў і падзей ставіць афганскі сюжэт у кантэкст усёй беларускай, ды і сусветнай, літаратуры.

# Вялікі арабскі паэт

*Махмуд Дарвіш лічыцца самым значным сучасным арабскім паэтам. Нарадзіўся ён у 1942 годзе ў селішчы Аль-Бірва, што ў Галілеі. Першую кнігу паэзіі "Лісце алівы" надрукаваў ва ўзросце 22 гадоў, а ўсяго ім апублікавана каля 30 зборнікаў вершаў і прозы, якія перакладзены на 35 моў свету. Махмуд Дарвіш сваёй творчасцю ўзбагаціў арабскую культуру, яго вершы, пакладзеныя на музыку, сталі песнямі, іх ведаюць і спяваюць людзі, і гэтая народная любоў перадаецца з пакалення ў пакаленне. На ўсіх этапах барацьбы палесцінскага народа за волю і незалежнасць творы паэта знаёмілі ўвесь свет з праблемамі і місіяй палесцінцаў, набылі вялікую міжнародную славу. Невыпадкова Дзень палесцінскай культуры, які адзначаецца 13 сакавіка, устаноўлены ў знак удзячнасці і прызнання заслуг вялікага творцы Махмуда Дарвіша перад сваім народам.*




## Запісвайце

*Запісвайце:*
*Я араб.*
*Мой рэгістрацыйны нумар:*
*Пяцідзесяцітысячны.*
*У мяне восем дзяцей.*
*Летам дзявяты чакаецца.*
*Што, вам не падабаецца?*
*Запісвайце:*
*Я араб.*
*Я для вас — безыменны нумар.*
*Не баюся шаленства я вашага.*
*Карані мае ў нетрах стагоддзяў,*
*Вялікі мой род.*
*Я сын аратая,*
*І плуг з бараной*
*Былі мне ў юнацтве*
*Навукай адной.*
*Жыву я ў хаціне,*
*Што з голля і трыснягу.*
*Мае валасы чарнеюць, як смоль.*
*Вочы чорныя, быццам боль.*
*Мая шавялюра*
*Не паддаецца ніякаму грэбеню.*
*Я выбіраю цім'ян*
*І з алівак алей.*
*Маю яшчэ недахоп:*
*Люблю людзей.*
*Чужога дабра не жадаю,*
*Нават калі галадаю.*
*Калі ж вы адымеце ў мяне*
*Апошняе, што засталося, —*
*Свабоду і гонар,*
*Тады беражыцеся:*
*Няма нічога страшнейшага*
*За голад мой,*
*За мой гнеў.*
*З ім вам аніколі не справіцца.*
*Што, вам не падабаецца?!*

**Пераклаў на беларускую Мікола Шабовіч.**




## Чырвоныя коні

*Чырвоныя коні відаць за кастрамі,*
*Дзе, спудзіўшы ночы*
*дрымотны спакой,*
*Аб бераг раз'юшана*
*б'юць капытамі,*
*Іржуць заклікальна*
*над соннай ракой.*

*Чырвоныя коні над самаю кручай*
*Ў халодным тумане*
*натужна хрыпяць*
*І ў ночы сцюдзёнай,*
*пахмурна-калючай,*
*Трывожна сваімі званкамі звіняць.*

*Чырвоныя коні — у вечнай пагоні,*
*І шчасця спакойнага*
*ім не спазнаць…*
*Гады мае — коні,*
*чырвоныя коні —*
*Мне вас не даклікацца, не дагукаць.*

## Без цябе

*Ах, колькі дзён мінула і начэй,*
*А памяць праз смугу гадоў вяртае*
*У вабны свет*
*прымружаных вачэй,*
*У квецень палымнеючага мая.*

*Ізноў я сэрцам там, у той вясне,*
*Зноў згадак рой*
*суздром мяне агорне...*
*Ты рукі падасі насустрач мне —*
*І станеш непадманліва пакорнай.*

*А потым будзе ўсё,*
*бы ў мройным сне:*
*Пад чарамі нябачнага факіра*
*Нас легкавейны ветразь аднясе*
*У невымоўны і жаданы вырай.*

*Я помню, помню, любая, калі*
*Два нашы сэрцы*
*біліся суладна*
*І два крылы*
*нас спеўна паднялі*
*Над вечнасцю*
*спакусна-неабсяжнай...*

*…Вачэй сузор'е зацярушыў снег...*
*Мне горка і балюча да адчаю...*
*А памяць безнадзейна ўсё імкне*
*Да той вясны, да кветкавага маю…*

*Ды без цябе я — адзінокі птах:*
*З адным крылом*
*у неба не падняцца...*
*Іду, самотны, па тваіх слядах,*
*Каб на пустэльны бераг*
*не вяртацца.*

* * *

*Ах, збегчы б мне абы-куды —*
*Зямель за трыдзевяць ці болей*
*І шчасце там спаткаць, і долю,*
*Ніякай каб не знаць бяды.*

*Ды толькі мой няўмольны лёс*
*Мяне туды не адпускае*
*І сцежку мосціць-высцілае*
*Мне ад зямлі і да нябёс.*

## Спроба трыялета

* * *

*Я іду па тваіх слядах,*
*Хоць у сэрцы маім балюча.*
*І сустрэча з табой — немінуча:*
*Я іду па тваіх слядах.*

*Толькі ў мройна-пакутных снах*
*Ты маўчаннем мяне не мучай, —*
*Я іду па тваіх слядах,*
*Хоць у сэрцы маім балюча.*

* * *

*Ад любові маёй святла*
*Сэрца ціха датла згарала.*
*Ды каму разгавейна стала*
*Ад любові маёй святла?*

*Ты нічога не заўважала*
*І ў ружовых мроях плыла...*
*Ад любові маёй святла*
*Сэрца ціха датла згарала.*

## На беразе сваёй надзеі

*На беразе сваёй надзеі,*
*У незагоенай журбе*
*Твой воблік светлы*
*ў сэрцы грэю —*
*Гукаю-клічу я цябе.*

*Хаджу, нібы зачараваны,*
*У чарадзе начэй і дзён,*
*І перарваць-спыніць не ў стане*
*Я неабудны гэты сон.*

*Мне б, улюбёнаму ў нябёсы,*
*Усю, як можна, моц сабраць*
*І над тваім*
*няўмольным лёсам*
*Хоць раз жар-птушкай палунаць.*

* * *

*— Няма яго, — гавораць мне, —*
*Людскога прывіднага шчасця —*
*Ні чорнай і ні белай масці.*
*Ёсць толькі міг — і той міне.*

*Сябры мае! Пакуль жывём,*
*Без сумнай і шкадобнай ноткі*
*Давайце міг жыцця кароткі*
*Вялікім шчасцем назавём!*



*Фота Кастуся Дробава*




* * *

*Часіна праступ і дэпрэсій*
*Кране зледзянелай рукой —*
*І ветру самотная песня*
*Мінорам напоўніць пакой.*

*Ды кволае сонца аблашчыць*
*Азяблае сэрца цяплом,*
*І промні, як быццам на шчасце,*
*Паб'юцца аб шэрае шкло.*

## Чорна-белы верш

*Чорнае дрэва — у белым сумёце.*
*З чорнага коміна — белы уздых.*
*Недзе шаша чорнай стужкай праходзіць,*
*Лес пад бялюткім уборам заціх.*

*Сціплыя фарбы зіма абірае:*
*Чорную туш, акварэль ды гуаш.*
*Побач на даху варона старая*
*Годна завершыць выдатны пейзаж.*

* * *

*Дажджынкі — на твар і адзенне…*
*Псуецца настрой наш калядны.*
*Глабальнаму пацяпленню*
*Надвор'е цяпер падуладна.*

*А хочацца, быццам дзіцяці,*
*Схавацца у пульхных сумётах.*
*Ды лужы на голым асфальце*
*Ураз адбіваюць ахвоту.*

## Калыханка для дарослых

*Уцякае за аблокі*
*Сонечны прамень.*
*Разамлелы да знямогі,*
*Спачывае дзень.*

*Вось ужо густая цемра*
*Паглынае нас.*
*Ноч — прычына для натхнення.*
*Ноч — кахання час.*

*І паэты да світання*
*Будуць рыфмаваць,*
*А шчаслівых закаханых*
*Хай ахопіць жарсць!*

## Прадчуванне

*Краплістым шматгалоссем*
*Струменіць красавік.*
*Вось і сумёт апошні*
*У шэрым брудзе знік.*

*І хоць халаднавата*
*Ад дажджавой смугі,*
*Ужо чакаюць свята*
*Вярба і пірагі.*

## Раніца

*Нахабны сонечны зайчык*
*Праціснецца між фіранак,*
*Па твары крыху патанчыць,*
*Каб сны разагнаць мае.*
*Пасля прыляціць на кухню,*
*Ускочыць у філіжанку*
*І проста без запрашэння*
*Гарбаты са мной пап'е.*

## Вясновае

*З вышыні блакітна-белай*
*На азяблы чорны брук*
*Скача промнік ашалелы*
*З сонцавых пяшчотных рук.*

*Набракаюць сокам дрэвы,*
*Ручаі бяруць разбег,*
*А празрыстыя залевы*
*Хутка змыюць брудны снег.*

*Нават лужына і тая*
*Прасвятляецца да дна.*
*Вось, сябры, яна якая —*
*Беларуская вясна.*

# Вясновы баль у кніжным каралеўстве

**Заўтра, 17 сакавіка, раім адкласці справы і наведаць адну са старэйшых крам сталіцы — "Цэнтральную кнігарню", што месціцца непадалёк ад ГУМа. Сёлета крама святкуе 60-годдзе, і да ўрачыстасці тут падрыхтавалі шмат прыемных сюрпрызаў.**



**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Сваю гісторыю "Цэнтральная кнігарня" адлічвае з 17 сакавіка 1952 года. Месціцца яна ў будынку, што з'яўляецца помнікам архітэктуры і горадабудаўніцтва XX стагоддзя. Плошча гандлёвых залаў каралеўства кніг — 270 кв. м. Гэта адна з самых наведваемых крам. У 2004-м яна далучана да ААТ "Белкніга".

"Стала добрай традыцыяй прыходзіць да нас сем'ямі, таму што прапануем вялікі выбар кніг — і дзіцячых, і дарослых, — расказвае загадчыца кнігарні Інга Бекіш. — Таваразнаўцы рупяцца, каб на палічках была літаратура на ўсе выпадкі — і падарункавыя шыкоўныя выданні, і больш танныя, у мяккіх вокладках. І хаця мы прагаласавалі за сур'ёзную літаратуру, не адмовіліся ад раманаў у мяккай вокладцы".

На працягу свайго існавання гэта кнігарня, якую ўпадабалі мінчане і госці сталіцы, застаецца лідарам у галіне. Кожны дзень сюды наведваецца шмат людзей, і рэдка хто пакідае краму без пакупкі. Асартымент — самы разнастайны: мастацкая літаратура, даведнікі, канцтавары, паштоўкі, сувеніры і г.д. 11 мільярдаў рублёў — вось таваразварот за год. І гэта толькі дзякуючы прафесіяналізму гандляроў.

Пра калектыў Інга Мікалаеўна, якая ўзначальвае кнігарню ўжо трэці год, расказвае з захапленнем: "Тут працуюць сапраўдныя прафесіяналы, майстры сваёй справы. Дваццаць пяць гадоў працоўнага стажу менавіта ў "Цэнтральнай кнігарні" мае Алена Працкевіч, 20 — Алена Кажарская, 15 гадоў — Ірына Шлапацкая, 12 — Юлія Сайкоўская. Наша работа не раз адзначалася на розных узроўнях шматлікімі ўзнагародамі, такімі, як ганаровы дыплом Саюза выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку ў намінацыі "Лепшая кнігарня", дыплом Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь "Лепшая кнігарня-2009" і інш.

Не самы рэдкі выпадак, калі адзін пакупнік набывае кніг на 10 мільёнаў. Так, звярнулася жанчына, папрасіла падабраць бібліятэку твораў для сваіх бацькоў.

Гандляры, апрача таго, што добра ведаюць змест кніг, якія стаяць на палічках аддзела, — яшчэ і добрыя псіхолагі. Відаць, гэта найпершая ўмова — адчуць чалавека, каб параіць яму тую літаратуру, якая не расчаруе. Ведаеце, для многіх людзей кнігі — сапраўдныя лекі. Ідуць па іх, калі нешта непрыемнае здарылася ў жыцці ці на сэрцы сум. І гандляр выступае ў якасці правізара: павінны распытаць патэнцыяльнага пакупніка пра яго густы, а калі здолее дагадзіць з "лекавым сродкам", чытач прыйдзе яшчэ не адзін раз. Нашы супрацоўнікі шмат чытаюць самі, прыслухоўваюцца і да парад пакупнікоў, якія паспелі з нечым пазнаёміцца. І тут добрым словам прыгадаем "ЛіМ" з яго "Кніжным светам" за пашыраныя анатацыі і матэрыялы пра кніжныя навінкі". Сапраўды, пры тым аб'ёме друкаванай прадукцыі, які існуе сёння, усё прачытаць немагчыма. "Мы заўсёды ахвотна расказваем пакупнікам пра новыя паступленні, — зазначае Інга Мікалаеўна, — арыентуем іх у выбары. Усе кажуць «дзякуй», а некаторыя нават падрабязна занатоўваюць усё ў сшытачак".

Асноўную інфармацыю пра кніжныя навінкі чытачы атрымліваюць з дапамогай інтэрнэту. Папулярны сайт *oz.by* аператыўна рэагуе на прапановы выдавецтваў. На думку загадчыцы кнігарні, паспрыяць папулярнасці беларускіх выданняў мог бы сайт такога кшталту (напрыклад, аб'яднаны сайт айчынных выдавецтваў), на якім разам з новай беларускай кнігай адразу б з'яўлялася пашыраная інфармацыя пра яе.

Клопатаў у супрацоўнікаў кнігарні хапае: у гэтым годзе плануецца даўно неабходны капітальны рамонт, які будзе праводзіцца адначасова з рамонтам будынка, улічваючы яго культурную каштоўнасць, патрэбна пашырэнне гандлёвых плошчаў, замена гандлёвага абсталявання. Да месца было б і кніжны навігатар — прыстасаванне, якое дакладна б інфармавала пакупніка, дзе знайсці патрэбнае выданне.

Варта нетаропка прайсціся па ўсіх аддзелах "Цэнтральнай кнігарні". Тады не застанецца па-за ўвагай тое, што на пэўныя выданні існуе сістэма скідак. Падчас юбілею таксама плануюцца прыемныя сюрпрызы для наведвальнікаў: 17 сакавіка кнігарня будзе працаваць з 9 да 24 гадзін, на кожную кнігу аб'яўлена 10-працэнтная скідка.

У гэты дзень адбудзецца вялікая колькасць прэзентацый і сустрэч з аўтарамі: у 11.30 Наталля Ігнаценка прадставіць кнігу "Как профессию себе дети выбирали", у 12.00 Вольга Норына — зборнік вершаў "Городская трава", у 12.30 чытачоў чакае Раіса Баравікова, у 14.00 — Наталля Батракова, у 15.00 — Вячаслаў Бандарэнка, з 16.00 да 18.00 — выдавецтва "Харвест" прадставіць беларускіх фантастаў і маладых паэтаў. З Навумам Гальпяровічам, Анатолем Зэкавым і Ганадам Чарказянам можна сустрэцца з 18.00 да 19.30. У 21.00 адбудзецца прэзентацыя выдання Маргарыты і Вольгі Бясчастнавых "Tramontana, или Как я сходила замуж за иностранца" (Минск: Северный ветер), а завершаць юбілейны дзень Алена Масла і Валярына Кустава.

***На здымку: загадчыца "Цэнтральнай кнігарні" Інга Бекіш (у цэнтры) і старэйшыя супрацоўніцы: Алена Працкевіч (злева), Юлія Сайкоўская (справа).***

# Усе мы — з «Мастацкай»!

**Выдавецтву "Мастацкая літаратура" — 40 гадоў! Цяжка знайсці беларускую сям'ю, якая за сваё жыццё хаця б раз не трымала ў руках яго кнігу. Прадукцыю "Мастацкай літаратуры" можна пабачыць у асабістых і школьных бібліятэках, сустрэць на стэндах прэстыжных кірмашоў і выставак. Пра юбілей і далейшыя планы выдавецтва распавядае галоўны рэдактар установы Віктар Шніп.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

— Як вядома, выдавецтва "Мастацкая літаратура" было ўтворана ў 1972 годзе на аснове рэдакцый мастацкай і дзіцячай літаратуры выдавецтва "Беларусь". За гэты час нашай установай пройдзены немалы шлях. Зразумела, усведамляем значэнне зробленага. Але заўсёды прыемна атрымаць своеасаблівае пацвярджэнне. Для нас гэта — віншаванне ад Прэзідэнта краіны. Акрамя таго, нас павіншавалі Міністэрства інфармацыі і Міністэрства культуры Беларусі. Лепшыя супрацоўнікі выдавецтва былі адзначаны граматамі. Таццяна Цішук, супрацоўніца аддзела рэалізацыі, атрымала знак "Выдатнік друку", а стыльрэдактар Яўгенія Бебель — падзяку ад Міністэрства інфармацыі краіны. Таксама пра нас не забыліся калегі і сябры: іншыя выдавецтвы, друкарні, аўтары і чытачы.

**— Саракагадовы юбілей у адносінах да чалавека асацыіруецца з крызісам сярэдняга ўзросту. Ці варта праводзіць паралелі ў дачыненні да выдавецтва?**

— Упэўнены, што не. Год працы выдавецтва можна параўнаць з дзесяццю гадамі чалавечага жыцця. Таму, на маю думку, 40 чалавечых гадоў роўныя чатыром стагоддзям выдавецкай дзейнасці. Падчас "крызісу сярэдняга ўзросту" чалавек пачынае задумвацца: ці пабудаваў ён дом, ці пасадзіў дрэва, ці ўзгадаваў ён дзіця. Дом на праспекце Пераможцаў у нас ёсць. За сорак гадоў працы выгадавалі і выпусцілі ў свет больш як 5,5 тысячы кніжных "дрэў" — сапраўдную пушчу! А колькі дзяцей і дарослых выраслі, сілкуючыся гэтым інтэлектуальным кіслародам, і падлічыць складана.



**— Якія выданні, што пабачылі свет за сорак гадоў, вы лічыце візітоўкамі выдавецтва?**

— Перш за ўсё, гэта збор твораў Уладзіміра Караткевіча ў 8 тамах (9 кнігах), што выходзіў напрыканцы 1980-х гадоў, а таксама зборы твораў іншых нашых класікаў. Серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", "Мастакі Беларусі", "Беларусь мастацкая", "Беларуская паэзія XX стагоддзя", "Беларуская проза XX стагоддзя", "Беларуская паэзія XXI стагоддзя" і "Беларуская проза XXI стагоддзя", "Залатое пяро", "Гісторыя ў асобах". Зрэшты, ці не ў кожнага пісьменніка хаця б адна кніга выходзіла ў нашым выдавецтве. Выданні ўстановы прадстаўлялі краіну ў далёкім і блізкім замежжы. Таму саму "Мастацкую літаратуру" можна лічыць візітоўкай айчыннага прыгожага пісьменства.

**— Якія бліжэйшыя планы ў выдавецтва?**

— Збіраемся працягнуць выданне серыі "Залатая калекцыя беларускай літаратуры", якая будзе складацца з 50 кніг. У мінулым годзе выйшаў першы том, куды ўключаны творы XI — XVI стагоддзяў. Сёлета павінны пабачыць свет чатыры тамы, прысвечаныя літаратуры XVII — XVIII стагоддзяў. Плануем пачаць выданне новага збору твораў Уладзіміра Караткевіча.

Шэраг выданняў будзе адрасаваны юным чытачам. Па-першае, гэта значная колькасць невялікіх па памеры, але ілюстраваных выданняў. Па-другое, у серыі "Школьная бібліятэка" павінен выйсці томік паэзіі Максіма Танка. Дарэчы, нядаўна ў ёй ужо з'явіліся кнігі Янкі Купалы "Роднае слова" і Якуба Коласа "Родныя вобразы". Па-трэцяе, у красавіку гэтага года 55-гадовы юбілей святкуе часопіс "Вясёлка". З гэтай нагоды выйдзе аднайменны зборнік, куды будуць уключаны лепшыя творы, апублікаваныя на старонках выдання за апошнія пяць гадоў. Нарэшце, падлеткам будзе цікава пазнаёміцца са зборнікам "Заказаны ў снягурку", які будзе складацца з твораў пра каханне. Больш сталай аўдыторыі адрасуем чарговы том з серыі "Вера. Надзея. Любоў". А серыя "ЖЗЛБ" папоўніцца кнігамі, прысвечанымі жыццю і творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка.

Падчас святкавання юбілею дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі прынёс падпісаную дамову пра сумесны праект, згодна з якой у "Мастацкай літаратуры" выйдзе факсімільнае выданне знакамітай кнігі Вацлава Ластоўскага "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Пра храналагічны прамежак сведчыць падзагаловак: "З пачатку зараджэння беларускага пісьма (X ст.) аж да XIX ст.". І гэта знакава, бо праз гады па прадукцыі "Мастацкай літаратуры" можна будзе пісаць найноўшую гісторыю беларускай кнігі.

## Паралелі

**У Кодэксе аб адукацыі Рэспублікі Беларусь падкрэсліваецца, што працэс вывучэння замежных моў павінен грунтавацца на камунікатыўна-дзейнасным падыходзе. Таму і падручнікі арыентаваны на камунікацыю падчас навучальнага працэсу. А што ў Францыі? Пра стратэгіі выдання падручнікаў распавёў падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу Бруно Ламбар — прадстаўнік самага буйнога ў краіне выдавецтва “Кле Інтэрнасьональ”:**




# Навучанне — праз рэальныя сітуацыі

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК, фота аўтара**

— Выдавецкі дом “Бруно” (філіял “Кле Інтэрнасьональ”) спецыялізуецца на выданні кніг, адукацыйных матэрыялаў для вывучэння французскай мовы як замежнай. Выдаўцы, канечне ж, арыентуюцца на праграмы, якія зацвярджае Міністэрства адукацыі краіны, але яны дастаткова незалежныя, бо не існуе кантролю за кнігамі, якія выдаюцца. Адпаведна, выдаўцы самі зацікаўленыя ў распаўсюджванні літаратуры.

Каманда гандляроў, якія робяць рэкламу прадукцыі, існуе ў кожным выдавецкім доме. Гэта вельмі мабільныя людзі: яны ладзяць сустрэчы з патэнцыйнымі пакупнікамі ў школах, ва ўніверсітэтах, прысутнічаюць на кніжных выстаўках і кірмашах, дзе збіраюцца некалькі дзясяткаў канкурэнтаў. Калі гандлёвы выканаўца прапаноўвае настаўніку бясплатны экзэмпляр кнігі, то ён упэўнены: у бліжэйшыя пяць год прадасць тысячу асобнікаў гэтага падручніка.

Кожнае выдавецтва стараецца выдаць як мага больш дасканала прадуманых і бездакорна напісаных кніг. Каб гэта так і адбывалася, неабходна прыслухоўвацца да пажаданняў выкладчыкаў, якія набываюць вучэбную літаратуру. Вучні ў гэтай справе не задзейнічаны, таму асноўныя пакупнікі літаратуры — выкладчыкі ўніверсітэтаў і настаўнікі школ.

Выдавецтва “Натан” (яшчэ адзін філіял “Кле Інтэрнасьональ”) штогод выпускае шэсцьдзясят тысяч кніг, якія раздаюць выкладчыкам бясплатна. Гэта рызыкоўна, але хто не хоча мець поспех!

Магчыма, падасца дзіўным, але выдавецкія дамы не толькі канкуруюць паміж сабой, але і супрацоўнічаюць, абменьваючыся важнай інфармацыяй. У Францыі існуе так званы “інфармацыйны файл”, у якім сабрана інфармацыя пра ўсіх выкладчыкаў: у якой навучальнай установе працуюць, у якім класе, якую літаратуру набывалі за мінулыя пяць год. Гэтая інфармацыя даступная ўсім выдавецтвам.

“Бруно” адрозніваецца ад канкурэнтаў тым, што выдадзеныя кнігі не з’яўляюцца копіяй праграм, распрацаваных Міністэрствам адукацыі Францыі. Выдавецтва прапаноўвае сваю літаратуру на французскай мове многім краінам свету. Замест таго, каб выконваць нацыянальныя стандарты, мы засяроджваем увагу на структуры працэсу авалодвання замежнай мовай, у дадзеным выпадку — французскай. У навучальным дапаможніку няма звароту да таго альбо іншага народа. Галоўная мэта — распрацаваць такую сістэму вывучэння мовы, каб кожны студэнт змог размаўляць па-французску. Праўда, з дапамогай кніг, якія прапануем, нельга падрыхтавацца да ўнутраных экзаменаў пры паступленні ва ўніверсітэт — не той узровень. Але можна выкарыстоўваць вучэбную літаратуру для падрыхтоўкі да міжнароднага экзамену.

Што да распрацоўкі літаратуры, то ёю займаюцца настаўнікі і выкладчыкі. У спісе кніг больш як восем сотняў найменняў выданняў і пазначана каля дзвюх тысяч аўтараў. На старонках дапаможнікаў адноўлены рэальныя сітуацыі, якія адбываюцца ў класе, гэта дазваляе знаёміцца і з адпаведнай лексікай, і з культурай нашай краіны, звычкамі людзей.

Асаблівасць выкладання французскай мовы для замежных студэнтаў — адмова ад навучання граматыцы. Наш падыход грунтуецца на тым, каб навучыць студэнта размаўляць, для чаго і вывучаюцца бытавыя мікрасітуацыі, толькі пасля гэтага прапаноўваюцца правілы граматыкі.

Вельмі важны момант — самацэнзура. Наш выдавецкі дом распаўсюджвае літаратуру ў многіх краінах свету. І галоўнае — не шакіраваць чытача. Напрыклад, у ЗША адмовіліся купляць кнігі нашага выдавецтва толькі з-за таго, што яны змяшчалі фотаздымкі людзей, якія паляць. Крыўдна, што ўвесь тыраж не быў прададзены з-за такой, здавалася б, дробязі. Давялося распрацоўваць іншую методыку. Я лічу, што важна стварыць такі дапаможнік, які будзе расказваць пра культуру мовы, якая вывучаецца студэнтам. Таму што інакш з вучэбнага матэрыялу давядзецца выключаць тэмы рэлігіі, ежы, алкаголю, шлюбу, разводаў — менавіта яны падпадаюць пад самацэнзуру.

## Прэзентацыі

### У перакладчыцкай лабараторыі

**Прэзентацыя кнігі “Лучнасць” паэта, перакладчыка, галоўнага рэдактара часопіса “Полымя” Міколы Мятліцкага прайшла ў Доме Дружбы.**

Зборнік перакладаў сусветнай паэзіі “Лучнасць” выйшаў у РВУ “Літаратура і Мастацтва” пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. У кнізе змешчаны вершы паэтаў Расіі, Казахстана, Украіны, Польшчы, Кітая, Сербіі, Славакіі, Арменіі ды іншых краін.




Пісьменнік з Таджыкістана Ато Хамдам пазнаёміў прысутных з мілагучнай таджыкскай паэзіяй. Юрый Сапажкоў, паэт і перакладчык, запрасіў гасцей у творчую лабараторыю: ён прачытаў верш “Воран” на рускай мове, а Мікола Мятліцкі — свой беларускі пераклад твора. Паэт Вадзім Спрынчан распавёў пра майстэрства перакладчыка.

Падводзячы вынікі сустрэчы, Мікола Мятліцкі зазначыў: “Пераклад — нястомная праца душы і пошук”.

### Лёс і памяць

**У сталічнай бібліятэцы № 18 прайшла прэзентацыя гістарычнага рамана “Пётр Машэраў: Жыццё. Лёс. Памяць”, аўтар якога — Славамір Антановіч. Кніга выдадзена ў Маскве пры садзейнічанні нацыянальна-культурнай аўтаноміі “Беларусы Масквы”.**

Славамір Антановіч у прадмове да рамана зазначыў: “Ёсць лідары нацыі, якія сваімі справамі, сваім жыццём пакідаюць яркі след у гісторыі і памяці народаў. Іх не абагаўляюць, таму што яны былі жывымі людзьмі, увасаблялі ў сабе не толькі поспехі, дасягненні, але і недахопы — як асабістыя, так і свайго часу, сваёй эпохі. Такім чалавекам быў Пётр Міронавіч Машэраў”. Думку выступоўцы ў вітальным слове працягнула дырэктар бібліятэкі Алена Сухадолава: “Сёння ў гэтай утульнай зале ўсіх нас аб’яднала адно імя — Пётр Машэраў. Гэта чалавек, які сапраўды аб’ядноўвае нацыю, яго любяць, шануюць і паважаюць”.




Успомніць пра легендарную асобу ў бібліятэку прыйшлі Ніна Нерад, былы сакратар Мінскага гаркама партыі, Маргарыта Саўчык, заслужаны работнік народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь і старшыня Першамайскага раённага аддзялення грамадскага аб’яднання “Беларускі фонд міру”, прадстаўнікі Першамайскай раённай арганізацыі грамадскага аб’яднання “Беларускі саюз блакаднікаў Ленінграда”, Мінскага гарадскога аб’яднання былых малалетніх вязняў фашызму, Беларускага саюза жанчын, курсанты Інстытута пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Яны распавялі прысутным пра сям’ю Пятра Машэрава, яго партыйную дзейнасць, жыццё ўвогуле.

Кніга “Пётр Машэраў: Жыццё. Лёс. Памяць” знойдзе месца на паліцах вучняў, настаўнікаў, даследчыкаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай краіны.

**Дар’я ШОЦІК**

# Выхад з духоўнага крызісу

**Кацярына БЯДУЛІНА**

**У межах XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных тэме духоўнай кнігі. Іх галоўная мэта — прапаганда сярод моладзі ідэй цнатлівасці, адказнасці за стварэнне сям’і, місіянерскага служэння. Імпрэзы былі аб’яднаны духоўна-асветніцкай праграмай “Сям’я — Яднанне — Бацькаўшчына” і прайшлі ў розных формах: гутаркі з псіхолагамі і медыкамі, лекцыі, выстаўкі літаратуры, што пабачыла свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата.**

— Духоўная літаратура заўсёды была запатрабаваная ў грамадстве. Душа чалавека ніколі не супакойваецца, маючы толькі зямныя даброты, — адзначыў падчас адной з сустрэч выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата, старшыня аргкамітэта рэспубліканскай духоўна-асветніцкай праграмы “Сям’я — Яднанне — Бацькаўшчына” Уладзімір Грозаў. — Дзейнасць выдавецтва — гэта лекаванне чалавечых душ. Кнігі, што выходзяць тут, дапамагаюць правільна выбраць свой шлях у жыцці. Важна, што ў наш час, калі чалавек, часам, губляецца перад цяжкасцямі і непрыемнасцямі, складанасцямі, добрая кніга духоўнага зместу, як жамчужына, узнятая з марской глыбіні, можа стаць крыніцай вялікай радасці.

Падчас прэзентацыі трох новых кніг псіхолага Міхаіла Хасьмінскага аўтар зазначыў:

— “У чым сэнс жыцця?” — галоўнае пытанне, на якое чалавек заўсёды шукае адказ. Навошта мы жывём? Мы апускаем рукі, думаючы, што ўсё, далей шляху больш няма. Але калі мы не будзем шукаць сябе, то навошта тады жыць? Трэба змагацца за сваё жыццё, за сябе... І ў гэтым дапамагае вера. Яна ўвесь час павінна быць у чалавеку, што б ні здарылася.

“Сапраўдная любоў. Закахаласць — пачатак кахання”, “Сапраўдная любоў. Будаўніцтва сям’і” і “Самагубства: памылка або выхад?”. Гэтыя духоўныя кнігі напоўнены жыццём і любоўю, жаданнем дапамагчы людзям, якія апынуліся ў цяжкай сітуацыі. Над такімі выданнямі працуюць вядомыя праваслаўныя псіхолагі, яны імкнуцца бескарысліва дапамагчы і добра ведаюць, як гэта зрабіць.

У кнізе “Пад крыжам лёсу” (аўтары Анатоль Шаркаў, Уладзімір Грозаў і Юрый Бясцвіцкі) на аснове аўтарскіх даследаванняў, архіўных дакументаў і рассакрэчаных матэрыялаў савецкай разведкі, а таксама ўспамінаў удзельнікаў падзей у даступнай форме асвятляюцца малавядомыя факты Другой сусветнай вайны і пасляваеннай гісторыі. Выдавецтвам Беларускага Экзархата прэзентавана таксама кніга Анатоля Статкевіча-Чабаганава “Я — сын Ваш. Летапіс беларускай шляхты”, адзначаная дыпломам І ступені Нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі-2012”. Гэтай працы аўтар прысвяціў каля двух дзясяткаў гадоў. У кнізе апісана гісторыя трох родаў. У цэлым за аўтарскім даследаваннем ахоплена больш як сорак сем’яў. Серыя кніг Анатоля Статкевіча-Чабаганава выдаецца па благаслаўленні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Цяпер да выдання рыхтуюцца два тамы “Летапісу”, прысвечаныя старажытнаму магілёўскаму роду Казановічаў.

Вынікам многіх імпрэз, што прайшлі падчас кніжнай выстаўкі, стала падпісанне Мемарандума аб стварэнні станоўчага іміджу сям’і ў сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Сям’я, мацярынства, дзяцінства з’яўляюцца найбольш важнымі жыццёвымі каштоўнасцямі чалавека. Аднак дэмаграфічная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляецца пытаннем дзяржаўнай бяспекі. І рашэнне гэтай праблемы магчымае толькі пры сумесных намаганнях органаў улады і ўсёй грамадскасці краіны.

# Сергей. Марина. Поэзия

Денис МАРТИНОВИЧ

**Что объединяет Сергея Есенина и Марину Цветаеву? Эпоха, в которую создавались произведения, сложная судьба, трагический жизненный финал, долгие годы замалчивания стихов, полное признание читающей публики, которое пришло после смерти. А ещё — великий талант, позволивший обоим творцам стать классиками русской литературы. Представляем читателям "Кніжнага свету" книги их избранной лирики, вышедшие в ООО "Харвест".**

## «До свиданья, друг мой, до свиданья…»

Сергей Есенин родился в 1895 году в крестьянской семье в Рязанской губернии. Закончил церковно-учительскую школу. Как признавался он в своей автобиографии, писать стихи начал рано, в девять лет. Но к сознательному творчеству относилось лишь то, что было написано с 16 — 17-летнего возраста. Переехав из родных мест в Москву, Есенин работал в мясной лавке, позднее — в типографии Ивана Сытина, учился вольнослушателем в Московском народном университете имени Шанявского. В 1915-м он напечатал своё первое стихотворение. А уже в следующем году вышла его первая книга "Радуница".

Первый период творчества Есенина был связан с группой "новокрестьянских" поэтов. Литературного объединения с таким названием не существовало, а сам термин был придуман критиками, чтобы отделить творцов от крестьянских поэтов XIX века. Тем не менее все "новокрестьянские" поэты обращались к теме деревенской России, её природе, устному народному творчеству.

*Я не скоро, не скоро вернусь.*
*Долго петь и звенеть пурге.*
*Стережёт голубую Русь*
*Старый клён на одной ноге,*
*И я знаю, есть радость в нём*
*Тем, кто листьев*
*целует дождь,*
*Оттого что тот*
*старый клён*
*Головой на меня похож.*

В период с 1918 по 1924 год Есенин принадлежал к литературному течению имажинистов. Представители этого направления считали главной целью в творчестве создание образа, для чего наиболее часто использовали в произведениях метафоры и метафорические цепи, а в выступлениях — эпатаж. В те годы у Есенина вышли сборники "Трерядница", "Исповедь хулигана", "Стихи скандалиста", "Москва кабацкая", поэма "Пугачёв".

*Не каждому дано яблоком*
*Падать к чужим ногам.*
*Сие есть самая*
*великая исповедь,*
*Которой исповедуется хулиган.*
*Я нарочно иду нечёсаным,*
*С головой, как керосиновая*
*лампа, на плечах.*
*Ваших душ*
*безлиственную осень*
*Мне нравится*
*в потёмках освещать.*
*Мне нравится,*
*когда каменья брани*
*Летят в меня,*
*как град рыгающей грозы,*
*Я только крепче*
*жму тогда руками*
*Моих волос*
*качнувшийся пузырь.*

В последние годы жизни Есенин тщетно пытался найти в своём творчестве точку опоры. Он понимал, что прежней, так горячо любимой им Руси не существует. Пути назад нет, и Россию ожидает тернистый, нелёгкий путь в неизвестность. А в лирике Есенина всё яснее проступали мотивы тщетности



существования и кратковременности пребывания человека на земле:

*Отговорила роща золотая*
*Берёзовым, весёлым языком,*
*И журавли, печально пролетая,*
*Уж не жалеют больше ни о ком.*
*Кого жалеть?*
*Ведь каждый в мире странник —*
*Пройдёт, зайдёт и вновь*
*оставит дом.*
*О всех ушедших*
*грезит конопляник*
*С широким месяцем*
*над голубым прудом.*

28 декабря 1925 года Есенина нашли мёртвым в ленинградской гостинице "Англетер". Причина смерти поэта осталась тайной. По одной из версий, он покончил с собой в состоянии депрессии. По другой — был убит сотрудниками ОГПУ. Последнее стихотворение написано кровью:

*До свиданья, друг мой,*
*до свиданья.*
*Милый мой, ты у меня в груди.*
*Предназначенное расставанье*
*Обещает встречу впереди.*
*До свиданья, друг мой,*
*без руки, без слова,*
*Не грусти и не печаль бровей, —*
*В этой жизни умирать не ново,*
*Но и жить, конечно, не новей.*

Лучшие произведения Сергея Есенина вошли в книгу **"Стихотворения"**, которую мы рекомендуем читателям.

## «Мне нравится, что я больна не вами…»

Дочь Ивана Цветаева, филолога, искусствоведа, профессора Московского университета, основателя Музея изящных искусств, Марина получила превосходное образование на Родине и за границей. Стихи начала писать уже в шесть лет. А в восемнадцатилетнем возрасте у неё вышла первая книга "Вечерний альбом". Дореволюционные годы стали временем творческих успехов молодой поэтессы, создавшей книги "Волшебный фонарь" и "Из двух книг". Удача сопутствовала Цветаевой и в личной жизни: она вышла замуж за Сергея Эфрона, родила дочь.

*Да, я, пожалуй,*
*странный человек,*
*Другим на диво!*
*Быть, несмотря*
*на наш двадцатый век,*
*Такой счастливой!*
*Не слушая о тайном*
*сходстве душ,*
*Ни всех тому подобных басен,*
*Всем говорить,*
*что у меня есть муж,*
*Что он прекрасен!..*

Цветаева стала одной из ярких звёзд Серебряного века. Первоначально она была связана с кругом московских символистов, входила в некоторые другие творческие объединения. Но в отличие от многих своих коллег по перу, для которых участие в различных литературных коалициях было неотъемлемым правилом игры, Цветаева чаще оставалась в некотором одиночестве. С одной стороны, это было едва ли не обязательным условием для полноценного творчества настоящего писателя. Однако, с другой, такой стиль жизни иде-



ально подходил для мирного времени. Тогда как в эпоху войн, революций и других социальных потрясений он мог оказаться губительным.

Событием, разделившим жизнь Цветаевой на две части, стала Октябрьская революция и Гражданская война. Её муж Сергей Эфрон воевал в частях Белой армии. А Марина Цветаева жила в Москве. Лирика поэтессы того времени (особенно цикл "Лебединый стан") проникнута сочувствием к белому движению.

*Кто уцелел — умрёт,*
*кто мёртв — воспрянет.*
*И вот потомки,*
*вспомнив старину:*
*— Где были вы?*
*— Вопрос как громом грянет,*
*Ответ как громом грянет:*
*— На Дону!*
*— Что делали?*
*— Да принимали муки,*
*Потом устали и легли на сон.*
*И в словаре задумчивые внуки*
*За словом:*
*долг напишут слово: Дон.*

Поэтому не удивительно, что в 1922 году Цветаева уехала за рубеж вслед за мужем. Жила в Берлине, предместьях Праги, Париже. Однако оказалось, что эмиграция не воспринимает Марину как свою. Сама поэтесса писала: "Моя неудача в эмиграции — в том, что я не эмигрант, что я по духу, то есть по воздуху и по размаху — там, туда, оттуда…" Поэтому в те годы у Цветаевой вышел только один сборник поэзии: "После России". Более активно выходила проза ("Мой Пушкин", "Дом у Старого Пимена", "Повесть о Сонечке" и другое). Однако материального достатка эти публикации не приносили, поэтому семья жила практически в нищете. Но именно в те годы Цветаева создавала настоящие поэтические шедевры:

*Гора горевала,*
*что только грустью*
*Станет —*
*что ныне и кровь и зной.*
*Гора говорила,*
*что не отпустит*
*Нас, не допустит тебя с другой.*
*Гора горевала,*
*что только дымом*
*Станет — что ныне:*
*и мир, и Рим.*
*Гора говорила,*
*что быть с другими*
*Нам (не завидую тем другим!).*
*Гора горевала о страшном грузе*
*Клятвы,*
*которую поздно клясть.*
*Гора говорила,*
*что стар тот узел*
*Гордиев — долг и страсть.*
*Гора горевала о нашем горе —*
*Завтра! Не сразу!*
*Когда над лбом —*
*Уж не memento, а просто — море!*
*Завтра, когда поймем.*

В конце 1930-х годов Цветаевы были вынуждены вернуться в СССР. Но и там поэтесса оказалась лишней и никому не нужной. В стране тем временем шли репрессии. Сергей Эфрон, а также Ариадна, дочь Марины, были арестованы. Сергей — расстрелян. С началом Великой Отечественной войны Цветаева уехала с сыном в эвакуацию в татарский город Елабугу. 31 августа 1941 года она повесилась в доме, где была определена на постой. Её жизнь закончилась. Начиналась вечная жизнь её произведений. Недаром сама Марина писала: *"Моим стихам, как драгоценным винам, // Настанет свой черёд"*. В этом вы можете убедиться на страницах книги "**Лирика**", куда вошло всё лучшее, написанное Мариной Цветаевой.

## Бабочки в тропиках

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

"Как жаль!" — воскликнут все те любители оригинальных подарков, которые не купили книгу **Е. Бойко "Декупаж. Сто лучших идей"** до Нового года. Ах, какие бы это были потрясающие сувениры для близких — оклеенная фольгированной бумагой свеча, бутылка шампанского с зимними домиками и Дедом Морозом, обложка для книги с симпатягой Санта-Маусом!

Техника, с помощью которой они декорированы, называется декупаж. Изобретённая ки-



тайцами в XII веке, дошедшая до европейцев вместе с модой на дорогую восточную лаковую мебель, оформленную росписью, техника декупажа стала использоваться как имитация росписи по дереву. Она заключалась в том, что на предметы мебели наносился не настоящий рисунок, а вырезанный из бумаги. Почти не отличишь. Сейчас этот вид рукоделия называют ещё и "салфеточной техникой", потому что самым популярным материалом для данного способа декорирования являются трёхслойные салфетки. Впрочем, сгодятся и открытки, и просто распечатанные картинки, лишь бы краска на них не "поплыла" под воздействием воды, клея или лака. Но и с этим можно справиться. Как? Автор ответит на страницах книги, начав с материалов и инструментов, перейдя к пошаговой инструкции преображения обычных предметов в произведения декоративного искусства.

И тогда электронные часы на стене запестрят экзотическими бабочками, по фоторамочке пробежит и застынет ящерица, на детской вешалке-плечиках расцветут ромашки, заиграет новыми красками старый бабушкин комод и даже на хозяйственной сумке появится портрет панды.

Кстати, сейчас как нельзя более актуально пасхальное яйцо "Радуга" — тоже красота несказанная.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ГУ «Национальная библиотека Беларуси» | 220114, г. Минск, пр. Независимости, 116 | 100377889 | 02330/0552578, выд. 14.10.2004 № 180, прод. 01.10.2009 № 113 | 14.10.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ГУО «Командно-инженерный институт» Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь | 220118, г. Минск, ул. Машиностроителей, 25 | 100918940 | 02330/0552551, выд. 14.10.2004 № 180, прод. 15.09.2009 № 107 | 14.10.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| ИП Попель А.С. | 222160, г. Жодино, ул. 40 лет Октября, д. 35, кв. 76 | 600180080 | 02330/0552601, выд. 14.10.2004 № 180, прод. 01.10.2009 № 113 | 14.10.2014 | литературно-художественное |
| УО Федерации профсоюзов Беларуси «Международный университет "МИТСО"» | 220099, г. Минск, ул. Казинца, д. 21, корпус 3 | 100071672 | 02330/437, выд. 14.10.2004 № 180, прод. 01.10.2009 № 113 | 14.10.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ГУО «Минский областной институт развития образования» | 220104, г. Минск, ул. П. Глебки, 88 | 101077412 | 02330/0552667, выд. 06.12.2004 № 205, прод. 04.01.2010 № 1 | 06.12.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ИП Филипенко О.М. | 220088, г. Минск, ул. Пулихова, 29-106 | 100491226 | 02330/0552669, выд. 06.12.2004 № 205, прод. 04.01.2010 № 1 | 06.12.2014 | производственно-практическое |
| ООО «Гревцов Паблишер» | 220005, г. Минск, ул. Смолячкова, д.16, ком. 311 | 101478094 | 02330/0003907, выд. 06.12.2004 № 205, прод. 17.11.2009 № 125 | 06.12.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Научно-информационный центр «ПН-Компасс» | 220049, г. Минск, ул. Черняховского, д. 1, комн. 12 | 100132159 | 02330/0552626 выд. 06.12.2004 № 205, прод. 17.11.2009 № 125 | 06.12.2014 | справочное |
| ИП Швец Е.Г. | 246000, г. Гомель, ул. Баумана, 4-14 | 490345186 | 02330/0552670, выд. 06.12.2004 № 205, прод. 04.01.2010 № 1 | 06.12.2014 | научно-популярное |
| РУП «Научно-практический центр Национальной академии наук Беларуси по животноводству» | 222160, г. Жодино, ул. Фрунзе, 11, 227-93 | 600039106 | 02330/0552668, выд. 31.12.2004 № 220, прод. 04.01.2010 № 1 | 31.12.2014 | научное, производственно-практическое, справочное |
| Минское областное УП «Несвижская укрупненная типография им. С. Будного» | 222603, г. Несвиж, ул. Гейсика, 1 | 600031238 | 02330/0552681, выд. 31.12.2004 № 220, прод. 04.01.2010 № 1 | 31.12.2014 | производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РО «Союз евангельских христиан баптистов в Республике Беларусь» | 220107, г. Минск, ул. Яна Райниса, 6, к. 3 | 100394258 | 02330/0552802, выд. 09.02.2005 № 23, прод. 29.01.2010 № 1.2 | 09.02.2015 | духовно-просветительное |
| РУП «Белстройцентр» | 220036, г. Минск, ул. Р. Люксембург, 101 | 190089964 | 02330/0552686, выд. 09.02.2005 № 23, прод. 04.01.2010 № 1 | 09.02.2015 | производственно-практическое, справочное |
| УО «Государственный институт повышения квалификации и переподготовки кадров в области газоснабжения «Газ-институт» | 220038, г. Минск, 1-ый Твердый пер., д. 8, комн. 405 | 100215147 | 02330/0552806, выд. 09.02.2005 № 23, прод. 29.01.2010 № 1.2 | 09.02.2015 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| УО «Барановичский государственный университет» | 225404, г. Барановичи, ул. Войкова, 21 | 200166687 | 02330/0552803, выд. 09.02.2005 № 23, прод. 29.01.2010 № 1.2 | 09.02.2015 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ИЧУП «Деловая печать» | 220037, г. Минск, ул. Аннаева, д. 48, комн. 23 | 190542518 | 02330/0552840, выд. 30.03.2005 № 54, прод. 25.03.2010 № 37 | 30.03.2015 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, литературно-художественное, издание для досуга |
| РО «Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь» | 230025, г. Гродно, ул. К. Маркса, 4 | 500257645 | 02330/0552908, выд. 30.03.2005 № 54, прод. 25.03.2010 № 37 | 30.03.2015 | духовно-просветительное |
| НПРУП «Институт мясо-молочной промышленности» | 220075, г. Минск, Партизанский пр., 172-25 | 100098867 | 02330/0552911, выд. 11.05.2005 № 74, прод. 07.05.2010 № 65 | 11.05.2015 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ОДО «Образовательная компания «Содействие» | 247760, г. Мозырь, ул. Пушкина, д. 32, комн. 39, 40 | 490322114 | 02330/0552903, выд. 11.05.2005 № 74, прод. 14.04.2010 № 51 | 11.05.2015 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| КУП «Редакция газеты «Дняпровец» | 247500, г. Речица, ул. Чапаева, 13 | 400016698 | 02330/0552963, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ИП Маруга М.М. | 220000, г. Минск, ул. Захарова, 67, корп. 2, кв. 30 | 100583937 | 02330/0552954, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | справочное, издание для досуга |
| ИП Шикунец В.А. | 210008, г. Витебск, ул. 1-я Бядули, 9-1-10 | 390329059 | 02330/0552956, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| Учреждение «Редакция газеты "Рэспубліка"» | 220013, г. Минск, ул. Б. Хмельницкого, 10а | 100308323 | 02330/0552957, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | официальное, производственно-практическое, массово-политическое, справочное |
| ИП ЧУП «Донарит» | 220012, г. Минск, ул. Чернышевского, 10-37А | 101153169 | 02330/0552962, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | производственно-практическое |
| Религиозная миссия «Библейский радиокласс» Союза евангельских христиан баптистов в Республике Беларусь» | 220107, г. Минск, ул. Я. Райниса, 6, к. 13 | 101612479 | 02330/0552958, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | духовно-просветительное |
| ИП Кожич П.П. | 220020, г. Минск, ул. Радужная, 10-96 | 100525967 | 02330/0552955, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | научно-популярное, справочное |
| ПЧУП «Паркус плюс» | 220023, г. Минск, пр. Рокосовского, д. 81, кв. 50 | 190533579 | 02330/0552964, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ПЧУП «АмелияПринт» | 212030, г. Могилев, ул. Яцыно, д. 5, к. 77 | 790267607 | 02330/0552960, выд. 28.07.2005 № 114, прод. 13.07.2010 № 114 | 28.07.2015 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| РУП «Белорусский дорожный инженерно-технический центр» | 220036, г. Минск, пер. Домашевский, 11, 500-514 | 190638734 | 02330/0630719, выд. 10.10.2005 № 144, прод. 11.10.2010 № 164 | 10.10.2015 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Агентство Владимира Гревцова» | 220020, г. Минск, ул. Нарочанская, д. 11, комн. 21а | 100024047 | 02330/0630716, выд. 10.10.2005 №144, прод. 11.10.2010 № 164 | 10.10.2015 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, духовно-просветительное |
| ГУ «Учебно-методический центр Минсельхозпрода» | 220034, г. Минск, ул. Краснозвездная, 8 | 100512953 | 02330/0630753, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 21.12.2010 № 206 | 09.12.2015 | научное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ИЧУП «Энциклопедикс» | 220050, г. Минск, ул. К. Маркса, д. 15, комн. 203а | 101434395 | 02330/0630750, выд. 09.12.2005 № 178, прод. 21.12.2010 № 206 | 09.12.2015 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |

# Внесение изменений в сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 23 января 2012 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «Альтернативная полиграфия» | 220028, г. Минск, ул. Академическая, д. 26, комн. 79 | 191201423 | 02330/0552748 выд. 17.03.2010 № 34 внес.изм. от 19.01.2012 №14 | 17.03.2015 | за исключением периодических изданий |
| Продлен срок действия лицензии на осуществление полиграфической деятельности | | | | | |
| Республиканское унитарное предприятие «Издательство "Адукацыя і выхаванне"» | 220070, г. Минск, ул. Буденного, 21 | 100626241 | 02330/327 выд. 19.01.2012 № 14 | 19.01.2017 | за исключением газет |

### Англійская літаратура

**Бронте, Ш.** Джейн Эйр / Шарлотта Бронте. Рождество в Индии: романы / [Барбара Форд; к сборнику в целом: перевод В. Семенова; подготовка текста В. Г. Шишова]. — Минск: Харвест, 2011. — 831 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9093-6 (в пер.).

### Руская літаратура

**Замятин, Е. И.** Мы: роман, повесть, рассказы, литературная публицистика / Е. И. Замятин; [составитель Ю. В. Патюпо]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 341 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1277-1.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Валье, Н.** Диета: новеллы / Николь Валье. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — 242 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-476-773-4.

**Воронин, А. Н.** Инструктор. Законопослушные граждане: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 318 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-16-9634-1 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Комбат. Кладбище отверженных: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9339-5 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Комбат. Смертельная битва: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 318 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-16-9782-9 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Слепой. Не брать живым: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 318 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9876-5 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Спецназовец. Шальная пуля: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-16-9684-6 (в пер.).

**Вороха, О. В.** Ворох мыслей. Ворох любви: стихи, рассказы и миниатюры / Оксана Вороха. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 121 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-54-6 (в пер.).

**Давыденко, Н. В.** Прошлое остается с нами...: рассказы-были / Нина Давыденко. — Витебск: Витебская областная типография, 2011. — 71 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-534-032-5.

**Дацкевич, И. Т.** Возвращение: стихи / Иван Дацкевич; [автор вступительной статьи Надежда Парчук]. — Брест: Альтернатива, 2011. — 200 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-267-7.

**Ефремова, Т.** След на воде: [роман] / Татьяна Ефремова. — Минск: Букмастер, 2012. — 251 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-097-6 (в пер.).

**Заслонова, И. К.** Завтрак с тартинками: роман / Иза Заслонова; [художник Л. В. Гальперин]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 498 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6986-45-4 (в пер.).

**Лащенко, М.** Все, что у меня есть: [роман] / Мария Лащенко. — Минск: Букмастер, 2011. — 252 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-064-8 (в пер.).

**Лосиков, И. Л.** Бандероль с тетрадями: проза / Иван Лосиков. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 335 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-42-3.

**Малинин, С.** Георгий Победоносец: возвращение в будущее: [роман] / Сергей Малинин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-5779-3 (в пер.).

**Малинин, С.** Георгий Победоносец: [роман] / Сергей Малинин. — Минск: Харвест, 2011. — 319 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-7745-6 (в пер.).

**Мурашев, В. А.** Минск бандитский-2: повесть / Вячеслав Мурашев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 142 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6986-39-3.

**Павлють, Э. И.** Жизнь дарит все и юмор тоже: стихи / Эдуард Павлють. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 118 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6986-76-8.

**Павлють, Э. И.** Жизнь на юмор не скупится: стихи / Эдуард Павлють. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 148 с. — Часть текста на белорусском языке. — 120 экз. — ISBN 978-985-6986-57-7.

**Пехтерев, И. Е.** Земля меж речек Ипуть и Лобжанка: стихи и поэмы / Иван Пехтерев. — Минск: В. Хурсик, 2011. — 239 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-6888-72-7.

**Подвойская, Л. И.** Предтечи Зверя. Алена: [роман] / Леонида Подвойская. — Минск: Харвест, 2011. — 445 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-0126-4 (в пер.).

**Радыно-Мартинкевич, Г. В.** Ковчег надежды: стихи / Галина Радыно-Мартинкевич. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 133 с. — Часть текста на белорусском языке. — 250 экз. — ISBN 978-985-6981-78-7.

**Ракитина, Н.** Ведьма: [роман] / Ника Ракитина. — Минск: Букмастер, 2011. — 254 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-057-0 (в пер.).

**Сирый, И. Ф.** Во всякой любви найдется место для печали: Роман. Поэма / Игорь Сирый. — Минск: Хурсик В., 2011. — 510 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-6888-73-4 (в пер.).

**Толкач, Е.** Вопросы без ответа: стихотворения / Екатерина Толкач. — Минск: Медисонт, 2011. — 159 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-36-4 (в пер.).

**Толкачев, В. А.** Этот возвышающий туризм: туристские рассказы, стихи и юмор / Валентин Толкачев. — Минск: Бонем, 2011. — 130 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6630-52-4.

**Факин, Д.** Часть и участь: [стихи, сказка] / Дэн Факин. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 204 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-44-7.

**Шугля, В. Ф.** Дорога к дому...: книга лирики / Владимир Шугля; [фото К. Л. Дробова]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 159 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6994-69-5 (в пер.).

**Янчук, М. М.** Я – «Фирма-17»: камчатские рассказы / Михаил Янчук. — Брест: Брестская типография, 2011. — 287 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-524-103-5.

### Беларуская літаратура

**Ад лідскіх муроў**: літаратурна-мастацкі зборнік / [укладальнікі: Міхась Мельнік, Станіслаў Суднік, Кірыл Сыцько; галоўны рэдактар: Станіслаў Суднік]. — Ліда, 2011–

№ 7:... 2010–2011 гг. — 2011. — 243 с. — Змяшчае аўтараў: Астравец С., Белавус П., Бурак А., Бурак У., Васько У., Гарачоў У., Гушчынскі І., Дудзевіч А., Лаўрэш Г., Лаўрэш Л., Лялько Х., Лянцэвіч Я., Макарэвіч П., Масян І., Мельнік М., Місюкевіч Ю., Нікулін У., Паморскі А., Пыпець В.. Рэлікоўская Г., Серэхан Г., Стадуб Л., Суднік С., Сыцько К., Хітрун А., Хруль Г., Цяслюк В. — 150 экз.

**Барскі, А.** Выбраныя творы / Алесь Барскі; [укладанне Анатоля Клышкі; прадмова Міхася Тычыны; каментар Уладзіміра Казберука]. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 411 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7007-29-5.

**Бусько, М.** Сляды ад верасня: [апавяданні, аповесці, нарысы] / Мікола Бусько. — Мінск: Харвест, 2011. — 510 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-0441-8 (у пер.).

**Гэрмановіч, Я.** Як Казюк сабраўся да споведзі = Jak Kaziuk sabraŭsia da spowiedzi: [апавяданне] / а. Язэп Гэрмановіч. — 2-е выд. — Полацк: Грэка-каталіцкая парафія святамучаніка Язафата ў г. Полацку, 2011. — 66 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6448-33-4.

**Прыгодзіч, З. К.** Постаці: з цэлым народам гутарку весці... / Зіновій Прыгодзіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 309 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6994-68-8 (у пер.).

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Большая хрестоматия по чтению для начальной школы**: 1–4-й класс / [автор-составитель Белов Николай Владимирович]. — Минск: Харвест, 2010. — 927 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-9334-0 (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Бандурина, Г. И.** Азбука-сказка: [для чтения взрослыми детям] / Бандурина Галина Ивановна. — Минск: Попурри, 2011. — 47 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1371-6.

**Зубович, С. И.** Рождественская азбука / Светлана Зубович; иллюстрации: Наталья Иванчик. — Минск: Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2011. — 87 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-6978-19-0 (в пер.).

**Кош, А.** Любимым малышам / Алла Кош; [художник: Малащенко И. О.]. — Минск, 2011. — 23 с. — 500 экз.

**Никольская, О. В.** Мы – агенты «Колба-Фир»...: современная повесть-сказка: [для младшего школьного возраста] / Ольга Никольская; [художник Сергей Волков]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 109 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6994-42-8 (в пер.).

### Беларуская літаратура

**А па сенцах ходзіць Бай...**: беларускія народныя калыханкі і забаўлянкі: [для дашкольнага ўзросту / укладальнік Паліна Грынчанка; мастак Марыся Лось]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 32 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1100-2.

**Зборнік апавяданняў для пазакласнага чытання вучняў пачатковай школы** / [складальнікі: Л. Ф. Кузняцова, Н. У. Антонава]. — Мінск: Беларусь, 2011. — 270 с. — 19500 экз. — ISBN 978-985-01-0926-2 (у пер.).

**Маўр, Я.** Палескія рабінзоны: аповесць, апавяданні: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту] / Янка Маўр; [укладальнік А. В. Спрынчан]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 275 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1304-4.

**Ягоўдзік, У. І.** Спеўны кірмаш: казкі вандроўнага тэатра: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; малюнкі Алены Лось; [аўтар прадмовы Сяргей Чыгрын]. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2011. — 126 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6691-29-7.

### Тэорыя літаратуры. Літаратурная тэхніка

**Гончарова, Н. И.** Взаимосвязь литературы и музыки в беседе о творчестве В. Г. Распутина и Д. Д. Шостаковича / Гончарова Н. И. — Витебск: ВГТУ, 2011. — 94 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-481-247-2.

### Беларуская літаратура

**Дамброўская, Н. М.** Творчасць пісьменнікаў-"шасцідзясятнікаў" (В. Адамчык, М. Стральцоў, І. Пташнікаў): вучэбна-метадычны дапаможнік: [для студэнтаў] / Н. М. Дамброўская; Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна. — Брэст: БрДУ, 2011. — 59 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-763-8.

**Сентыменталізм, рамантызм і рэалізм у беларускай літаратуры XIX стагоддзя**: зборнік метадычных матэрыялаў для студэнтаў педагагічных спецыяльнасцей / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт; [складальнік Ж. В. Косціна]. — Баранавічы: БарДУ, 2011. — 98 с. — 98 экз. — ISBN 978-985-498-456-8.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Беларусь шматнацыянальная** / [аўтар-складальнік Л. Міхальчук; рэдактар Н. Плыткевіч; мастак Л. Карчажынская; пераклад: У. Кузняцоў і інш.]. — Мінск: Рыфтур, 2011. — 103 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 2500 экз. — ISBN 978-985-6919-44-5.

**Каляндар знамянальных і памятных дат па Магілёўскай вобласці на 2012 год** / Установа культуры «Магілёўская абласная бібліятэка ім. У. І. Леніна», Аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры; [складальнік Л. Я. Гурковіч]. — Магілёў: Магілёўская абласная бібліятэка, 2011. — 133 с. — 5 экз.

**Кировский район** / [Кировский районный исполнительный комитет]. — Могилев: Могилевская областная типография, 2011. — 56 с. — 300 экз.

**Солигорский район** / [Солигорский районный исполнительный комитет]. — Солигорск, 2011. — 26 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз.

### Гістарычная навука. Дапаможныя гістарычныя навукі

**Обеспечение оптимальных условий хранения документов на бумажных носителях Национального архивного фонда Республики Беларусь**: методические рекомендации / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела; [составители: С. В. Жумарь, Е. Л. Тарасевич]. — Минск: БелНИИДАД, 2011. — 107 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-59-1.

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Новейшая история стран Европы и Америки**: учебно-методические материалы к семинарским занятиям для студентов IV курса исторического факультета специальностей 1-21 03 01 «История. Отечественная и всеобщая»; 1-21 03 01-02 «История. Археология»; 1-02 01 02-06 «История. Социально-политические дисциплины»; 1-21 03 01-01 «История. Религиоведение» / Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова; автор-составитель Н. М. Савченко. — Могилев: МгГУ, 2011. — 112 с. — 52 экз.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Лызлов, А. И.** Скифская история / Андрей Лызлов; [редактор-составитель Р. М. Цимберов]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 459 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6986-53-9.

### Гісторыя Беларусі

**Белорусы, прославившие Россию. Россияне, прославившие Беларусь**: биографический справочник / Постоянный комитет Союзного государства; [автор текста А. А. Звозников]. — 2-е изд., исправленное и дополненное. — Минск: БЕЛТА, 2011. — 93 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-6828-72-3 (в пер.).

**Гісторыя Беларусі перыяду капіталізму**: вучэбна-метадычны дапаможнік: [для студэнтаў]: у 5 ч. / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт ім. Максіма Танка. — Мінск: БДПУ, 2005–2011. — ISBN 985-501-083-3. — ISBN 978-985-501-083-9.

Ч. 5: Прамысловасць. Транспарт. Крэдыт: ... якія навучаюцца па спецыяльнасцях: 1-02 01 01 Гісторыя; 1-02 01 02 Гісторыя. Дадатковая спецыяльнасць / [А. П. Жытко і інш.]. — Мінск, 2011. — 277 с. — 130 экз. — ISBN 978-985-501-925-2.

**Деружинский, В. В.** Забытая Беларусь / Вадим Деружинский; под общей редакцией А. Е. Тараса. — Минск: Харвест, 2011. — 495 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-0455-5 (в пер.).

**Лісейчыкаў, Д. В.** Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг. / Дзяніс Лісейчыкаў; Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — Мінск: Медысонт, 2011. — 195 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6982-38-8.

**Літвін, А. М.** Вяртанне ў рабства: прымусовая праца насельніцтва Беларусі: 1941–1945 гг. / А. М. Літвін, Я. А. Грэбень, С. Я. Новікаў; агульная рэдакцыя А. М. Літвіна; [пераклад дакументаў з нямецкай на беларускую мову: В. А. Лойка, С. П. Паўлавіцкі]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Фонд «Памяць, адказнасць і будучыня» (Берлін). — Мінск: Тэсей, 2010. — 580 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-463-415-9 (у пер.).

**Ракуць, В. У.** Чалавек і свет. Мая Радзіма – Беларусь: 4-ты клас: праверачныя, практычныя і творчыя заданні: [па новых праграмах] / В. У. Ракуць, С. В. Паноў. — 2-е выд. — Мінск: Пачатковая школа, 2011. — 94 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-10-6.

**Сянькевіч, А. І.** Гісторыя Беларусі: метадычныя рэкамендацыі па выкананні кантрольных работ для студэнтаў завочнай формы навучання / А. І. Сянькевіч, С. І. Бусько; Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізічнай культуры. — Мінск: БДУФК, 2011. — 85 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6953-88-3.

*З пошты «ЛіМа»*

# Найлепшы падарунак

**Ніна РУСАКОВІЧ**

Для мяне наведваць кніжныя выстаўкі — сапраўдная асалода. Перабіраць стосы кніг, разглядваць, параўноўваць, дыхаць паветрам кніжнага свята. Сёлетняя Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш была звязана і з Годам кнігі, і са 130-годдзем з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы, і са 120-годдзем з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Таму цікавасць была і да імпрэзы выдавецтва "Мастацкая літаратура "Свяціце, нашы зоркі…", дзе прэзентавалася біяграфія Максіма Багдановіча "Свяці, зорка, свяці…" Алеся Марціновіча (гэтую кнігу я напярэдадні з захапленнем прачытала), і да літаратурных чытанняў "Нам засталася спадчына…" з удзелам народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, арганізаваных Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

Але больш за ўсё ўразіла і ўзрадавала сустрэча з цудоўным фаліянтам у шыкоўнай аздобе на прэзентацыі выдання серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў" — "Д. Струков. Альбом рисунков. 1864 —1867 гг." выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Кнігу гартала з гонарам і вялікай удзячнасцю за работу прафесійнага аўтарскага калектыву, які даў магчымасць усплыць гэтай "Атлантыдзе". Тут малюнкі беларускіх краявідаў і гарадоў, паселішчаў, цэркваў 2-й паловы XIX стагоддзя.

Да стэнда РВУ "Літаратура і Мастацтва" падыходжу з асаблівым хваляваннем і ўжо здалёк бачу кнігу Зіновія Прыгодзіча "Постаці: з цэлым народам гутарку весці". З вялікай цікавасцю на працягу некалькіх апошніх гадоў чытала ў літаратурна-мастацкім часопісе "Полымя" яго партрэты-інтэрв'ю, прысвечаныя выбітным асобам у гісторыі Беларусі. Усе гэтыя партрэты цяпер можна пабачыць пад адной вокладкай. Прыцягвае ўвагу і новая кніга Міхася Пазнякова "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы". Тут аўтарам сабраны эпітэты да амаль 450 найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай мовы. Кніга адрасавана шырокаму колу чытачоў, але найперш, я думаю, паэтам, бо, як казаў Аляксандр Пушкін, "паэта робіць эпітэт". Найбольшую цікавасць прысутных выклікала займальная кніга Міхася Паўлавіча "Гульняслоў". З дзясятак кніг, падпісаных аўтарам з добрымі пажаданнямі, разышлося ўмомант.

Асобна хочацца сказаць пра выдавецтва "Чатыры чвэрці", якое вось ужо 20 год працуе на кніжным рынку. Тут не так даўно выйшаў зборнік вершаў Таццяны Бірчанкі "Нескончаема дней вереница". Вершы няпростыя для ўспрымання, але шчырыя і пранікнёныя. Пабачыў свет і зборнік былога падводніка, капітана II рангу Валерыя Чудава "Честь превыше смерти" (гістарычныя апавяданні). Гэта аповед пра некаторых знакамітых людзей, якія нарадзіліся на Беларусі, але іх імёны з цягам часу сцерліся з памяці нашчадкаў. Выдавецтва прадставіла і новае імя — Дзмітрыя Пятровіча. Яго кніга "Белая жанчына" выйшла ў гэтым годзе з прадмовай знакамітага празаіка Андрэя Федарэнкі. У серыі "Асоба і Час" пабачыла свет кніга Алеся Савіцкага "Сонца на ўсіх адно" — плён роздуму пісьменніка-франтавіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь пра мінулае і сённяшні дзень, пра сувязь пакаленняў, духоўны свет.

Цікавая і канструктыўная размова вялася падчас "круглага стала" "Мы — маладыя. Першыя крокі ў Вялікую літаратуру", дзе выдавецтва "Чатыры чвэрці" прадставіла серыю кніг "Мінскія маладыя галасы". Свае лірычныя роздумы прапанавалі паэты Таццяна Высккварка, Яна Явіч, Рагнед Малахоўскі…

У цэлым, на кніжнай выстаўцы-кірмашы ўсё было як трэба: гучала музыка, плаўна плылі ў танцы юныя армянкі, іграў на гітары барадаты француз, сугучна вялі гамонку квартэты… Усе выдавецтвы пастараліся дастойна прадставіць сваю прадукцыю. Свята кнігі атрымалася.




## Кнігарня «Спадчына», г. Маладзечна

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
2. Вадим Деружинский. Забытая Беларусь. — Минск: Харвест, 2011.
3. Якуб Колас. Пісаравы імяніны. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008.
4. Иван Яромич. Сестринское дело и манипуляционная техника. — Минск: Вышэйшая школа, 2011.
5. Міхась Казлоўскі. Да кніжных скарбаў дакрануся: нататкі бібліяфіла. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.

*Аўтар упершыню ў Беларусі раскрыў розныя аспекты бібліяфільства, разгледзеў гісторыю беларускага экслібрыса, малафарматных і мініяцюрных выданняў, прасачыў лёс мастакоў — майстроў кніжнай графікі. Адрасуецца кнігазнаўцам і аматарам кнігі.*

6. Вольга Лабачэўская. Повязь часоў — беларускі ручнік. Альбом. — Мінск: Беларусь, 2009.
7. Г. Кобзарь, В. Скачко. Виноград на приусадебном участке. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011.
8. Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2010.
9. Анатоль Клышка. Беларуская народныя казкі. — Мінск: Народная асвета, 2011.
10. Анатоль Бутэвіч. Таямніцы Мірскага замка. Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Валентин Пикуль. Честь имею. — Москва: АСТ, 2007.
2. Дмитрий Силлов. Закон наёмника. Серия S.T.A.L.K.E.R. — Москва: АСТ, 2011.
3. Пауло Коэльо. Алхимик. — Москва: Астрель, 2010.
4. Агата Кристи. Зло под солнцем. — Москва: АСТ, 2008.
5. Эрнест Хемингуэй. Праздник, который всегда с тобой. — Москва: АСТ, 2010.
6. Эрих Мария Ремарк. Три товарища. — Москва: АСТ, 2011.
7. Габриэль Гарсиа Маркес. Хроника объявленной смерти. — Москва: АСТ, 2011.
8. Галина Маринова. Большая кулинарная книга. — Санкт-Петербург: Полигон, 2011.
9. Фёдор Достоевский. Бесы. — Москва: АСТ, 2009.
10. Сергей Клочков. Фреон. Серия S.T.A.L.K.E.R. — Москва: АСТ, 2011.

## Мастак і кніга

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



# Кубачак кавы ў сэрцы горада

Відаць, няма такога аматара фантастыкі, які б не быў знаёмы з творчасцю Сяргея Балянка — прыгадаць толькі вокладку да кнігі Курта Вонегута "Колыбель для кошки", што ўбачыла свет у 1980-я гады тыражом 340 тысяч асобнікаў. (Дарэчы, у мастака жывуць дзве кошкі.) Ці вокладку зборніка фантастыкі "Крылья ночи". Калі бачыш яго насычаныя яркімі колерамі карціны алеем, што проста выпраменьваюць сонечнае цяпло, і вытанчаныя афорты, адразу цяжка ўявіць, што творы належаць аднаму аўтару. З аднаго боку — суцэльны пазітыў, з другога — змрочны настрой. А подпісы пад імі — таксама творчыя: "Обрывок дождя", "Давненько заскочил на пять минут, но Ваш кофе на том столике и давайте будем разговаривать, пожалуйста", "Среди опадающих птиц", "Завтра, это там… где вчера". (Подпісы патрабуюць намаганняў, іншым часам народжаны твор чакае іх доўгі час.) Паступова прыходзіць разуменне мастацкага свету, у якім чаргуюцца дзень і ноч. Ён вялікі жыццялюб і ўдумлівы філосаф. І адразу папярэджвае: "Я не адлюстроўваю навакольны свет — толькі свае асабістыя пачуцці, уражанне ад гэтага свету. І не "ствараю Мастацтва" — проста малюю".

Асабіста мне падабаецца разам з героямі афортаў блукаць па вулачках старога горада, дзе час — мяжа вечара і ночы, ночы і раніцы. І ўжо не адрозніваеш явы ад вымыслаў, і адзіная ісціна — кубак кавы, што, па словах Талейрана, павінна быць "гарачай як пекла, чорнай як чорт, чыстай як анёл і салодкай як каханне". Герой афорта Балянка "Мой столік" лунае над старым горадам з кубкам такога напою разам са столікам — шахматным, але круглай формы…

Ён нарадзіўся ў прадмесці Кіева. Праз два гады бацькі скончылі аспірантуру і былі накіраваны на працу ва Львоў.

"Львоў, лічыце, мой родны горад. Ашаламляльны з пункту гледжання архітэктуры. І калі істота, мозг якой схільны да ўспрымання, патрапляе ў такое атачэнне, прыгажосць не можа не ўплываць на падсвядомасць з дня ў дзень. У дзяцінстве маляваў, — таксама, як і ўсе дзеці. Дзеці спрэс таленавітыя, з узростам гэта, праўда, у большасці праходзіць. Таму што клопаты і вялікія затраты. А вось у некаторых застаецца на ўсё жыццё.

Мастак — гэта не прафесія, гэта стан душы. Можна не маляваць увогуле, але быць мастаком. Гэта не я прыдумаў, я толькі паўтараю. Калі ў табе "сядзіць" талент, гэта безліч праблем. І ў сувязі з яго рэалізацыяй — патрэбны грошы на паперу, на метал, на фарбы, на ўсе расходныя матэрыялы. І пасля не менш — работу купяць ці не купяць, ацэняць ці не ацэняць, на выстаўку трапіць ці не трапіць, галерэя возьме ці не возьме. А як людзі да твайго твора паставяцца?"

Сяргей Балянок мастацтва як Наканаванне адчуў "гадоў у трыццаць. Хаця маляваў заўсёды, нават браў прыватныя ўрокі перад паступленнем у інстытут — набіваў руку. Да інстытута я год працаваў на будоўлі, два гады служыў у арміі, потым — у канторы дробным чыноўнікам. Паступаў, лічыце, дарослым мужчынам. На аддзяленні кніжнай графікі і былі ацэнены мае першыя работы. Вобразна кажучы, паляпалі па плячы, канстатавалі наяўнасць таленту і пажадалі ўдачы, а далей рабі што хочаш".

Атрымаў вольны дыплом і прыехаў у Мінск. "Ва Львове ўсяго два выдавецтвы, вакансій не было. А ў Мінску я праходзіў практыку ў выдавецтве "Народная асвета", і тут у мяне жыла цётка, так што першы час было дзе спыніцца. У Мінску былі выпускнікі і са Львова. Так супала, што вызвалілася месца ў выдавецтве "Універсітэцкае" — і я аказаўся ў гэты час побач. Ажаніўся. Працаваў старшым мастацкім рэдактарам. Дарос нават да загадчыка мастацка-тэхнічнай рэдакцыі выдавецтва "Беларусь". Атрымаць заказ на аздабленне мастацкай літаратуры было праблематычна — жадаючых шмат, і перавага аддавалася членам Беларускага саюза мастакоў. Але пару разоў удалося. Жуль Верн, Курт Вонегут…

Жонка не толькі была "правакатарам" таго, што я пачаў займацца афортам, але і падтрымала істотна", — прыгадвае Сяргей Уладзіміравіч і жартуе: "Дарэчы, Ван Гог пачаў маляваць таксама ў трыццаць гадоў. Калі ў чалавеку ёсць талент, ён рана ці позна выявіцца звонку і возьме сваё".

Да пераломнага 1985-га, як сам кажа, "плыў па волі лёсу, як вецер падзьмуў. У мяне прыроджанае адчуванне кампазіцыі. З пункту гледжання рамяства гэтага дастаткова, каб пабудаваць макет па тэксце, размеркаваць малюнкі на старонцы. У савецкі час было так: калі ў тэксце напісана "Іван Іванавіч есць каўбасу", ілюстратар павінен быў выдаць на малюнку мужчыну, што есць каўбасу. Праблемы з гэтым ні ў кога не было. Ва ўсіх выкладчыкі былі добрыя і добра вучылі капіраваць рэчаіснасць.

А ў 1985-м з мяне "папёр" станкавіст, той самы прыхаваны талент, які сказаў мне: "Праца працай, а мастацтва мастацтвам. "Афармілаўкай" займайся ўдзень, а вечар і ноч — будзь ласкавы..." Трэба адзначыць належнае жонцы: калі робіш афорт, ручную друкарскую форму на метале, у хаце — пары кіслаты, гэта даволі працаёмкі і фізіялагічна непрыемны працэс. Жонка вытрымала ўсе тэхнічныя няздручнасці выканання афортаў на ўласнай кухні.

Так што ў трыццаць гадоў я зрабіў каля 30 карцінак і стаў дэманстраваць іх. Спачатку на сценах у калідоры выдавецтва. На Паркавай магістралі ўсе яны былі ў адным будынку. Начуўся ўсяго рознага, у тым ліку — "ты ўвогуле маляваць не ўмееш". Яшчэ Пікаса сказаў: "Спачатку навучыся маляваць, а потым рабі як бог на душу пакладзе". Пашанцавала выставіцца ў Доме работнікаў і акцёраў з рэстаранчыкам пад кодавай назвай "Мутнае вока" (на другім паверсе была камерная выставачная зала). Многа добрых слоў пачуў ад Уладзіміра Стальмашонка, Алега Сурскага, Аляксандра Дабравольскага. Там прайшлі дзве выстаўкі, пасля ў Палацы прафсаюзаў. Гарбачоўская адліга, 1987 — 1988 гады — тры выстаўкі, малюнкі аказаліся на слыху. Тут да мяне звярнуліся з прапановай аздобіць зборнік "Продаётся планета". Я даў гатовыя работы — штук 50. Заказчыкі выбралі патрэбнае: "Як фантастыка такое пойдзе". Гэты жанр даваў пэўную свабоду. Потым Вонегут. Галоўны рэдактар выдавецтва сказала: "Сярожа, асабіста вы нікуды не пойдзеце. Язык ваш — вораг ваш. Нікому нічога не будзем расказваць. Проста паставім перад фактам: гэта на вокладку, гэта на форзац, гэта на тытул"… Бяда ў тым, што нашы людзі, калі нечага не разумеюць, нават думкі не дапускаюць, што іншым можа і спадабацца. А калі пры гэтым чалавек яшчэ займае пасаду, то ён адразу забараняе. Потым былі "Крылья ночи". З адной карцінкі, што падыходзіла, зрабіў усё, што было трэба для аздаблення.

Чытаю дасюль. У бацькоў была багатая бібліятэка, мама прыносіла кнігі (працавала ў ваенна-палітычным вучылішчы. Нават па тых суровых савецкіх часах яны атрымлівалі ўсю перыёдыку з Масквы, у якой друкавалі непрыемныя для ўлады творы літаратуры). І я таксама чытаў. Дыплом абараняў па "Майстру і Маргарыце". З апошняга прачытанага адзначу Уільяма Голдынга, аўтара рамана "Повелитель мух", зборнік вершаў Леаніда Пятрэнкі. Яго вершы падобныя да прозы Курта Вонегута, графікі Сяргея Балянка і музыкі "Энігмы" — такую рэлаксуючую. Мы адчуваем сходна, але адным наканавана маляваць, другім ствараць музыку, іншым складаць словы, і ўсё гэта адначасова выражае змест".

**Візітка:**

*Сяргей Балянок нарадзіўся ў 1954 годзе ў Кіеве. Скончыў Украінскі паліграфічны інстытут імя Івана Фёдарава ў 1980 годзе. Член Беларускага саюза мастакоў з 1988 па 2003 г. З 1980 па 1998 год працаваў мастацкім рэдактарам выдавецтва "Універсітэцкае", з 1989-га па 1992-і — галоўны мастацкі рэдактар выдавецтва "Эрыдан", у 1993-м — выдавецтва "Беларусь", потым — дырэктар выдавецтва "Balenok & Co". З 1995-га — вольны мастак.*

*Удзельнічае ў выстаўках з 1976 года (на яго рахунку 19 персанальных выставак). Творы знаходзяцца ў калекцыях мастацкіх музеяў гарадоў Вінтэртур, Рыміні, Браўнсвік, Эйндховен, Дзьёр, Кракаў, Полацк, Мінск, а таксама ў прыватных калекцыях Германіі, Швейцарыі, Галандыі, Ірландыі, Швецыі, Францыі, Чэхіі, Канады, ЗША, Ізраіля, Турцыі, Кітая і Расіі.*





***На здымках: афорты "Увечары на Свабоды"; "Бліжэй да вечара"; "Мой столік".***

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Хадасевіч-Лісавая, К.С. Касмічная адысея хлопчыка Стасіка / К.С. Хадасевіч-Лісавая; маст. В.В. Дударэнка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 128 с.**

Як можна трапіць у казку? Натуральна, існуе некалькі спосабаў. Паглядзець фільм. Пачытаць кнігу. А можна проста заснуць і апынуцца ў дзівоснай Краіне Сноў, Зніч-гарадку ці Аблокавай краіне. Як гэта робіць галоўны герой кнігі хлопчык Стасік. Думаеце, ён незвычайны хлопчык, раз бачыць такія сны? Ды не, магчыма, ён жыве ў тваім горадзе ці вучыцца ў тваёй школе. Але ёсць і герой, якога можна напаткаць толькі на старонках гэтай кнігі. Зорнічак — гаспадар мікракосмасу. Кожная сустрэча з ім — дзівосныя прыгоды, вясёлыя гульні, цікавыя і нават дэтэктыўныя гісторыі.



**Саверчанка, І.В. Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст. / І.В. Саверчанка. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 463 с.**

Рэнесанс і Барока лічацца апагеем развіцця даўняй беларускай культуры і літаратуры. У гэты час адбываецца станаўленне шляхецкай дэмакратыі, імклівая секулярызацыя грамадства, гуманізацыя сацыяльнай свядомасці, развіваецца паважлівае стаўленне да індывідуума. Натуральна, гэтыя працэсы ў грамадстве адбіваліся і на мастацкай творчасці, у гэтай сферы назіраліся інтэнсіўныя стылявыя пошукі. У сваёй манаграфіі доктар філалагічных навук Іван Саверчанка раскрывае генезіс, паэтыку і семіётыку старабеларускага публіцыстычнага дыскурсу, выяўляе яго галоўныя мастацка-эстэтычныя формы, асвятляе ключавыя тэмы і праблемы, што ўздымаліся на старонках публіцыстычных твораў. Аўтар звяртаецца і да іншых аспектаў публіцыстыкі, аналізуе прынцыпы і заканамернасці ўнутранай арганізацыі дыскурсу, выяўляе галоўныя тыпы аргументаў, ажыццяўляе тыпалогію фігур, тропаў, рытмікі.



**Матвейчык, Д.Ч. Выгнаныя з роднага краю: Паслялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830 — 1870-я гады) / Д.Ч. Матвейчык. — Мінск: Лімарыус, 2011. — 200 с.**

Пасля паўстання 1830 — 1831 гг. радзіму пакінулі каля 9 тысяч яго ўдзельнікаў, ураджэнцаў зямель былой Рэчы Паспалітай. З іх ад 1500 да 1700 чалавек паходзілі з беларуска-літоўскіх губерняў. Здавалася б, не так і шмат, але калі ўлічваць тое, што гэта былі ў асноўным адукаваныя людзі, якія сваёй дзейнасцю садзейнічалі развіццю краю, то страты падаюцца нашмат больш значнымі. У якія краіны выязджалі ўдзельнікі паўстання? Якія арганізацыі стваралі на чужыне, ці вярталіся зноў на радзіму? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні — у манаграфіі Дзмітрыя Матвейчыка.



**Соломатина, Т.Ю. Отойти в сторону и посмотреть / Т.Ю. Соломатина. — Москва: Яуза-пресс: Эксмо, 2011. — 224 с.**

Ужо амаль два гады Тацццяна Саламаціна, па прафесіі ўрач акушэр-гінеколаг, — папулярная пісьменніца. Натуральна, яна звяртаецца ў сваёй творчасці і да медыцынскіх тэм. Але не ў гэтай кнізе. У рамане, тыраж якога склаў 26 100 асобнікаў, вы знойдзеце паўфантастычную, але вельмі захапляльную гісторыю з падарожжам у часе і каханнем дзяўчынкі-падлетка да сябра яе бацькі.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Ты ў мяне адзіны

## Апавяданне

Дэбют



Алеся Кузьміч

Алеся Кузьміч нарадзілася 24 ліпеня 1983 года ў горадзе Талачын Віцебскай вобласці. Скончыла Аршанскі дзяржаўны педагагічны каледж па спецыяльнасці "Настаўнік пачатковых класаў". Працавала ў школе, выхавальніцай у дзіцячым садзе. Скончыла завочнае аддзяленне Беларускага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, факультэт беларускай філалогіі і культуры. У 2010 годзе прыйшла на працу ў рэдакцыю раённай газеты "Наша Талачыншчына", спачатку карэспандэнтам, цяпер — рэдактар аддзела пісьмаў і сацыяльна-бытавых праблем. З прозай у газеце "Літаратура і мастацтва" выступае ўпершыню.

Калісьці, як яшчэ прыйшла маладой гаспадыняй у дом мужа, прыгажуня Зіна пабойвалася суседства з могілкамі, старалася вечарамі не вяртацца дадому ў поцемках, як трэба было што ўвечары на двары зрабіць, прасіла схадзіць мужа. Потым неяк прывыкла да таго, што ў акенца кухні бачны помнікі, драўляныя і металічныя крыжы, пясчаныя пагорачкі магілак. На Радаўніцу, калі ўсё гэта ўпрыгожвалася living разнакаляровымі кветкамі і вышытымі ручнікамі, Зіна нават любавалася навакollем. А потым, калі памерлі маці з бацькам, потым муж, стала аднасіцца да незвычайнага суседства па-філасофску, маўляў, усе мы там раней ці пазней будзем. Зразумела прычыну свайго колішняга страху — раней не было ў яе тут нікога свайго, а цяпер вось амаль усе родныя. З узростам баба Зіна нават ацаніла блізкасць могілак, радавалася ёй. Не трэба далёка дабірацца, каб прыбрацць перад святамі, ды можна і проста прыйсці пасядзець. А самае галоўнае — баба Зіна адчувала пастаянную прысутнасць паблізу дарагіх ёй людзей. Нібы толькі выйдзі на ганак, пакліч, і яны з'явяцца на дворы, дапамогуць, калі што якое здарыцца.

— Ужо хутка прыйду. Добра, што Марыля, Дзямідава жонка, недалёка ад цябе ляжыць. Ён мужчына дужы, што яму снег адкінуць. Паўгадзіны працы. А я б не здолела…

Баба Зіна не ведала і нават не здагадвалася, што былы аднакласнік сына Дзямід Мікулька, можа, і не чысціў бы сцежку да могілак, каб не хадзіла сюды штодзень баба Зіна. Адкінуўшы зімовым ранкам снег, калі яго шмат намятала, у сваім двары, Дзямід браў лапату на плячо і ішоў да выезда з вёскі. Тут рабіў нешырокую сцежку акурат да ўвахода на могілкі, а адтуль — некалькі метраў направа, дзе ляжала ягоная жонка Марыля, якая памерла яшчэ зусім маладой, нараджаючы дзіця. Марыля знайшла апошні прытулак побач са старэйшымі аднавяскоўцамі, многія з якіх былі раднёй бабе Зіне.

Баба Зіна падышла да ўвахода на могілкі, тройчы перахрысцілася. Яна сюды прыходзіць штодзень на працягу ўжо шасці гадоў і ў холад, і ў спякоту, і ў дождж. Калі цёпла, бывае тут даўжэй, калі холадна, не затрымліваецца, але яшчэ ніколі не адмяніла гэтую дарагую яе сэрцу сустрэчу, якая цяпер стала ледзь не сэнсам жыцця… Сустрэчу з сынам.

* * *

Расстанне са Сцяпанам, калі той паехаў вучыцца ў горад, Зінаіда Фёдараўна перажывала цяжка. Так прывыкла за столькі гадоў да сынавай дапамогі, пастаяннай прысутнасці, што не магла і ўявіць сабе, як гэта так будзе, што яна застанецца адна, а ён, зусім яшчэ, на яе думку, дзіця, паедзе жыць недзе там адзін. А хто будзе яго даглядаць у гэтым горадзе, дзе нікому няма справы да іншых, а хто прыгатуе паесці, хто нагадае, што нельга сліпіць вочы, чытаючы перад сном пры цьмяным святле лямпачкі… Шмат пытанняў было ў Зінаіды Фёдараўны, але з часам яны змяніліся іншымі.

Хутка прывыкла яна да таго, што сын, студэнт-медык, прыязджаў дадому толькі па выхадных, днём дапамагаў ёй па гаспадарцы (а трымала яна тады трох кароў, двух-трох парсюкоў, гусей, курэй, каб хоць неяк дапамагчы сыну), а ўвечары яго было не адарваць ад канспектаў і кніжак. Так падабалася яму вучыцца…

А які гонар адчула Зінаіда Фёдараўна, калі Сцёпка, скончыўшы вучобу, стаў урачом і вярнуўся ў райцэнтр. Ды не тэрапеўтам, якіх і так было даволі ў бальніцы, а хірургам, сапраўдным хірургам, пра залатыя рукі якога праз некалькі гадоў гаварылі ледзь не ўсе ў раёне. Матчына сэрца радавалася за поспехі сына, але неяк непрыкметна нарадзілася ў ім трывога. Зінаіда Фёдараўна адчувала — не ўсё так добра ў Сцёпкі, як ён расказваў, прыязджаючы, як і раней, на выхадныя. Але што адбывалася ў жыцці сына, зразумець не магла. Вырашыла для сябе, што прычына — у няўдалым каханні.

— Сцёпачка, у цябе ўсё добра? — запыталася яна неяк, нібы незнарок, калі яны шынкавалі капусту.

— Усё. А чаму пытаеш? — спакойна пацікавіўся сын.

Зінаіда Фёдараўна заўважыла — з той пары, як Сцёпка пачаў працаваць у райбальніцы, ён стаў больш разважлівым, сур'ёзным, вельмі спакойным, ніколі не змяняў роўнага тону голасу. Здавалася, нічога не можа яго вывесці з раўнавагі ці ўзрушыць, таму складана было зразумець штосьці па голасе.

— А Дзямідава жонка хутка дзіця нарodзіць, Мікульчыха бабуляй стане, — уздыхнула Зінаіда Фёдараўна, прысеўшы на лаўку.

— І добра. Дзямід ужо даўно сына хоча, — усміхнуўся Сцяпан. — Марыля вось толькі ў яго хваравітая, цяжкасці могуць узнікнуць.

Маці ўважліва паглядзела на сына. Ці не зразумеў, дзеля чаго яна завяла гэтую гутарку, ці проста выгляд зрабіў?..

— А ці буду я ўжо калі бабуляй? — зрэшты задала пытанне, якое яе цікавіла ўжо даўно.

Сын ніколі не расказваў пра сваё асабістае жыццё, не дзяліўся, нібы акрамя працы, хворых, аперацый і не было больш нічога. У гутарцы сустракаліся імёны іншых хірургаў-мужчын, калі-нікалі — медсясцёр. Але, і гэта вельмі добра адчувала Зінаіда Фёдараўна, нічога, акрамя працы, іх не звязвала. Яна нават не ведала, ці былі ў сына сябры. Не калегі, а проста сябры, з якімі можна пагаварыць, схадзіць куды-небудзь, з якімі можна абмеркаваць свае справы і падзяліцца радасцямі і праблемамі. Сцяпан ніколі пра сяброў не расказваў.

— Мамачка, ну якая з цябе бабуля? — неяк вельмі ненатуральна засмяяўся сын. — Ты ж у мяне маладая, прыгожая.

Так на пытанне ён і не адказаў. І Зінаіда Фёдараўна больш не шукала зручнага моманту для вызначэння магчымасці і часу з'яўлення ўнукаў. Добра, што хоць суседкі не задавалі пытанняў. Неяк дастаткова ім было таго, што ў Зінчынага Сцёпкі залатыя рукі.

А потым сын перастаў прыязджаць кожныя выхадныя, з'яўляўся толькі раз-два на месяц, а неяк было, што і ўвогуле не прыехаў. Праўда, тэлефанаваў рэгулярна, тлумачыў, што вельмі заняты, шмат тэрміновых аперацый, прыехаць няма часу.

Зінаіда Фёдараўна вырашыла сама выбрацца ў райцэнтр. Сабе яна гаварыла, што паедзе па справах. Трэба і ў аптэку забегчы, і нарэшце купіць акуляры, якія ўжо год як разбіліся, зазірнуць на рынак, паглядзець, што колькі каштуе. На самай жа справе хацелася зайсці ў бальніцу, упэўніцца, што ў сыночка ўсё нармальна.

Але было ненармальна. Маладзенькая медсястра Верачка дзіўна паглядзела на старую жанчыну, якая настойліва патрабавала доктара Стасюка, і, нават не прапанаваўшы прысесці, выдала:

— Ведаеце, бабуля, Стасюк ужо месяц як на бальнічным. Аперацыю яму рабілі ў абласной бальніцы. Такое ўражанне складваецца, што акрамя Стасюка ў нашай бальніцы іншых хірургаў няма. Ходзяць кожны дзень, Стасюка ім трэба. Няма яго і доўга яшчэ не будзе. Хочаце, да Іваніна завяду? Ён таксама надрэнны спецыяліст…

— Як аперацыю? — Зінаіда Фёдараўна пасля гэтага слова, якое так абыякава прагучала з густа нафарбаваных вуснаў, больш нічога і не чула.

— Даражэнькая, я вам прапаную хірурга Іваніна. Пойдзеце ці не? А то мне працаваць патрэбна. І так з вамі тут ужо колькі часу змарнавала, — дзяўчына нервова пастуквала доўгімі пальцамі па нейкай кніжцы.

Зінаіда Фёдараўна, страціўшы раптам сілы, ледзь не ўпала на падлогу, прыціснулася да сцяны. Яна не магла сказаць ні слова і тым больш не магла растлумачыць дзяўчыне, чаму ёй патрэбны менавіта Стасюк, а не Іванін, няхай і найлепшы хірург у рэспубліцы ці ў свеце.

Што з яе хлопчыкам, яе адзіным, даражэнькім сыночкам? Ён жа ніколі не хварэў, быў заўсёды здаровым, ніводнага бальнічнага не браў. Дзе ён цяпер? Якую аперацыю і навошта яму рабілі? Чаму так доўга трымаюць яго там? І чаму ён нічога не сказаў ёй, матулі… Яна ж бы ўсё зразумела, падтрымала… Яна б пераехала да яго ў горад, каб даглядаць яго, клапаціцца. Яна б усё зрабіла… Не, гэта немагчыма растлумачыць гэтай дзяўчыне, якая дзіўна пазірае на яе праз вузенькія акуляры. Яна наўрад ці зможа нешта зразумець. Але яна ведае! Яна ведае пра сыночка, пра Сцёпку, пра тое, што з ім здарылася.

— Бабуля, вам дрэнна? — асцярожна пацікавілася дзяўчына, падсоўваючы недарэчнай наведвальніцы крэсла. — Прысядзьце, пасядзіце. Можа, вады?

Як на дзіва хутка змяніўся тон яе голасу. Стаў нейкі спужаны, больш лагодны. Сапраўды, ёй мала радасці, калі нейкая зусім незнаёмая бабуля зараз страціць прытомнасць проста тут, у кабінеце. Зінаіда Фёдараўна памкнулася ўстаць. Але гэта аказалася няпроста, ногі нібы наліліся свінцом, рукі не слухаліся, у галаве набатам гуло: "Хутчэй! Хутчэй!"

— Бабуля, давайце я запішу на ўсялякі выпадак вашы даныя, — схапілася за аловак медсястра. — Як ваша імя і прозвішча?

Зінаіда Фёдараўна паглядзела на дзяўчыну. Маладая, прыгожая, можа і ня дрэнная, толькі ўжо занадта нейкая штучная, несапраўдная.

— Зіна мяне завуць. Зінаіда Фёдараўна… Стасюк. Я — маці Сцяпана Пятровіча.

— Ой,— дзяўчына схамянулася, не ўтрымала аловак, і той пакаціўся кудысьці пад стол.

Праз некалькі хвілін Зінаіду Фёдараўну прывялі ў светлую палату, адразу ж да яе прыйшла доктарка, прыемная і ветлівая Святлана Мікалаеўна. Медсястру Верачку Зінаіда Фёдараўна больш не ўбачыла.

Не ўбачыла жывым ужо і Сцёпку. Ён памёр якраз у той дзень, калі маці шукала яго ў райбальніцы. І доктарка, якая прыйшла да Зінаіды Фёдараўны, ужо ведала, што Сцяпан Пятровіч пайшоў з жыцця. Далікатна, асцярожна Святлана Мікалаеўна паведаміла гэтую навіну сталай жанчыне з вялікімі блакітнымі вачамі і доўгімі сівымі валасамі, завязанымі ў гульку. Зінаіда Фёдараўна не плакала, нічога не гаварыла, толькі сумна глядзела на сваю субяседніцу і ківала галавой.

А думкі беглі далёка. Туды, у абласную бальніцу, дзе толькі што яе сыночак зрабіў апошні ўздых, дзе некалькі хвілін таму спыніла сваю работу сэрца самага дарагога ёй чалавека. У тую палату, якая бачыла апошнія моманты ягонага жыцця. Што ён гаварыў? Ці ўспамінаў пра маці? Можа, нават клікаў, а яна не чула і не змагла прыйсці на дапамогу… Не змагла… А дзесьці там, напэўна, ёсць чалавек, з якім Сцёпка размаўляў у гэтыя апошнія дні. Калі гэта доктар, то, несумненна, гаварылі яны пра медыцыну, можа, абмяркоўвалі ягоную, Сцёпкаву, хваробу… Але няхай бы лепш доктарам была жанчына. Ва ўзросце, сівая, чымсьці падобная да яе, Зінаіды Фёдараўны. Можа, яна нагадвала сыну маці, якая гэтыя апошнія дні жыла як і звычайна, не чакаючы бяды. Нават мацярынскае сэрца нічога не падказала, па-здрадніцку маўчала… А Сцяпан жа тэлефанаваў зусім нядаўна. Сёння што? Серада? Гэта было ў нядзелю, так, менавіта ў нядзелю. Ён тады сказаў, што чакаецца сур'ёзная аперацыя. Але ж яна, маці, і тады не адчула, што сын гаворыць зусім не пра тую аперацыю, пра якую яна падумала. Дзе ж ты было, мацярынскае сэрца?.. Чаму не засяродзіла матчыну ўвагу на гэтых словах? Чаму не прымусіла ехаць у райцэнтр раней? Можна было б яшчэ паспець дабрацца да абласной бальніцы, прыйсці да сыночка, прыхінуць яго да сябе, сказаць яму ўсё тое, што ніколі не гаварыла… Яшчэ раз правесці рукой па саламянай галаве, адчуць на далоні мяккія валасы. Але ўжо ніколі… Ніколі.

* * *

— Вось і прыйшла, — баба Зіна змяла рукой снег з маленькай лавачкі, акуратна прысела з краю.

Каля агароджы, непадалёку ад Сцёпкавай магілы, расце невялічкі дубок, цяпер прыцярушаны снегам. Сын пасадзіў яго за некалькі гадоў да таго, як сам прыйшоў сюды назаўсёды. З кожным летам дрэва набірае ўсё больш моцы, расце, імкнецца ўверх. Баба Зіна, ды і не толькі яна, а і ўсе нешматлікія жыхары вёскі, называюць яго Сцёпкавым дубком. Пакінуў сын пасля сябе памяць. Надоўга ці не — хто яго ведае, але пакуль будуць жыць у вёсцы людзі, яны не забудуцца, што гэтае дрэўца — Сцёпкаў дубок.

— Сёння заспалася я нешта. Не хварэю, так... — нягучна, амаль шэптам, расказвае баба Зіна. — Нават і не снедала, не хацелася мне. Тады забягала Жэнька, паштальёнка, пенсію прынесла. Добрая дзяўчына Жэнька. Шкада, што ты яе не ведаеш, а то б, можа, і не паехаў адсюль нікуды. Пагаворыць са мной, паслухае… Мо ёй і нецікава, што я, старая, ёй расказаць магу… Але ўважлівая такая, ніколі не прабяжыць, не пагаварыўшы. Нават калі спяшаецца. Я ёй пасылку тканую аддала. Тую, каторую ты хацеў на гарадскую кватэру ўзяць… А так і не ўзяў. Яна не хацела браць, адмаўлялася. А я ёй і гавару — гэта табе на Каляды падарунак. Тады ўзяла…

Баба Зіна перавяла дыханне. Крыху памаўчала. Добра на могілках. Ціха, спакойна, ніводная галінка не варушыцца, ніводная птушка не ціўкае.

— І я ўжо хутка да цябе прыйду. Толькі вось бы з домам управіцца паспець. Я вырашыла, сынок, на Жэньку-паштальёнку яго аформіць. У яе ж свайго дома няма, а наш яшчэ добры. Думала кароўку прадаць, але не… Пакіну. Жэнька ж дзеўка працалюбівая, гаспадыняй неблагой будзе… Думаю, што парадуецца такому падарунку. Можа, калі і дзеткі ў нашым доме з'явяцца. Будуць такімі ж, як ты калісьці быў…

Баба Зіна ўстала з лавачкі. Крыху пастаяла моўчкі.

— Пайду я, Сцяпанка. Добра вось, што Дзямід расчысціў сцежку, мне лягчэй. Гляджу часам на Дзяміда і цябе ўспамінаю… Ай, штосьці я сёння… Пайду я… Трэба ж яшчэ да Ганны Ціханавай зайсці. Да яе ўнукі прыехалі на канікулы, я ім цукерак купіла, як прыязджала аўталаўка. Пайду пачастую…

Але раптам зноў села на лавачку. На маршчыністай шчацэ з'явілася бліскучая маленькая кропелька, заблыталася дзесьці ў мностве скураных дарожак, а потым раптам паляцела ўніз і знікла ў тоўстай шарсцяной хустцы, туга завязанай на шыі.

— Я не плачу… — нібы апраўдваючыся, прашаптала баба Зіна. — Так, падумалася нешта. Людзі вось, можа, і дзіўнай мяне лічаць, бо хаджу ж сюды штодзень. Але ж ты ў мяне адзіны… родненькі. Хто ж, акрамя мяне, пра цябе клапаціцца будзе?.. Ну, пайду я… Заўтра, як не засплюся, то раней прыйду, больш пасяджу. А хутка ўжо і назусім… Хутка.

Баба Зіна нетаропка пайшла па сцежцы, вычышчанай Марыліным Дзямідам.

# Няпростая гісторыя «Талаша»

Людміла САЯНКОВА,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Не так ужо часта песціць нас тэлебачанне беларускімі фільмамі, ні тымі, што былі знятыя раней, ні тымі, што цяпер. Зусім рэдка ў апошнія гады мы сустракаем беларускую класіку на экране. Раз-пораз у сценах нацыянальнай кінастудыі можна пачуць нават такое, што аж дух займае: “Каму патрэбна сёння гэтая ваша класіка?”, “Навошта нам сёння Купала ці Караткевіч?” У адказ толькі і хочацца запытацца: “А навошта тады гэтая прыстаўка — «нацыянальная»?”**



Фільм “Талаш” выходзіў на экран няпроста, вытрымліваючы абарону ад бясконцых пажаданняў мастацкага савета, у атмасферы недаверу і іроніі. Фільм быў адзначаны ніжэйшай катэгорыяй. Пасля паказу на тэлеэкране — маўчанне і непрыязь у студыйным асяроддзі . Толькі кінематаграфісты з разраду “фармальных генералаў”, не хаваючы задаволенасці, эмацыйна заўважалі: “Ну, гэта проста жах…” Але ж здаецца, гэта той твор, які можна было б па-сапраўднаму абмяркоўваць, дыскутаваць з нагоды яго, спрачацца. За доўгія гады ўпершыню прадстаўлены фільм пра нашу гісторыю, пра няпростыя, супярэчлівыя падзеі пачатку XX стагоддзя, якія не ўсе дакладна ведаюць і разумеюць, — што само па сабе павінна было выклікаць альбо пэўную цікавасць, альбо непрыняцце такой версіі, толькі не абыякавасць.

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Шульга адносіцца да таго пакалення кінематаграфістаў, якое з сярэдняга паступова пераходзіць у старэйшае. Рэжысёр, які атрымаў спецыяльную адукацыю ў ВГІКу, у майстэрні класікаў савецкага кіно А. Алава і У. Навумава, зняў некалькі выдатных дакументальных стужак пра беларускіх акцёраў, толькі цяпер дэбютаваў у поўнаметражным іграўым кіно. Аповесць Якуба Коласа “Дрыгва” ён выбраў зусім не выпадкова. Па-першае, калісьці ён, малады акцёр, адметна сыграў у Коласаўскім тэатры ролю Сымона-музыкі ў спектаклі паводле аднайменнай паэмы, за што атрымаў прэмію Ленінскага камсамола. Па-другое, яго сябра Генадзь Гарбук даўно хацеў сыграць ролю легендарнага дзеда Талаша.

Але самае галоўнае знаходзіцца ў сферы асабістых пачуццяў, інтуіцыі, творчых памкненняў. У сённяшняга чалавека ёсць асаблівая прага да гісторыі, да спасціжэння каранёў сваёй адметнасці, непадобнасці да іншых. Як вядома, гэта натуральны складнік развіцця самасвядомасці кожнага этнасу, калі ён не стаіць на месцы. Менавіта цяпер адчуваецца патрэба разумення тых падзей, якія да сённяшняга часу ўспрымаюцца вельмі неадназначна. Гэтую сітуацыю адчуў Сяргей Шульга. Яму хацелася паказаць не па-прасцяцку абаяльнага “беларускага дзеда Шчукара”, а асобу, жыццё якой прыпала на крытычныя моманты гісторыі. Дзед Талаш у фільме (артыст Г. Гарбук) — не хітраваты дзядок, не заўзяты чырвонаармеец, а чалавек, які можа разважаць, няспешна прымаць рашэнні, не падпарадкоўвацца ідэалагічным лозунгам, а пільна ўглядацца ў сітуацыю. Ці ж гэта не натуральна для чалавека, які ўсё сваё жыццё пражывае на той тэрыторыі, дзе раз-пораз мяняецца ўлада, дзе бясконца ідуць спрэчкі паміж чарговымі “зацікаўленымі асобамі”? Гэты чалавек так выхаваны сваім родным асяроддзем, што ў ім адчуваецца не прыстасаванства да знешніх абставін, а адказнасць за тых, хто жыве побач, і за тое, што адбываецца на яго зямлі. Ён — гаспадар, які дбае і пра сваю сям’ю, і пра вёску, і пра жыццё ў сваім краі. Колькі ж такіх гаспадароў загінула ў пекле ці рэвалюцыі, ці вайны, ці яшчэ чагосьці, што ніяк не стасавалася з мірным жыццём. Талаш — не баец, не палітагітатар, ён з тых, хто адстойваў свае правы ў 1920-х, каго раскулачвалі ў 30-х, хто быў бясстрашным радавым у 40-х, хто не спяшаўся пагаджацца з лініяй партыі ў наступных дзесяцігоддзях. У яго ёсць сваё разуменне, шчырая любоў да ўсяго, што яму дорага, і тое, што ніякая ўлада не зможа ў яго забраць, — пачуццё сапраўднай чалавечай годнасці. Каб зразумець гэты характар, у якім смех дапаўняецца журбой, весялосць — сумам, пяшчота — суровасцю, трэба проста зазірнуць у вочы гэтага героя, адчуць бясконцую тугу па тым жыцці, дзе ўсё зразумела і проста: нараджаюцца дзеці, растуць духмяныя травы, гамоняць пад клёкат буслоў векавыя дубы.

Аўтар фільма паказаў тую сітуацыю, дзе ўсё разладзілася: вяскоўцы пайшлі адно на аднаго, палякі і чырвонаармейцы з фанатызмам пачалі адстойваць свае правы на гэтую зямлю. Усё змяшалася, як ля Вавілонскай вежы. Невыпадкова ў фільме гучаць тры мовы: руская, польская і мова “тутэйшых”. Усялякі крызіс заўсёды дадае ў жыццё кожнага роспачы, разгубленасці, расчаравання. Тыя, супраць каго Талаш пайшоў, спачатку каб выратаваць свайго сына, а потым — каб абараніць свае мясціны, таксама сумняваюцца, таксама задаюць важныя пытанні самім сабе. “Як жа гэта так? — разважае малады польскі афіцэр. — Наш маёнтак стаіць тут трыста гадоў. Іх продкі жылі з маімі продкамі душа ў душу… Не, не магу страляць…” Палеская вёска Прымакі апынулася на скрыжаванні гістарычных падзей. Тапаграфія мясцін пашыраецца на вачах: гэта тая краіна, якая сама апынулася ў прымах на сваёй жа тэрыторыі. У лакальным канфлікце паміж Талашом, вяскоўцамі і польскімі жаўнерамі раскрываецца пацыфісцка-гуманістычная тэма: людзі розных нацыянальнасцей, сацыяльнага статусу заўсёды могуць жыць мірна, калі ў гэтае жыццё не ўмешваюцца занадта сквапныя палітыкі. Побытавы канфлікт справакаваў вялікае супрацьстаянне: палякаў і палешукоў, рускіх і палякаў, прымакоўцаў між сабой. У незразумелай вайне, якая ўзняла чужых супраць чужых, сваіх супраць сваіх, няма тых, хто можа выйграць. Урэшце з’яўляецца вобраз раскіданага гнязда, дзе нікому няма ні прытулку, ні спакою, ні радасці. Таму і Талаш, як і ўвогуле вёска Прымакі, паказаны радасным толькі спачатку, калі ўсе побач: жонка, дзеці, калі ідзе звыклая сялянская праца, калі ўсё зразумела і спакойна. І гэтаксама, як паволі знікае вобраз дому, паступова знікаюць радасць і шчасце з вачэй і душы галоўнага героя.

Крытычныя моманты заўсёды раскрываюць у кожным тое, пра што нават і не здагадаешся ў іншыя часы. Жыццё, зрушанае са звыклага ладу, адразу як быццам напаўняецца нянавісцю і ўзаемнай жорсткасцю. Пераплеценыя лёсы аднавяскоўцаў адразу сціскаюцца ў тугую спружыну, якая, выпрастаўшыся, зачэпіць кожнага. Так адбываецца ў Прымаках, дзе звыклае жыццё змянілася на трагічнае процістаянне людзей, сем’яў, родаў. У драматургічным канфлікце досыць поўна выяўляюцца як драматычная сутнасць усяго, што адбываецца паміж гэтымі людзьмі, так і няпросты псіхалагічны стан іх. Ужо зрабілася нейкім гучным стэрэатыпам падкрэсліваць, што ў тым ці іншым беларускім фільме здымаліся толькі беларускія акцёры. Справа не ў тым, каб проста здымаць сваіх артыстаў, далёка не дрэнных па прафесійным майстэрстве. Важна, каб ім было што ўвасабляць, каб на экране з’яўляліся не знаёмыя твары, а пераканаўчыя характары. Рэжысёр С. Шульга не толькі ўдала выбраў акцёраў (некаторых нават адкрыў для кіно), ён даў ім магчымасць прадставіць тыя вобразы, у якіх прасочваюцца ментальныя рысы, за якімі адчуваюцца асобы, лёсы (Павел Харланчук у ролі Сцяпана, Настасся Баброва ў ролі Аўгіні, Дзяніс Паршын у ролі Мартына, Віталь Краўчанка ў ролі Збігнева Длугошыца, Алена Дуброўская ў ролі Параскі).

У гэтай стужцы ёсць самы галоўны вобраз — вобраз Радзімы. Краявіды Беларусі паказаныя так, што яны ніякім чынам не нагадваюць турыстычныя паштоўкі, як гэта бывае ў гэтак званых беларускіх баевіках. Прыроднае асяроддзе штораз па-свойму становіцца часткай кругабегу людскіх стасункаў. Яны то раскрываюцца ў квітненні зялёных лугоў, прылашчаных летнім сонцам, то хаваюцца ў лістоце, якой шаматаць восеньскі вецер, то маўкліва засяроджваюцца пад пышнымі купінамі снегу (аператар-пастаноўшчык Сяргей Бондараў). Праз усе гэтыя маляўнічыя краявіды адчуваецца пранікнёна-шчымлівая мелодыя любові да таго, што і называецца “свая зямля”.

У фільме няма таго, у чым яго абвінавачваюць тыя, для каго звыклая і лёгкая справа — развешваць рознага кшталту біркі, “налепліваць цэтлікі”. Аўтары пазбеглі напружанай агрэсіўнасці і палітычных алюзій, адлюстраваўшы частку таго, што мае дачыненне не да палітыкі, а да гісторыі, з якой, як і з песні, цяжка штосьці выкінуць. У аўтарскай інтанацыі няма ніякіх нот, якія правакавалі б на нейкую нацыянальную насцярожанасць. “Талаш” — не пра нацыянальную рознасць, а пра чалавечую еднасць, не пра нянавісць адно да аднаго, а пра згоду і мір на сваёй зямлі.

***На здымку: народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук у фільме “Талаш”.***

*Прэм’ера чатырохсерыйнага мастацкага фільма “Талаш” (вытворчасць Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”, 2012), якая адбылася на тэлеканале “Беларусь-1”, выклікала досыць актыўнае і палемічнае абмеркаванне ў сеціве. Адгукнуўся на новую стужку і “ЛіМ” (гл. нумар за 17.02.2012), распачаўшы размову пра гэтую своеадметную спробу аўтара сцэнарыя і рэжысёра Сяргея Шульгі стварыць нацыянальны гістарычны кінааповед праз мастацкае пераасэнсаванне хрэстаматыйных старонак беларускай прозы. Мы працягваем тэму і запрашаем чытачоў дзяліцца ўласнымі меркаваннямі.*

Аддзел мастацтваў “ЛіМа”.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Сімвалічны, вобразны і крохкі свет дарагіх сэрцу ўражанняў і ўспамінаў стварыла мастачка Таццяна Малышава ў выставачным праекце “Спадчына”. Вядомы майстар па шкле, яна ў пластыцы і колеры гэтага далікатнага матэрыялу ўвасобіла адмысловыя эмоцыі, якія зведала, разглядаючы ўзнагароды незабыўнага бацькі-франтавіка і перабіраючы старыя побытавыя рэчы. Экспазіцыю яе работ дапоўнілі дакументальныя фота. Выстаўка, наладжаная ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, прымяркоўвалася да 65-годдзя Т. Малышавай і 40-годдзя яе творчай дзейнасці.



Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь правяло конкурс на стварэнне канцэпцыі Усебеларускай выстаўкі сучаснага мастацтва ў Мінску. Яна стане буйным праектам рэспубліканскага маштабу і адбудзецца ў верасні — кастрычніку гэтага года ў павільёне РУП “Нацыянальны выставачны цэнтр «БелЭкспа»”, што знаходзіцца на сталічным праспекце Пераможцаў. Мэта выстаўкі — адлюстраванне новых тэндэнцый сучаснага мастацтва ў Беларусі і іх папулярызацыя ў нашым грамадстве.

Тэатральна-канцэртны праект “Час і Постаці” прысвячае 75-годдзю Белдзяржфілармоніі Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра “Зьніч”. У межах праекта на сцэне БДФ адбыўся спектакль “Пачакай, сонца!”. Добра вядомая гледачу музычна-драматычная прыпавесць (аўтар інсцэніроўкі і выканаўца — кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева, кампазітар — Алег Залётнеў, удзельнік імпрэзы — Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай), створаная паводле рамана ў вершах “Маруся Чурай” Ліны Кастэнкі, еўрапейскай паэзіі, санетаў “Бабіна лета” Ніны Мацяш, паўстала ў новым увасабленні. Рэжысёр-пастаноўшчык — Максім Сохар, мастакі — Вольга Грышаева, Уладзімір Піскуновіч, пластычнае вырашэнне — Святлана Рошчына, аранжыроўка і запіс музыкі — Велімір Залётнеў.

Вядомаму даследчыку сучаснага беларускага мастацтва, дырэктару гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Заслаўе” Мікалаю Паграноўскаму споўнілася 60. Ураджэнец Жыткаўшчыны, вучыўся ў мінскай “Глебаўцы”, Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Ленінградзе (Расія), у БДАМ. Мае багаты прафесійны досвед мастака-афарміцеля і галоўнага захавальніка НММ Беларусі, педагога і мастацкага крытыка, музейшчыка і эксперта ў розных відах выяўленчай творчасці. Аўтар шэрагу альбомаў, удзельнік працы над энцыклапедычным даведнікам “Беларускі саюз мастакоў. 1938 — 1998”.

Гамяльчанін Валерый Ражноў больш як 35 гадоў працуе ў прамысловым дызайне, колькасць яго мастацка-канструктарскіх распрацовак перасягнула сотню, многія маюць міжнароднае прызнанне. У 1985-м упершыню ладзілася выстаўка яго дызайнерскіх работ. А тая, што разгарнулася нядаўна ў Музеі гісторыі горада Гомеля, прадстаўляе вядучага інжынера-дызайнера НВА “Ратон” В. Ражнова як мастака: экспануецца серыя жаночых партрэтаў, выкананых пастэллю.

***На здымку: фрагмент кампазіцыі Таццяны Малышавай.***

# Блокфлейты — сур'ёзна і надоўга

Наталля СТАСЮК

**Квартэт "Brevis", створаны ў 1998 г. на базе сталічнай СШ № 13 з музычным ухілам, па-ранейшаму паспяхова займаецца прапагандай магчымасцей блокфлейты і яе разнавіднасцей. Дзякуючы шматлікім гастролям калектыў ведаюць не толькі ў Беларусі.**

Удзельнікі квартэта — таленавітыя музыканты Павел Сурагін — флейта (папярочная), блокфлейты сапрана, альт, тэнар; Аляксей Ладзік — блокфлейты сапраніна, сапрана, альт; Канстанцін Аляхно — тэнар, бас; Аляксей Чарнавокі — бас F, бас С. Арганізатар і нязменны кіраўнік ансамбля, вопытны педагог, выканаўца, аранжыроўшчык П. Сурагін даў пуцёўку ў творчае жыццё многім навучэнцам. Не дзіва, што некаторыя з іх пайшлі па слядах настаўніка і атрымліваюць прафесійную музычную адукацыю па класе флейты і фагота.

Магчыма, не за гарамі фарміраванне і творчай школы Паўла Сурагіна. "На жаль, у Беларусі няма блокфлейты як класа. Гэты інструмент лічыцца ў нас дзіцячым, успрымаецца як «цацка». А ў суседняй Польшчы, напрыклад, на ім можна атрымаць вышэйшую музычную адукацыю", — адзначае маэстра.

Не так даўно ў Малой зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі адбыўся сольны канцэрт квартэта. У праграме таксама ўдзельнічалі Ірына Аўдзеева (клавесін), Таццяна Тульвінская (фартэпіяна). Найбольш уразіла тое, што ансамбль паказаў сябе як мабільны, "жывы" калектыў. Што маю на ўвазе? Па-першае, узаемазамяняльнасць удзельнікаў. "Brevis" цудоўна, не страчваючы вышыні выканальніцкага ўзроўню, можа абыходзіцца на сцэне без кіраўніка. Па-другое, артысты, не скаваныя нотамі, трымаюцца натуральна, калі-нікалі паспяваючы ў паўзах мяняць інструменты (!). Пры гэтым добра пачувае сябе на сцэне не толькі асноўны склад на чале з П. Сурагіным, але і маладзёжны, і малодшы, кожны з якіх, дарэчы, мае сваё ўласнае канцэртнае жыццё. Па-трэцяе, квартэт выдатна абыходзіцца без вядучага. Усе ўдзельнікі вольна, "не глытаючы" літары і словы, могуць абвясціць чарговы нумар праграмы.




У першай частцы канцэрта гучалі творы Гендэля, Баха, Шапэна, Орды, Хайніхена, Моцарта. "Пасакалія" Г. Ф. Гендэля сярод іх — адзін з самых складаных, на "трываласць", выкананне гэтага твора дазваляе меркаваць пра ўзровень прафесіяналізму і вышыню ансамблевага майстэрства калектыву.

Самым "негучальным" нумарам падалася Прэлюдыя № 4 Ф. Шапэна. У пералажэнні для квартэта блокфлейт страцілася фактурнае адзінства арыгінала, выявілася тэмбравая "стракатасць".

Даволі сумнiўным у тэмпавых адносінах было выкананне "Турэцкага ронда" з Санаты № 11 В. А. Моцарта. Музыканты выйшлі далёка за межы пазначанага ў нотах allegretto ў бок "перавышэння хуткаснага рэжыму", адчуваючы сябе, тым не менш, у ім дастаткова зручна. Адзначу, дарэчы, што часам у выкананні ансамбля "Brevis" здараецца "ўхіл" у бок паскарэння тэмпаў. Гэта адбываецца, думаю, ад жадання падабацца публіцы — паводле прынцыпу "чым хутчэй, тым лепш".

Праграма другога аддзялення ўключала музыку кампазітараў XVI — XX стст., у тым ліку беларускага В. Длугарая. Менуэт з "Сюіты ў старадаўнім стылі" А. Шнітке ў выкананні П. Сурагіна на флейце пад раяль прагучаў лірычным адкрыццём. На жаль, акампанемент блокфлейтыстаў заглушаў "цар" інструментаў. Уразіла асаблівая тэмбравая свежасць у творах з выкарыстаннем флейты ("Зязюля" Дакена, згаданы вышэй Менуэт А. Шнітке). Магчыма, флейтавы тэмбр надаў бы "бліскучасці" і іншым творам, у выкананні не толькі П. Сурагіна.

Таленавітымі аранжыроўкамі вылучыліся латышскі народны танец "Пеўневая полька", "Гумарэска" А. Дворжака, "Ружовая пантэра" Г. Манчыні, папуры на тэмы з апэрэт І. Кальмана. Дарэчы, апошні твор, а таксама папуры на тэмы з "Дзіцячага альбома" П. Чайкоўскага захоплена прымала і люксембургская публіка — падчас гастроляў нашых музыкаў ужо праз тыдзень пасля таго філарманічнага канцэрта...

Паводле слоў кіраўніка, сёлета канцэртаў было не так шмат, як летась, але і залы былі лепшыя, і побытавыя ўмовы вельмі добрыя. "Ездзіць у Германію з блокфлейтамі тое ж самае, што ў Расію — з балалайкамі! Але калектыў запрашаюць на новыя гастролі, і гэта шмат пра што кажа", — дадае П. Сурагін.

Летась "Brevis" тройчы стаў лаўрэатам, у тым ліку і яго малодшы склад, адзначаны на IX міжнародным конкурсе старадаўнай музычнай культуры ў Польшчы. Настаўніка вельмі радуе такі прафесійны рост: "Я не магу быць спакойны, калі не бачу працягу таго, што раблю. Калі няма будучыні, навошта сучаснасць?" Марыць жа ён пра тое, каб "Brevis" атрымаў статус прафесійнага калектыву, каб яго паважалі і не прымушалі распаўсюджваць квіткі на філарманічны канцэрт. А пакуль... ансамбль па-ранейшаму цешыць захопленых слухачоў сваім мастацтвам.

Яўген ШУНЕЙКА

# Музычныя рытмы шкла

**Кожная сталіца ці значны горад мае свае гістарычныя цэнтры: акропаль, альтштат, крэмль і да т.п. Для Мінска гэта — Верхні горад, які не быў абнесены мурамі, але захаваў сваю планіроўку і архітэктурнае асяроддзе. Праўда, не абышлося тут без страт. На былой Саборнай плошчы (цяперашняя плошча Свабоды) не хапала доўгі час, сярод іншых згубленых помнікаў гісторыі, дзвюх выключных дамінантаў XVI ст.: сабора Святога Духа і Мінскай ратушы, па-варварску разбураных у XIX — XX стст.**

У 2004 годзе здзейсніўся першы вялікі цуд: быў хутка і літаральна на гістарычным падмурку адноўлены будынак ратушы. Яму адразу надалі вельмі значныя рэпрэзентатыўныя функцыі. Тут адбываюцца важныя для сталіцы мерапрыемствы, сустрэчы, пасяджэнні. Але, мабыць, не меншую прадстаўнічасць для адноўленых сцен і залаў маюць шматлікія мастацкія творы, якія аздабляюць сучасныя інтэр'еры ратушы.

Заказчыкам гэтага незвычайнага мастацкага праекта пашчасціла мець справу з вялікай грамадой прафесіяналаў: прадстаўнікоў Беларускага саюза архітэктараў, навукоўцаў-рэстаўратараў і членаў Беларускага саюза мастакоў. Такія спецыялісты здатныя выканаць асабліва адказныя задачы навукова-мастацкага сінтэзу ў самых розных тэхнічных і стылістычных параметрах. Вось і Мінская ратуша стала ўзорам эстэтычнай грунтоўнасці і тэматычнай насычанасці ў сваім мастацкім абнаўленні. Яно пераконвае ў тым, што беларускія мастакі, аўтары ратушнай канцэпцыі, беспамылкова вызначылі для сябе сутнасць творчага дыялогу з мінулым. Іх работы — не "рэтрарэканструкцыі" колішніх прыкладаў мастацкага мадэрну, сімвалізму, барока і інш. Гэта — сучасныя мастацкія творы, якія перадаюць рамантычныя адносіны іх аўтараў да мінскай мінуўшчыны. Таму з'яўляюцца ў іх кампазіцыях розныя арыгінальныя стылістычныя інтэрпрэтацыі, метафарычныя вобразы, якія злучаюць наш час з далёкім, але незабыўным. У Мінскай ратушы няма еўрапейскіх аналогій. Яна не прэтэндуе на выгляд пампезнай "залатой цукеркі", але прываблівае сапраўдным, вельмі запамінальным вобразным характарам. І звонку, і ў інтэр'ерах створана належная аўра, непаўторная атмасфера гістарычна-сучасных повязей.

Можна ўявіць, як у хуткім часе шматлікія экскурсіі з усёй Беларусі і замежжа будуць наведваць цэнтральную частку Мінска, і пачаткам іх знаёмства з нашай сталіцай стане менавіта вобразная інфармацыя, сканцэнтраваная ў ратушы: яна нікога не пакіне абыякавым. Дамінантай экспазіцыі ўспрымаецца габелен "Ратушная плошча" (аўтары В. Даўгала, Г. Жарын), які нагадвае пра выгляд Мінска XIX ст. Паабапал яго — жывапісныя творы У. Тоўсціка "Губернскі горад Мінск на пачатку XX ст." і "Мінск. Рынак Верхняга горада". Вельмі ўражваюць запамінальныя вобразы мінчанак і мінчукоў з розных сацыяльных сфер — ад простага працоўнага люду да гарадской арыстакратыі. Усе яны па-свойму годныя і шляхетныя асобы, крэўна звязаныя з утульным асяроддзем старадаўняга горада над Свіслаччу. Пра тагачасны Мінск на сённяшні дзень зусім мала сказана ў сучасным мастацтве, і гэты своеасаблівы "трыпціх" успрымаецца пачаткам вялікай тэмы ў розных відах выяўленчага мастацтва. Пакуль што гэты прагал запаўняюць графічныя архітэктурныя пейзажы мінулых дзесяцігоддзяў. Але патрабуюцца новыя, больш "адрасныя" творы, прысвечаныя розным падзеям даўнейшай мінскай гісторыі. У цокальнай зале ратушы ўражвае вялікая, шматчастківая кампазіцыя з металічных пано ў адмысловай тэхніцы гравіроўкі і траўлення. Яе аўтары — Г. Асташонак, В. Даўгала, Ю. Гудзіновіч і іншыя — стварылі абагульнены вобраз тысячагадовай мінскай гісторыі, пачынаючы з векапомнай бітвы на Нямізе 1067 года.



Пасля пэўнай часавай паўзы ў Верхні горад "вярнуўся" яшчэ адзін рарытэт. У 2011 годзе завяршылася аднаўленне будынка храма Святога Духа, які цяпер выконвае функцыю канцэртнай залы. Ізноў сваю унікальную мастацкую справу здзейсніў невялікі калектыў, які ўжо вызначыўся трапным творчым падыходам на папярэднім аб'екце. Трэба падкрэсліць, што аўтарам ідэі рэканструкцыі і манументальна-мастацкага аздаблення згаданых аб'ектаў і вядучым членам творчага калектыву з'яўляецца вядомы беларускі архітэктар Сяргей Багласаў. Апрача таго, ён кіраўнік сталічных архітэктурных праектаў Замчышча, Гандлёвай вуліцы і вуліцы Няміга. Менавіта ён, спанатраны праекціроўшчык, прапанаваў выдатнаму майстру-манументалісту В. Даўгалу стварыць адмысловую вітражную кампазіцыю для вялікіх вокнаў будынка на тэму "Музычныя рытмы". Галоўная вартасць гэтай работы — адсутнасць статычных кампазіцыйных элементаў. Шматколернае шкло пераліваецца ад жывога мігцення гнуткіх вітражных хваляў. Ствараецца незвычайнае эмацыйнае ўражанне колера-музычнага гучання.

Вельмі адметны манументальны трыптых спецыяльна для гэтага адноўленага помніка культавай архітэктуры стварыў У. Тоўсцік. Фае перад спускам у гардэроб аздабляе тэматычная кампазіцыя гэтага мастака "Юныя музыканты" (роспіс на ляўкасе), праца над якой працягвалася некалькі гадоў. У цэнтры кампазіцыі на імправізаванай сцэне маленькія мінскія музыканты — хлопчык і дзяўчынка. Іх выступленне падтрымлівае сімвалічны аркестр, у склад якога ўваходзяць выканаўцы з розных эпох: лірнікі, віяланчэлісты, арфісты, музыкі з іншымі класічнымі інструментамі. Немагчыма не пагадзіцца з такой наватарскай творчай ідэяй, выяўленай у творы, — наша сучасная музычная і мастацкая традыцыя з'яўляецца годнай пераемніцай лепшых культурных традыцый еўрапейскай цывілізацыі. У гэтым пераконвае і майстэрскі ўзровень выканання кампазіцыі: У. Тоўсцік з выключным артыстызмам вырашыў у колеры і малюнку шматфігурную карціну, скарыстаўшы вельмі складаную ляўкасную тэхніку, якая не пераносіць розныя марудныя дапрацоўкі, але дапамагае захаваць светласць і сонечнасць палітры, упэўненай рукой выявіць узнёслыя вобразы. Такое можа сабе дазволіць толькі вельмі адораны і спрактыкаваны маэстра. Фае канцэртнай залы таксама арыгінальна дапаўняецца вітражнымі кампазіцыямі В. Даўгалы, а некалькі жывапісных твораў У. Тоўсціка, прысвечаных гістарычным перыядам развіцця нацыянальнай музычнай культуры, вельмі арганічна ўпісаліся ў аздабленне залы, якая бачыць сваёй чысцінёй і настройвае на творчую перспектыву. Тут, безумоўна, адбудуцца значныя фестывалі і канцэрты, якія атрымаюць міжнародны розгалас. А мастацкае аздабленне адноўленага неарэнесанснага будынка яшчэ будзе дапаўняцца, бо самі архітэктурныя адметнасці вымагаюць гарманічнага і выразнага мастацкага сінтэзу.

Такім чынам, менш як за дзесяцігоддзе ў Верхнім горадзе, у самым сэрцы сталіцы, актыўна запульсавала класічнае мастацтва, якое сцвярджае веліч нашай краіны і яе працавітага і таленавітага народа, нашу старальную ролю ў сучасным свеце. Спыняцца на дасягнутым не трэба: мінскі прыклад можа спатрэбіцца іншым гарадам Беларусі са слаўнай гісторыяй і годным сучасным жыццём. Бо кожны з іх цяпер рупіцца пра свой выгляд, пра добраўпарадкаванне і культурную інфраструктуру. Думаецца, што многія выдатна падрыхтаваныя мастакі-прафесіяналы маюць магчымасць гуртавацца ў творчыя калектывы і актыўна ўдзельнічаць у адраджэнні гарадскога культурнага асяроддзя як на канцэптуальным узроўні, так і на практыцы, ствараючы наватарскія тэматычныя кампазіцыі для розных прадстаўнічых будынкаў у розных гістарычных мясцінах краіны.

*На здымку: фрагмент вітражнай кампазіцыі Валерыя Даўгалы.*

Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт

# Мудрасць Усходу:
## старасвецкія казкі і жыццёвыя парады

**Свае першыя крокі беларуская літаратурная кітаістыка зрабіла яшчэ 100 год таму. І зарадзілася яна на старонках першай беларускамоўнай газеты "Наша Ніва" (1906 — 1915). Гэтае выданне, якое сёння прызнаюць як сапраўдную калыску нацыянальнага мастацтва слова, было шырока адкрыта насустрач усяму цывілізаванаму свету. Паказальна, што газета арыентавалася не толькі на культуру Еўропы. Цікавай, разнастайнай з'яўляецца і нашаніўская арыенталістыка.**



"Наша Ніва" рэгулярна знаёміла беларускіх чытачоў з гісторыяй і сучаснасцю Кітая, Японіі, Персіі. Падача інфармацыі мела сваю методыку: рэдактары і карэспандэнты дапасоўвалі матэрыялы да падзей, звязаных з унутрырасійскім жыццём, змяшчалі дадатковыя тлумачэнні. Найбольш складаным для журналістаў было асвятленне міжнародных зносін паміж Расіяй і краінамі Далёкага Усходу. Аднак "Наша Ніва" спраўлялася з тымі абавязкамі, якія на сябе ўскладала.

Звесткі пра Кітай змяшчаліся амаль у кожным тэксце, прысвечаным праблемам Далёкага Усходу. Чытачы, да прыкладу, даведаліся, што кітайская Усходняя чыгунка каштавала 315 мільёнаў рублёў і павінна была мець працягласць 1600 вёрст. Пры гэтым называліся тыя станцыі, парты і рэкі, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці да Уладзівастока (1910, № 3, № 9 і інш.). Кітайская тэма закраналася і ў матэрыялах, прысвечаных Японіі і Карэі, Манголіі. Пішучы пра паўночна-ўсходнюю тэрыторыю Кітая — Маньчжурыю, газета паведамляла і пра Тыбет, яго духоўнага і свецкага кіраўніка Далай-ламу.

Шмат увагі надавалася гісторыі Кітая. "Кітай — гэта велікан паміж іншымі старонкамі свету. На неабдымных абшарах жыве 400 мільёнаў народу, яго гісторыя лічыцца тысячамі гадоў", — паведамляла "Наша Ніва" (1911, № 40). Пазіцыя газеты ў дачыненні да Кітая вызначалася заўсёднай паважлівасцю: "жывець у ім спакойны і працавіты народ".

Неабходна заўважыць, што ў свае публіцыстычныя выступленні нашаніўцы, каб разнастаіць жанравую спецыфіку інфармацыі, уносілі элементы белетрызацыі. У прыватнасці, даючы этнакультурную характарыстыку народаў Усходу, газета звярталася да ўзораў фальклорнай мудрасці, падаючы яе ў жартоўным плане. Так, пад назвай "Рады для кандыдатаў на жэнячку" газета паведамляе наступнае: "*Кітайцы* раюць браць толькі такую дзяўчыну, каторая была для сваіх бацькоў добрай і паслухмянай. *Японцы* кажуць: не бяры ніколі жонкі з таго дому, дзе няма ладу і чыстасці ў хаце і на кухні. *Італьянцы і гішпанцы* гавораць, што хто шукае сабе жонкі далёка, то або сам ашукаецца, або другіх хоча ашукаць. *Расейцы* кажуць так: калі з хаты бярэш старэйшую дачку, — зважай, якія яе бацькі; калі малодшую, — зважай на старшую сястру. *Немцы і англічане* перасцерагаюць: дзе матка шмат працуе, у той дачка — гультай. *Арабы* кажуць, што хто пекную жонку бярэ, той дом свой прадасць, бо яна яго збурыць. *Славяне* ж раюць: бяры жонку з суседства, бо яе знаеш, але кумоў — здалёк, каб не зналіся" (1910, № 8).

Паказальна таксама, што тэма "Расія — Японія — Кітай" была закранута праз яе асаблівую актуальнасць і ў мастацка-белетрыстычным цыкле допісаў Ядвігіна Ш. "Лісты з дарогі" (1910, № 23 — 24). Друкавала газета і творы Усходу, якія з'явіліся своеасаблівымі арыенцірамі для беларускіх пісьменнікаў у выпрацоўцы арыгінальных уласнанацыянальных творчых традыцый. Першым мастацкім творам усходняй тэматыкі, перакладзеным на беларускую мову, можна лічыць "Казку аб японскім каменшчыку" Мультатулі (1908, № 22). Услед за ёю газета друкуе "старасвецкую персідскую казку", якая мела назву "Як гукнеш, так і адзавецца" (1908, № 25). Далучанасці да ўсходняга каларыту спрыялі і іншыя перакладныя творы. Так, звяртае на сябе ўвагу той факт, што з А. Купрына "Наша Ніва" для чытача выбрала менавіта апрацоўку "ўсходняй легенды" пра Дэмір-Кая (1907, № 31).

Кітайскае мастацкае слова прадстаўлена двума творамі — казачнымі апавяданнямі са старажытнакітайскай кнігі "Тысяча апавяданняў" (1910, № 23 — 24; 1910, № 28). "Наша Ніва" адзначыла, што прапанаваныя тэксты напісаны "ў канцы 17 стагоддзя кітайскім вучоным з правінцыі Шань-Дунь Пу Сун-лінам". Сапраўды, аўтар іх — выдатны пісьменнік Пу Сун-лін. Напісанае ім залічваецца ў шэдэўры кітайскай навелістыкі. Публікацыі ўласна кітайскіх твораў у газеце суправаджаліся наступнай інфармацыяй: "Для "Нашай Нівы" з кітайскай мовы пераклаў прыватдацэнт В. Аляксееў. М. Карлсберг, Віленскай губерні, Вілейскага павета". Будучы акадэмік-кітаязнавец В. Аляксееў быў знаёмы з А. Уласавым, тагачасным рэдактарам-выдаўцом "Нашай Нівы". Гасцюючы ў маёнтку Уласава, Аляксееў, безумоўна, дзяліўся з беларускім сябрам сваімі ўражаннямі ад нядаўняй паездкі ў Кітай. Значна пазней, у 1958 г., у Маскве выйдзе асобным выданнем кніга В. Аляксеева "В старом Китае. Дневники путешествия 1907 года". Няма сумнення, што пераклады для "Нашай Нівы" былі зроблены па просьбе Уласава і не без яго ўдзелу. У далейшым усе свае пераклады з кітайскай літаратуры В. Аляксееў суправаджаў навуковымі каментарыямі.

"Наша Ніва", публікуючы кітайскія казкі (так у газеце абазначаўся жанр твораў) "Даос з гор Лао" ("Наша Ніва", 1910, № 23 — 24) і "Гульня мячом у падводным царстве" ("Наша Ніва", 1910, № 28), не давала ніякіх тлумачэнняў няпростага для разумення тэксту. Выдаўцы беларускай газеты, адчуваючы, наколькі складаным для нашаніўскага чытача будзе метафарычная экзатычная тэкстаў, пасля першай публікацыі зрабілі прыпіску: "Гэта кітайская казка не такая простая, як можа каму здацца. Рэдакцыя просіць чытачоў добра над ёю падумаць і напісаць нам, хто як яе зразумеў, што гэтай казкай кітайцы хочуць сказаць, ці няма ў Евангеллі падобнай думкі? Наймудрэйшы і найлепшы адказ будзе надрукаваны ў "Нашай Ніве". Другі твор суправаджала фотаілюстрацыя — "арыгінальны рысунак з кітайскім надпісам да гэтай казкі". На жаль, чытацкіх водгукаў на пераклады кітайскіх твораў на старонках "Нашай Нівы" не зафіксавана. Нам не ўдалося адшукаць такога роду допісы і ў архіве газеты. Трэба прызнаць, што сінкрэтызаваная міфалогія, згушчаная фантастыка, іранічная падсветка гэтых твораў сапраўды складаныя для ўспрымання непадрыхтаванага чытача.

> *"Чалавеку, не знаёмаму з кітайскай міфалогіяй, не ўсё адкрыецца ў змесце твораў. Аднак вельмі важна тое, што кітайскія прытчы-казкі выводзяць чытача за межы канкрэтнага апісання, скіроўваюць на філасофскі роздум.*

Заўважым, савецкая кітаістыка прайшла без малога стагодовы шлях, перш чым, узброеная глыбокім веданнем Усходу, змагла ў 80-х гг. XX ст. здзейсніць цікавыя грунтоўныя выданні — "Возвращённая драгоценность. Китайские повести XVII века" і "Заклятье Даоса. Китайские повести XVII века" (абодва — Масква, 1982). Варта асобна адзначыць, што беларускае выданне змясціла яшчэ і ўзор японскай народнай мудрасці, надрукаваўшы "Казку аб японскім каменшчыку". У "Нашай Ніве", дзе друкаваўся гэты твор, перакладчык не названы. У 1911 годзе беларускі чытач атрымаў яшчэ два творы знакамітага еўрапейскага пісьменніка, якія, як паведамляла газета, пераклаў Власт. Псеўданімам *Власт* падпісваўся вядомы пісьменнік і гісторык, сакратар "Нашай Нівы" Вацлаў Ластоўскі. Лагічна сцвярджаць, што па ініцыятыве і ў перакладзе Ластоўскага з'явілася ў "Нашай Ніве" і "Казка аб японскім каменшчыку". Нам падаецца, што з не меншай падставай можна выказаць і наступнае меркаванне: Ластоўскаму належыць і пераклад вышэйназваных кітайскіх твораў. Рэдактар газеты Уласаў, сябар Аляксеева, мог даручыць супрацоўніку выдання калі не сам пераклад з кітайскай мовы, то беларускамоўную яго апрацоўку, бо Ластоўскі ўжо меў добры досвед у справе ўзнаўлення іншаземных тэкстаў на беларускай мове. На жаль, яго удзел у станаўленні беларускага мастацкага перакладу пакуль што абыдзены ўвагай навукоўцаў. Пераклады кітайскіх твораў раскрываюць уважлівае стаўленне журналістаў да свайго чытача — у тэксце тлумачацца асобныя словы і паняцці: "мат — пляцёнка", "палачкі — палачкамі кітайцы ядуць страву". Першы з перакладзеных кітайскіх твораў, які пададзены пад агульнай назвай "Даос з гор Лао", суправаджаецца ўрэзкай з рэдактарскім каментарыем: "Даос — гэта манах веры Дао. Дао — філасофская навука аб Усясветнай Душы…"

Пры бліжэйшым знаёмстве з кітайскімі творамі прыходзім да высновы, што казкамі іх можна назваць толькі ўмоўна. На самай справе гэта кароткія апавяданні павучальнага характару. Яны ўспрымаюцца як водгукі на праблемы грамадства, вызначаюцца глыбокім сэнсам, што перадаецца праз іншасказальнасць. Уласцівы ўсходняму пісьменству сінкрэтызм розных сюжэтных планаў і стылёвых адзнак робіць гэтыя малыя па памерах творы вельмі мабільнымі ў дачыненні да чытацкай аўдыторыі рознага часу, розных народаў. Аповед у іх не мае храналагічных прыкмет. Алегарычнасць, выразна скіраваная на мараль, парабалічнасць кампазіцыі дазваляюць вызначаць гэтыя творы як прытчы. Чалавеку, не знаёмаму з кітайскай міфалогіяй, не ўсё адкрыецца ў змесце твораў. Аднак вельмі важна тое, што кітайскія прытчы-казкі выводзяць чытача за межы канкрэтнага апісання, скіроўваюць на філасофскі роздум.

Аповед пра ўнутрысямейныя ўзаемаадносіны ці адносіны паміж прадстаўнікамі пэўнай групы людзей скіраваны на раскрыццё праблемы ўзаемадачынення ў агульнай сям'і чалавечай цывілізацыі. Паказальна, што ў творы ёсць некалькі блізкіх беларусам славянскіх архетыпічных фальклорных вобразаў-сімвалаў: сын-студэнт быў *сёмым* дзіцем у бацькоў, у прытчы з'яўляецца "панадная дзяўчына" — *русалка* Чан-угэ. Зразумелы і сімвал сцяны — перашкоды, якая можа быць пераадоленая пры адпаведных маральных якасцях чалавека. Беларускі чытач мог у змесце невялічкага сюжэта адчуць і пэўныя перагукі з біблейскай сімволікай (віно, якім Хрыстос частаваў сваіх вучняў). Галоўнае ж у задуме твора — асудзіць гультайства, засцерагчы чалавека ад спакусы дасягнуць запланаванага без належнай працы. Таго, хто шукае лёгкага шляху ў жыцці, не хоча працаваць, не прызвычаены да цярплівасці, трываласці, у каго слова разыходзіцца са справай, хто не хоча быць самакрытычным і прызнаваць свае памылкі, — такіх людзей чакае крах спадзяванняў. І будучыня — не за імі...

Перакладаючы кітайскія творы, нашаніўскія аўтары і самі фарміраваліся як пісьменнікі. Менавіта ў гэты час на старонках газеты з'яўляюцца ўзоры малой прозы — абразкі, казкі, легенды, прыпавесці. Беларускія пісьменнікі Якуб Колас, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі і іншыя свядома арыентаваліся на пошукі новых форм засваення народнай мудрасці. Не толькі Ластоўскаму, але і Коласу належаць некаторыя з перакладаў літаратурнай казкі. Ён яшчэ да з'яўлення ў "Нашай Ніве" ўсходніх прытчаў выступіў з публікацыямі, што паклалі пачатак знакамітаму цыклу яго твораў прытчавага характару "Казкі жыцця". Звяртаюць на сябе ўвагу формай і ідэйным зместам "Казкі" Змітрака Бядулі, за філасафічнасцю якіх адчуваецца школа ўсходняга пісьменства.

Такім чынам, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што першыя крокі беларускай літаратурай кітаістыкі, зробленыя яшчэ на пачатку XX ст., выявілі культуралагічную канцэпцыю айчыннай журналістыкі, мастацкага слова. Выкарыстанне нацыянальнай традыцыі і цяпер спалучаецца ў Беларусі з вывучэннем чужога досведу, яго гуманістычнай напоўненасцю і ідэйна-мастацкімі пошукамі.

*Малюнак Марысі Лось*

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Валерыя Харчанкі

# Прыцягальнасць непадобнага

**Ён выкладае кітайскую мову нашым студэнтам у БДУ, знаёміць беларускую публіку са старажытнымі традыцыямі кітайскай каліграфіі, перакладае для рускамоўнага чытача вершы Лі Бая, дапамагаючы тым, хто жадае гэтага, рабіць першыя крокі ў спасціжэнні кітайскай культуры. Аднак спадар Лі Цзо з ліку тых, каму недастаткова быць патрыётам толькі ўласнай вялікай краіны. Ён мае зайздросную здольнасць бачыць адметнае, дасканалае, дзіўнае ў іншых культурах і — шчыра здзіўляцца новаму. Можа, менавіта таму ў яго так шмат сяброў сярод беларускай інтэлігенцыі. Мы размаўляем з гэтым цікавым чалавекам пра кітайскага чытача, пра шанцы беларускай літаратуры быць заўважанай ім.**




**— Скажыце, спадар Лі Цзо, што ведае сярэднестатыстычны кітаец пра беларускую літаратуру?**

— Баюся, што сярэднестатыстычны кітаец і пра краіну Беларусь асабліва не ведае. Аднак руская літаратура ў нас ня дрэнна прадстаўлена дзякуючы выдатным перакладам, якія былі зроблены нашымі паэтамі ў сярэдзіне XX стагоддзя.

**— Я так разумею, гутарка ідзе пра рускую класічную літаратуру?**

— Безумоўна. У нас нядрэнна ведаюць Пушкіна, Лермантава, Талстога. Могуць прыгадаць і кагосьці з аўтараў савецкага часу.

**— Кітайская моладзь чытае такія кнігі?**

— У асноўным студэнты-гуманітарыі, якія вывучаюць сусветную літаратуру. Астатнім — часу няма. Нашы маладыя людзі шмат працуюць. Яны мусяць рэалізаваць сябе як спецыялісты, бо ў Кітаі гэта адзіны шлях да працвітання.

**— Можа, у іх не хапае часу і на айчынную літаратуру?**

— Ну, ёсць жа школьная праграма, там шмат праходзяць класічнай кітайскай паэзіі. Лічыцца прэстыжным ведаць вершы вялікіх кітайцаў і цытаваць іх. У добрых сем'ях дзяцей вучаць і саміх складаць вершы. Аднак сучасная кітайская літаратура не мае, на мой погляд, такой велічы, як у мінулым. Няма твораў сусветнага маштабу.

**— Паэт кітайскага сярэднявечча Лі Бай (ці то Лі Бо, як больш звыкла для нас), сто лепшых вершаў якога ў вашым перакладзе выйшлі асобнай кнігай у выдавецтве "Мастацкая літаратура", — аўтар якраз сусветнага ўзроўню. Мы знаёмы з некаторымі яго творамі па перакладах рускіх паэтаў Сярэбранага веку і савецкага часу. Што новага мы мусім даведацца пра яго творчасць ад вас?**

— Любы пераклад вялікага паэта дае пра яго вершы і філасофію няпоўнае ўяўленне. А тым больш творы Лі Бая (яго імя ўсё ж такі правільна вымаўляць гэтак) далёка не ўсе былі перакладзены на рускую мову. Безумоўна, яшчэ больш актуальна было б сёння зрабіць пераклад Лі Бая на беларускую мову, аднак я не валодаю ёю на належным узроўні. І шкада. Бо ў мае планы ўваходзіць пераклад самых вядомых кітайскіх паэтаў для азнаямлення з іх творчасцю беларускіх чытачоў.

**— Вядома, у Беларусі знойдуцца тыя, каго зацікавіць ваша праца. Беларуская інтэлігенцыя ў большасці сваёй чытае замежную літаратуру. А якi попыт на некітайскія кнігі ў вашых інтэлігентаў?**

— Імкнуцца чытаць тое, што абмяркоўваюць на сусветным узроўні. Напрыклад, кнігі нобелеўскіх лаўрэатаў. Цікавяцца японскай і карэйскай літаратурай — гэта зразумела, яны ж нашы суседзі. І — амерыканскай. Таму што ЗША — вялікая краіна, як і Кітай.

**— Ці значыць гэта, што з'яўленне добрых перакладчыкаў з беларускай мовы на кітайскую яшчэ не гарантуе поспех беларускай кнігі ў Кітаі?**



— Сапраўды так. Я вось паспрабаваў быў прапанаваць у нашы выдавецтвы пераклад кнігі казак майго сябра Георгія Марчука — выдаўцоў пакуль што не зацікавіла. Праблема ў тым, што за імёнамі беларускіх пісьменнікаў у свядомасці кітайцаў нічога не стаіць.

**— Я разумею, што Беларусь у параўнанні з Кітаем — маленькая краіна. Але амаль заўжды гістарычна мы былі часткай краін вялікіх — СССР, раней — Расійскай імперыі, яшчэ раней — Рэчы Паспалітай. Кітай складаецца з многіх калісьці самастойных краін, цяпер гэта — правінцыі. Ці вылучаеце вы індывідуальнасць культуры, літаратуры, гісторыі такіх правінцый?**

— Безумоўна. Ёсць у нас, напрыклад, правінцыя Хань. Калісьці гэта была дзяржава. Самыя вялікія кітайскія паэты — адтуль. Ідэя для мяне сапраўды цікавая — прадставіць кітайцам Беларусь па аналогіі з Хань. Спачатку — моцныя і незалежныя, пасля — у складзе вялікіх дзяржаў, цяпер — зноў самастойныя. Такі ракурс, сапраўды, можа выклікаць цікавасць у маіх суайчыннікаў, якім я хачу прапанаваць беларускую класіку — лірыку Янкі Купалы.

**— Вы перакладаеце Купалу?**

— Я рыхтуюся да гэтага адказнага кроку. Мы павінны збліжацца не толькі праз эканамічнае супрацоўніцтва. Мы павінны зразумець адно аднаго, зразумець усю прыцягальнасць непадобнага. А гэта магчыма толькі праз спасціжэнне духоўных каштоўнасцей нашых народаў.

**— Вашы асабістыя пажаданні чытачам "ЛіМа"?**

— Міру і працвітання! І прыміце мой падарунак — уласныя вершы.

## *Дзьмухавец*

*Мой безыменны герой,*
*Ты скарыў нават гару*
*на краі неба!*

*І мужна трываеш там зімні холад*
*У чаканні жыццядайнага*
*вясенняга дажджу.*

*У тваіх зялёных далонях*
*Распускаецца залатое сэрца зямлі.*

*Абмыты росамі,*
*аблашчаны сонечнымі промнямі,*
*Ты танчыш, згібаючы*
*і зноў выпрамляючы сваю стромку.*

*Асенні вецер ператворыць*
*тваё золата ў сівізну*
*І ўпрыгожыць ёю свае валасы,*
*нібыта каронай часу.*

*Ты ўздымешся ў вышыню,*
*Прыпадобнiўшыся небажыхарам —*

*Вечны вандроўнік,*
*свабодны як бог,*
*Твой лёс – прастора!*

*Напэўна, ты спынішся*
*толькі на краі свету*
*І толькі дзеля таго,*
*каб дачакацца новай вясны!*

*11.7.2009.*

## *Чырвоны лісток*

*Чырвоны трапяткі лісток*
*На снезе пад суровым ветрам…*

*Можа, дыханне любові*
*Яшчэ захавалася*
*ў глыбіні тваёй душы?*

*Тая зіма пакінула ў памяці*
*Толькі хуткі маланкавы ўсплеск*

*Я не паспеў азірнуцца –*
*Дваццаць гадоў праляцела.*

*Але сёння ў марозных*
*І ветраных прыцемках*

*Твая ўсмешка зноў залунала*
*Перад маімі вачыма.*

*І зноў адкрылася старая рана,*
*Закрываточыла,*
*нібыта ад удару нажом.*

*Мы так добра ведаем адно аднаго –*
*Не трэба залішніх слоў.*

*Няхай у глыбіні душы*
*Застаецца маўклівы сум…*

*Але як жа хацелася б мне*
*Стаць парывам вясенняга ветру,*

*Які, агарнуўшы цябе, падараваў бы*
*Цёплы прамень сонечнага кахання!*

*18.2.2012.*

**Пераклад з рускай Ірыны Масляніцынай**

Мікола БЕРЛЕЖ

# Вялікае бачыцца на адлегласці

У Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы рэдакцыя газеты "СБ. Беларусь сегодня" правяла прэзентацыю студзеньскага нумара часопіса "Беларусь", які прысвечаны 20-годдзю беларуска-кітайскіх дыпламатычных адносін.

У інтэрв'ю часопісу "Беларусь" намеснік прэм'ер-міністра нашай краіны, сустаршыня Кітайска-Беларускай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве Анатолій Тозік, у прыватнасці, зазначыў: "...ад таго, як развіваецца Кітай, будзе ўсё больш залежаць развіццё ўсёй планеты". Пра гэта Анатолій Апанасавіч гаварыў і на сустрэчы ў прэсцэнтры. Сярод удзельнікаў і гасцей прэзентацыі — галоўны рэдактар газеты "СБ. Беларусь сегодня", заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Павел Якубовіч (газета з'яўляецца выдаўцом часопіса "Беларусь"), першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, рэдактар часопіса "Беларусь" Віктар Харкоў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Гун Цзяньвэй. Расказваючы пра падрыхтоўку кітайскага выпуску беларускага часопіса, Віктар Харкоў вылучыў асаблівую працу над выданнем журналістаў Інэсы Плескачэўскай (яна прадстаўляе карпункт "СБ. Беларусь сегодня" ў Пекіне) і Валянціны Ждановіч.

У прэзентацыі ўзяў удзел і прадстаўнік маскоўскай рэдакцыі часопіса "Китай" (яго выдаўцом з'яўляецца выдавецтва "Жэньмінь хуабао") Лі Бо. Не выключана, што ў бліжэйшы час гэтае аўтарытэтнае ў свеце выданне будзе распаўсюджвацца і ў Мінску, а таксама па ўсёй Беларусі. Дарэчы, студзеньскі нумар "Кітая" таксама ў значнай ступені расказвае пра беларуска-кітайскія стасункі.

Варта нагадаць, што асаблівым складнікам у развіцці зносін паміж Беларуссю і Кітаем з'яўляюцца літаратура, мастацтва. А ў айчынных бібліятэках асобную паліцу маглі б скласці выдадзеныя ў 1950 — 1960-я гады кнігі кітайскіх пісьменнікаў на беларускай мове. Нагадаем імёны іх перакладчыкаў — вядомых празаікаў, руплівых працаўнікоў на ніве беларускага прыгожага пісьменства: Лідзію Арабей, Васіля Вітку, Ганну Сапрыку, Льва Салаўя, Янку Казеку, Паўлюка Пранузу, Алеся Якімовіча, Янку Брыля, Яўгена Васілёнка.

# Цуд рукатворны, светлым духам натхнёны

Галія ФАТЫХАВА

**Аўтарскі калектыў Беларускага саюза мастакоў — Валерый Чайка, Алесь Суша, Сяргей Бышнёў — узнагароджаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" па выніках 2011 года. Таленавітыя творцы атрымалі гэтую высокую ўзнагароду за цыкл мазаік, зробленых імі ў капліцы, узведзенай у гонар абраза "Знаменне (Адзнака) Прасвятой Багародзіцы" на месцы Мінскіх брацкіх могілак 1914 — 1918 гадоў. Цяпер тут створаны мемарыяльны комплекс па ўвекавечанні памяці ахвяр Першай сусветнай вайны. Падчас урачыстай цырымоніі ўручэння прэмій Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт сказаў: "Сёння гэтае месца спачыну нашых продкаў займела выгляд, варты іх светлай памяці. Цэнтрам жа дадзенага мемарыяла, агульным помнікам Славе і Подзвігу пахаваных тут воінаў, зрабілася збудаваная тут і асвечаная намі капліца ў гонар абраза Божай Маці "Знаменне". Спрадвеку гэты вобраз нябеснай заступніцы шануецца ў нашай Айчыне як сімвал апякунства воінства і абароны мірных людзей ад варожага нашэсця. Перад гэтай іконай нашы продкі маліліся напярэдадні пераможных бітваў".**

## Іх «Духоўнае неба»

Іх самаадданая праца пачыналася год таму, у лютым. Тады Мінскі мастацкі камбінат разам з секцыяй манументальнага мастацтва БСМ абвясціў конкурс на мастацкае афармленне капліцы, будаўніцтва якой планавалася ў памяць ахвяр Першай сусветнай вайны. Тэрміны, вызначаныя для кожнага этапу працы, былі вельмі кароткія. Прытым праект будучай капліцы існаваў толькі ў чарцяжах архітэктараў — на вызначаным для яе месцы, дзе раней знаходзіўся г. зв. Птушыны рынак, быў выкапаны роў. А ўвасобленых у матэрыяле свае прапановы мастакі мусілі рыхтаваць апаратыўна, форэскізы і канцэптуальнае вырашэнне прадставіць ужо 25 лютага 2011г. Вось у такіх няпростых умовах яны зрабілі свой праект. Спецыяльная епархіяльная камісія, атрымаўшы некалькі канцэптуальных вырашэнняў, правяла не адну раду, і ўрэшце была прынята да ажыццяўлення тэматычная мастацкая канцэпцыя аўтарскага калектыву ў складзе: В. Чайка, А. Суша, С.Бышнёў, Ф. Драгун.

Аўтары зацверджанага праекта аднагалосна вырашылі ўсе кампазіцыі для капліцы ўвасобіць у тэхніцы мазаікі, бо яна даўгавечная, хоць і асабліва складаная ў выкананні. Зрабіць такую справу за такі кароткі тэрмін (да сярэдзіны лета) было няпроста і цяжка, але ж узяліся... Мабыць, нейкі асаблівы дух падсілкоўваў творцаў, спрыяў ім у працы. За аснову кампазіцыі мазаікі былі ўзятыя традыцыйныя для праваслаўнага мастацтва вобразы і формы, якія адлюстроўвалі пераемнасць традыцый у духоўнай культуры Беларусі. Перш чым узяцца за працу, мастакі перачыталі шмат матэрыялаў па візантыйскай, равэнскай, асабліва класічнай мазаіцы: гэтага вымагаў класічны стыль праекта. Яго аўтары настойліва адмовіліся ад прапановы скарыстаць фігуратыўны прынцып афармлення, пераканалі сваіх дарадцаў у тым, што сам аб'ект невялікі, і зрабілі дэкаратыўную аздобу.

Мазаічныя кампазіцыі прасякнутыя духам абраза Божай Маці "Знаменне (Адзнака)", які з даўніх часоў шанаваўся ў Беларусі як сімвал апекавання над ваярамі ды заступніцтва за мірных жыхароў перад варожай навалай. Сам абраз знаходзіцца ў цэнтральнай частцы аркі, зверху — "Спас Нерукатворны", найшаноўны вобраз якога пісалі на сцягах рускага войска. Злева — "Архангел Міхаіл", пераможца ворагаў Божых, які карае зло, справа — "Архангел Гаўрыіл і Госпад", выява, з якой звязваюць абвяшчэнне і вытлумачэнне Божых таямніц. А насупраць "Спаса Нерукатворнага" — "Этымасія", прастол, падрыхтаваны для другога прышэсця Хрыста, які будзе судзіць




жывых і памерлых. Усё гэта аб'ядноўвае сімвал Перамогі Хрыста над злом і смерцю як сімвал надзеі на жыццё вечнае. Вянкі ўтвараюць контур Георгіеўскага крыжа — знака найвышэйшай узнагароды салдат і афіцэраў.

Складанасці ўзніклі з выкананнем у мазаіцы сферычнай паверхні. Купала каплічкі яшчэ не было, таму мастакі апрыёры, матэматычна разлічылі на макеце ў адпаведнасці з належным маштабам, затым праверылі, каб не было скажэнняў, і ўрэшце ўжо ў кардоне ў натуральную велічыню рабілі будучую аздобу. І толькі потым у майстэрні, па сегментах на мантажнай сетцы, выконвалі мазаікі адваротным наборам, а гэта, дайце веры, надзвычай складана. Калі купал каплічкі быў ужо гатовы, па частках пачалі манціраваць на мураванай сферы элементы мазаікі. Так было з усімі кампазіцыямі. Спачатку рабілі па частках у майстэрні, а затым на месцы ладзілі мантаж і падгонку пад рэальныя памеры. Арнаментальную кампазіцыю купала назвалі "Духоўнае неба".

У мазаіках мемарыяльнай капліцы сюжэт адпавядае ўсім эстэтычным і кананічным нормам. Аўтарскі калектыў мастакоў знайшоў свой падыход і справіўся з пастаўленай задачай, перадаўшы глыбіню зместу святых праваслаўных выяў. Матэматычная выверанасць элементаў і натхнёнасць агульнага вобраза раскрываюць высокі прафесіяналізм, самааддана сць у працы і духоўнае светаадчуванне аўтараў праекта. Унікальнасць жа новага мемарыяльнага комплексу ў тым, што гэта першае ў СНД, можна сказаць, жывое сведчанне духоўнага адраджэння нашай краіны, якое здзяйсняецца ў саюзе Дзяржавы і Царквы.

## Індывідуальнасці

Завершана значная агульная праца, і мастакі вяртаюцца да сваіх штодзённых заняткаў, індывідуальных творчых спраў...

Алесь Суша, які ў 2011 годзе атрымаў стыпендыю Міністэрства культуры на свой новы творчы праект, рыхтуе адпаведную справаздачу. Пабачыць яе зможа кожны ахвочы, бо сваю персанальную выстаўку з гэтай нагоды выдатны жывапісец прадставіць у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. У экспазіцыю ўвойдуць творы, прысвечаныя жаночым вобразам, а таксама ўспамінам дзяцінства, праз якія Алесь Суша паказвае непаўторны ўнутраны свет, повязі жыцця, тое, што прынята называць яго духоўна-душэўным зместам: "Пах малака", "Сёстры", "Бабкіна хата", "Печаная бульба", "Лета". Можна будзе падзівіцца на незвычайны "Аўтапартрэт", дзе зусім маленькае хлапчанё, будучы мастак, цягнецца да шклянкі з малаком, на шчырую "Раніцу ў бабулі"... Прыхільнік колеру, ён піша прыгожыя мясціны і з дапамогай мастацкіх сродкаў надае, здавалася б, звычайнаму краявіду высокае гучанне сапраўднага жывапіснага твора. Многія з яго карцін прысвечаныя ўслаўленню беларускай прыроды ў розныя поры года і вызначаюцца непаўторнасцю колеру, тонкімі суадносінамі паўтонаў. Асаблівым каларытам, душэўнасцю і чысцінёй прываблiваюць палотны "Бярозы зімой", "Вясна", "Зіма"...

Валерый Чайка, які не так даўно ўдзельнічаў у вялікай калектыўнай выстаўцы "Суб'ектыўны рэалізм", што праходзіла ў сталічным Палацы мастацтва, мае свой творчы стыль, адметны лаканізмам пластычнай мовы, кампазіцыйнай выразнасцю, выразнасцю рытмаў. Яго індывідуальнасць "падае голас" праз яркія абагульненыя вобразы з шырокім выкарыстаннем спецыфічных сродкаў, тэхналогій, матэрыялаў, уласцівых для манументальных відаў мастацтва. Работы мастака заўсёды выконваюцца на высокім узроўні мастацкай культуры і майстэрства. Валерый Паўлавіч з тых нястомных працаўнікоў, для каго мастацтва не на словах, а ў рэальнасці ёсць галоўным сэнсам жыцця. Усе праекты, здзейсненыя ім раней, былі выбраныя на конкурснай аснове. Прыкладам, інтэр'еры станцыі Мінскага метрапалітэна "Інстытут культуры", у тым ліку вітражы з літога шкла, дванаццаць манументальных паясоў на тэму "Гісторыя развіцця культуры Беларусі" (1979 — 1984); рэканструкцыя інтэр'ераў АН БССР (1980); манументальна-дэкаратыўная скульптура з металу "Слава працы" на фасадзе Палаца культуры ў г. Слоніме (1983); інтэр'еры аэрапорта "Мінск-2" — Міжнародны сектар (1990); аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі ў Палацы Рэспублікі (Дзяржаўная прэмія Беларусі, 2004); "Панікадзіла" ў царкве Святога Духа ў г. Беластоку (Польшча, 2001); фантан з адмысловага паліраванага люстранога металу "Васілёк" у г. Рэчыца (2006); аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя з арганічнага шкла з уключэннем крыніцы святла ў музеі "Белавежская пушча" (2009), кампазіцыі ў дзіцячым кафэ ў г. Орша (2008)... Не пералічыць нават самых адметных твораў Валерыя Чайкі! Дарэчы, свае прафесійныя веды і практычны досвед мастак перадае студэнтам: ён выкладае на кафедры дызайну ў Інстытуце сучасных ведаў імя А. М. Шырокава.



Яшчэ адзін удзельнік таленавітай творчай групы — Сяргей Бышнёў — таксама вярнуўся да сваіх звыклых спраў і працягвае займацца мазаікай ды роспісам у цэрквах. З асаблівай дбайнасцю Сяргей Іванавіч працуе над вобразамі хрысціянскіх святых.

Як вядома, В. Чайка, А. Суша, С. Бышнёў атрымалі добрую прафесійную адукацыю, скончылі Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў і неабыякава ставяцца да тых працэсаў, што адбываюцца ў творчым жыцці Беларусі, у сучаснай айчыннай культуры. Падчас нашай гутаркі ўсе гэтыя мастакі, задаволеныя вынікамі працы над вельмі адказным праектам, усцешаныя высокай дзяржаўнай адзнакай іх творчасці, міжволі прыгадалі тыя часы, калі манументальная секцыя БСМ была больш запатрабаваная грамадствам і яе ўдзельнікі не наракалі на адсутнасць працы. Гадоў 20 таму ўсе архітэктурныя праекты будынкаў нават на ўзроўні задумы ўзгадняліся з Саюзам мастакоў. Архітэктары і мастакі разам планавалі аздабленне інтэр'ераў, разам абвяшчалі конкурс на лепшы праект. Сёння ўсе робіцца архітэктарам самастойна, ён праектуе дом і часам запрашае ў партнёры людзей без адпаведнай падрыхтоўкі ці спецыялізацыі, а ў выніку — і нізкі эстэтычны ўзровень выканання, і элементарная безгустоўнасць, і мастацкая безаблічнасць. Мае суразмоўцы, акрыленыя поспехам сваёй "творчай каманды", вераць у тое, што кваліфікаваныя мастакі-манументалісты, як і раней, адчуюць сваю запатрабаванасць у сучасным жыцці Беларусі, што ў новых элементах мастацкай аздобы архітэктурнага аблічча нашай краіны з'явіцца больш адметных беларускіх матываў.

***На здымках: мазаічная выява "Спаса Нерукатворнага"; агульны выгляд капліцы.***

Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота аўтара

# Вандроўка ў «Іншасвет»

**Гэтая выстаўка мінскіх мастакоў праходзіла ў галерэі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Усё было знакава: сама назва праекта —“Іншасвет”. І адкрыццё выстаўкі перад паказам спектакля “Чорны квадрат”, дзе адным з асноўных персанажаў фігуруе “прафесар жывапісу Казімір Малевіч”. Прастора тэатра надзвычай спрыяльная для арганізацыі разнастайных артпраектаў. Тым больш калі ў рэпертуары ёсць яшчэ і спектакль “Палёты з Анёлам” пра Марка Шагала.**

Чаму “Іншасвет”? Пад словам “іншы” арганізатары праекта мелі на ўвазе адыход ад рэчаіснасці ў сферу ўяўлення, абстракцыі, а корань “свет” паказвае на светлае, пазітыўнае гучанне работ, на вернасць іх аўтараў ідэалам прыгажосці. Жанр праекта быў вызначаны як “выстаўка эзатэрычнага мастацтва”, бо эзатэрыка сёння — тая галіна ведаў, што імкліва пранікае ў сферу сучаснай культуры. Паводле аналогіі з музыкай такі напрамак мастацкіх пошукаў можна смела залічыць да стылю “нью-эйдж”, бо ён прадстаўляе творы медытатыўныя свайм настроем, гарманічныя сваёй задумай, якія закранаюць пачуцці любові, унутранага хараства, свабоды чалавечага духу.

“Іншасвет” паяднаў шэсць мастакоў: жывапісцаў Віктара Васюкевіча, Сяргея Пыжыкава, Вячаслава Аўгусціновіча, Аляксандра Крэса, Афелію Міхлееву, скульптара Аляксандра Завадскага. Здавалася б, зусім розныя, незалежныя адно ад аднаго аўтары, але іх творы нясуць сугучную энергетыку і засяроджаныя на раскрыцці таямніц унутранага космасу. Яшчэ адна характэрная рыса аб’ядноўвае гэтых людзей: яны працуюць у традыцыйных мастацкіх тэхніках (станковы жывапіс, драўляная скульптура), але змест іх работ вызначаюць самыя смелыя эксперыменты і пошукі.

Акрыленая “Песня адзінства” Віктара Васюкевіча сцвярджае адзінства ўсяго існага, адзінства Творцы і тварэння, г. зн. Бога і людзей, у Сусвеце. Аўтар прысвячае свой трыптых асобе Шры Чынмоя — духоўнага настаўніка з Індыі, мастака, музыкі і паэта. Выявы ўражваюць складанай фактурай, насычанай па ўсёй паверхні палатна. Гэтую тытанічную працу В. Васюкевіч здзейсніў на адным дыханні, пакінуўшы гледачу адчуванне паветранай лёгкасці і чысціні. Работы мастака падоўгу затрымліваюць на сабе погляд наведвальнікаў выстаўкі, бо не змяшчаюць фіксаваных вобразаў і звяртаюцца да ўяўлення, утвараючы своеасаблівы гіпнатычны эфект.



Мінімалістычныя кампазіцыі Сяргея Пыжыкава — спроба зафіксаваць стан плыні жыцця, яго спантанных праяў у касмічным маштабе. Дызайнер паводле адукацыі, аўтар добра знаёмы з паняццем фармальнай кампазіцыі, у якой імкнецца праявіць сябе. Манахромныя работы С. Пыжыкава знаходзяцца на сумежжы графікі і жывапісу. Сваёй лёгкасцю яны нагадваюць пра кітайскую каліграфію. Вось толькі палатно “Зеляніна”, выканане ў бела-зялёна-сіняй гаме, нібы візуалізуе музыку, што ўзнімаецца зялёнай дажджавой хмарай над паверхняй чароўнага возера. Нагогул жа, настрой большасці твораў С. Пыжыкава можна ахарактарызаваць як сузіральны, звязаны са станам душэўнай раўнавагі, што блізка да ўсходняй філасофіі. Мастак нездарма знайшоў натхненне ў доўгіх падарожжах па не кранутых цывілізацыяй пустэльных краявідах Сярэдняй Азіі.

Каларыст Афелія Міхлеева нарадзілася ў Азербайджане, таму натуральна, што ў яе творчасці выявіўся яркі паўднёвы тэмперамент. На палотнах трыптыху “Трыумф” увасобленыя горныя краявіды, што нагадваюць пра імклівы палёт душы, абуджаюць у сэрцы гледача памкненне да вяршынь. Між тым А. Міхлеева сцвярджае, што чэрпае вобразы далёка не з успамінаў дзяцінства, якое прайшло ў Закаўказзі і пра якое захавала даволі размытае ўяўленне, а аднекуль з генетычнай памяці. Дзівіць той факт, што мастачка пачала пісаць… пасля шасцідзесяці і за некалькі гадоў дасягнула неблагіх вынікаў — гэта адзначаюць і мастацтвазнаўцы, і прафесійныя жывапісцы.

Дыпламаваны дызайнер Вячаслаў Аўгусціновіч у сваіх абстрактных работах выяўляе глыбокае перажыванне рэчаіснасці ў яе шматмернасці, складанасці, — пярэстай, як узмах матылькiковага крыла. Выдатнае валоданне колерам спалучаецца ў творчасці аўтара з тонкай прамалёўкай дэталяў, арыгінальная кампазіцыйная задума — са спрактыкаванай апрацоўкай фактуры. Лірызм, далікатнасць душы творцы яскрава праявіліся ў абстрактных вобразах матылькоў; нездарма філолагі звязваюць рускае слова “бабочка” са старажытнаегіпецкім “ба” — адным з найменняў чалавечай душы.

Незвычайны погляд на сучаснае мастацтва дэманструе мастак Аляксандр Крэс. Вядомы ён больш як іканапісец, але не адмаўляецца і ад свецкага мастацтва: як класічнага, так і авангарднага. Для выстаўкі ён выбраў тры работы з буйнога цыкла “Сонца кветак”. Надзвычай яркія, у добрым сэнсе наіўныя, яны характарызуюцца падабенствам малюнка, але адрозніваюцца ў дэталях і колерах. У цэнтры гэтых карцін — рознакаляровае сонца ў атачэнні мноства элементарных часцінак, а пад ім — поле кветак. Можна меркаваць, што такім чынам аўтар адлюстроўвае натуральныя законы жыцця, яго ўзаемасувязь з першакрыніцай — сонцам, адначасова імкнучыся перадаць парыванне кожнай асобы-кветкі да Усявышняга. У гэтых работах А. Крэс выкарыстоўвае іканапісную тэхніку: яечная тэмпера на дошцы, што дазваляе змясціць усю выяву ў адзін суцэльны пласт, а таксама спалучыць актуальны змест і традыцыйную тэхніку.



Драўляная скульптура Аляксандра Завадскага, асновы якой — у народным мастацтве, вылучаецца імкненнем аўтара да раскрыцця нематэрыяльных з’яў і паняццяў праз мову аб’ёму і пластыкі. Разьбяныя статуэткі выдатна ўпісаліся ў выставачную прастору і ўзмацнілі філасофскае гучанне экспазіцыі. Іх мудрагелістыя формы з ледзь заўважанай пазнакай канкрэтных вобразаў, цудоўна суіснуюць з абстрактным жывапісам, не парушаючы межы агульнай стылістыкі праекта. У аснове творчасці скульптара — этнічныя коды, уласцівыя першабытнаму мастацтву. Можна сказаць, што аўтар імкнецца выявіць эзатэрычны ўзровень прачытання традыцыйнай культуры. Работы “Вясна”, “Размова”, “Самотніца” спалучаюць у сабе вытанчаную паэтыку формы і грубую прыродную стыхію, закладзеную ў “крутым характары” матэрыялу.

Такім чынам, праект “Іншасвет” уразіў цэласнасцю экспазіцыі, прысвечанай духоўным пошукам творчай асобы. Галоўная вартасць гэтай выстаўкі — скіраванасць увагі на тых аўтараў, якія раней знаходзіліся на перыферыі мастацкага жыцця.

***На здымках: Сяргей Пыжыкаў “Прастора”; Аляксандр Завадскі “Размова”.***

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Здаецца, гэты мастак ведае, што такое perpetuum mobile, не толькі з кніжак: прырода падаравала яму сапраўдны вечны рухавік — неўтаймоўны творчы тэмперамент, які не дазваляе прыпыняцца і пасіўна сузіраць рэальнасць.**



# А побач — музыка. Жывая...

Віктар Ціханаў упэўнена карыстаецца выразнымі магчымасцямі розных тэхнік манументальнага мастацтва: мазаікі, вітража, разьбы па ляўкасе, роспісу, фрэскі. А ў станковым жывапісе, увасабляючы свае непаўторныя імпрэсіі паводле пэўных станаў прыроды або ўражанні ад рэальнага беларускага краявіду, сцвердзіў адметную манеру пісьма, у якой можна ўбачыць і працяг традыцый пуантылізму, і ўплыў мазаічнага прынцыпу стварэння выявы. Мастак любіць вандраваць. Актыўна падарожнічаюць і карціны: яго персанальныя выстаўкі ладзіліся ў Англіі, Германіі, Егіпце, ЗША, Іспаніі, Расіі, Сербіі, Швейцарыі, Швецыі, Японіі... Сярод заўважных творчых учынкаў Віктара Ціханава — мастацкі праект “Сум пакінутых вёсак” (цыкл работ, напоўненых роздумам пра тыя драматычныя працэсы, што спарадзіла на нашай зямлі сучасная цывілізацыя) і стварэнне аднайменнага аўтарскага фільма.

А хіба можна забыцца на ягоныя... дранікі з аўтографам, якімі частавалася публіка на прэзентацыі калектыўнага праекта “Арт-бульба”, што некалькі гадоў таму ладзілася ў Мінску! Віктар Ціханаў прадставіў тады серыю палотнаў, паяднаных агульнаю назвай і філасофскай усмешкай мастака: “Нацыянальны прадукт. Перыяд вегетацыі”. Пяць карцін — пяць самых значных эпізодаў бульбінага жыцця: ад вясновых парасткаў на клубнях да белай квецені на ўлонні смалянчорнай зямелькі, ад поўнай міс абабраных бульбін (з таркай напагатове) да дранікаў з прынаднай залацістай скарыначкай. Пад іх выявай у дзень адкрыцця выстаўкі стаяла тумба з патэльняю, на якой узвышалася горка сапраўдных, яшчэ цёплых дранікаў (і, як неўзабаве высветлілася, — вельмі смачных). Ля патэльні мастак пакінуў стосік папяровых сурвэтак і запіску: “Частуйцеся, калі ласка! Гатаваў сам. Віктар Ціханаў”.

Сёлета ён упершыню, прычым плённа, паўдзельнічаў у фестывальным праекце Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі “Заслаўе-2012”. У мясцовай дзіцячай школе мастацтваў, дзе праходзілі фестывальныя імпрэзы, адкрылася персанальная выстаўка пейзажаў В. Ціханава. Сярод іх — чароўна прыгожы “Зімовы вечар”: урачыстая магія таямнічага, касмічнага холаду зыходзіць з глыбіні сіняга колеру, спалучанага з густым чорным. І “Ручай”, прыцягальны ілюзіяй руху свавольна-імклівай вады: дзіву даешся, як рознакаляровыя кропкі пераходзяць у мазкі, спакваля ўзнікае жывая ігра плям — белых, жоўтых, вохрыстых на сінім, і ўтвараецца празрыстая жывая плынь. А палатно на мальберце са свежымі стракатымі мазкамі, слоікі з фарбамі, пэндзлі былі не проста эфектным элементам афармлення фае, дзе разгарнулася выстаўка. Як толькі мастак набліжаўся да сваіх “прылад працы”, аднекуль збягалася дзятва, падыходзілі цікаўныя бацькі, настаўнікі, — і пачыналася! Майстар нешта коратка тлумачыў юным калегам, тыя разбіралі пэндзлікі ды малявалі. Са смакам і заўзята, быццам навыперадкі адно перад адным, наносілі кропкі ды акцэнты, пакрывалі зыркія прасветы на палатне шырокімі рысачкамі ды плямкамі. Нават адна салідная госця звярнулася з просьбай дазволіць ёй зрабіць мазок у незвычайную карціну: “Потым буду ўсім расказваць...” З гэтай хаатычнай калектыўнай колеравай імправізацыі мусіў нарадзіцца жывапісны вобраз, які задумаў мастак. Ён амаль не ўмешваўся ў працэс малявання. Толькі аднойчы спыніў хлопца, які набраў на пэндзлік сінюю фарбу: “У сіні не лезце! Гэта будзе цёплая работа...” Урэшце, вымавіўшы катэгарычнае “Стоп!”, нейкім амаль рытуальным рухам дакрануўся да палатна “пэндзлем мэтра” і патлумачыў: “Шоу заканчваецца. Цяпер пачынаецца сур’ёзная праца”.

З юнымі ўдзельнікамі незвычайнага майстар-класа, вучнямі Заслаўскай ДШМ, В. Ціханаў сустрэўся на пачатку фестывальнага дня. Малявалі ўсе разам, а завяршыўшы працу над першым палатном, узяліся за новае. Самым незвычайным, заўважыў мастак, было для яго працаваць пад жывое гранне музыкантаў: “Упершыню маляваў экспромтам пад жывую класічную музыку, якая гучала побач. Яна разняволівала фантазію і нават уплывала на выбар фарбаў. Можна сказаць, атрымаўся музычны твор на палатне...”

***На здымку: Віктар Ціханаў з юнымі мастакамі ў атмасферы фестывалю “Заслаўе-2012”.***

# Аршанскі вернісаж

Лана ІВАНОВА

**Міжнародная выстаўка “Калегіум” адкрылася ў Аршанскай гарадской мастацкай галерэі В.А.Грамыкі. Гэты артпраект, ужо трэці па ліку, арганізаваны супрацоўнікамі Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны, а таксама членамі Беларускага саюза мастакоў ды Смаленскай арганізацыі Саюза мастакоў Расіі.**

“Калегіум” становіцца для Оршы адметнай традыцыяй, што вынікае з плённага творчага супрацоўніцтва мастакоў Беларусі і Расіі. У аснове самой назвы міжнароднага выставачнага праекта — вядомае многім слова, якое ў перакладзе з латыні гучыць як “сябрына”, “таварыства”, “садружнасць”. А вось для калектыву галерэі калегіум — гэта яшчэ і родны будынак, гістарычныя сцены, дзе пасяліўся дух творчасці, які прываблівае і яднае ўсіх неабыякавых да мастацтва.

Чым жа адметны сёлетні “Калегіум”? Арыгінальнасцю творчых ідэй. Свежасцю іх увасаблення. Жанравай разнастайнасцю экспазіцыі, у якой знайшлося месца не толькі для твораў жывапісу і графікі, але і для менш традыцыйных жанраў: інсталяцыі, артаб’екта. Удзельнікі выстаўкі — мастакі з Баранавіч, Віцебска, Вязьмы, Мінска, Оршы і Смаленска, прадстаўнікі розных творчых школ і пакаленняў, паяднаныя пазітыўным і мудрым успрыманнем жыцця.

Да 1150-годдзя Полацка

# Майстэрства — рэч эксклюзіўная

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

**Выстаўка аднаго дня "Майстэрствам славім родны Полацк", прысвечаная прэзентацыі горада ў сувязі з яго юбілеем — 1150-годдзем з дня заснавання, — прайшла ў Доме дружбы Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**



Свае работы прадставілі майстры Полацкага Цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур, якія былі створаны ў 1994 годзе. Намаганні супрацоўнікаў гэтай установы накіраваны на адналенне, развіццё і прапаганду народных беларускіх рамёстваў. І ў іх, відаць па ўсім, няблага атрымліваецца. Сведчаннем таму — выстаўка ў Мінску.

— Мэта нашага прыезду ў сталіцу — паказаць дасягненні полацкіх майстроў, — распавяла загадчык аддзела рамёстваў Полацкага Цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур Наталля Чымірыкіна. — У Доме дружбы мы прадставілі разьбу па дрэве, лапікавае шыццё, вышыўку на ручніках і абрусах, роспіс па тканіне, вырабы з саломы і лазы, традыцыйныя скруткі-лялькі. Пры нашым цэнтры працуюць два цікавыя клубы. Першы аб'ядноўвае аматараў лапікавага шыцця і носіць сугучную назву "Рошва". Ім кіруе Ніна Ярмух. У Мінск мы прывезлі маляўнічыя коўдры з абрэзкаў. Гэта калектыўныя работы членаў "Рошвы".

А вось клуб "Роднасць" аб'ядноўвае майстроў, якія займаюцца рознымі відамі рамёстваў. З іх сем чалавек з'яўляюцца членамі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. На выстаўцы прадстаўлены работы рэзчыкаў па дрэве Мікалая Абраменкі і Валянціна Нагорнага, карункі Ядвігі Песінай і Ніны Кукуць, вырабы з лазы Аляксея Адамовіча, аплікацыя саломкай Ніны Фядулавай, лялькі Зінаіды Лёцінай, вельмі цікавая кераміка маладога майстра Алесі Пупкоўскай.

Сама Наталля Яўгенаўна працуе ў Цэнтры рамёстваў ужо дванаццаты год, завочна скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, аддзяленне "Народная творчасць. Народныя рамёствы". Спачатку яна навучылася вышываць, а потым пачала займацца роспісам па тканіне і, трэба сказаць, даволі паспяхова. Маляванкі майстра, якія таксама можна было ўбачыць на выстаўцы ў Мінску, прыцягнулі ўвагу многіх гасцей Дома дружбы.

Дарэчы, паралельна работы палачан дэманструюцца ў Віцебску, у абласным метадычным цэнтры, дзе праходзіць выстаўка "Каханне — гэта мы". У самім Цэнтры рамёстваў у дзвюх выставачных залах штомесяц мяняюцца экспазіцыі. Праводзяцца персанальныя і калектыўныя выстаўкі майстроў, мастакоў з Полацка і іншых мясцін.



Цяпер для майстроў клубаў "Рошва" і "Роднасць" наступіў адказны час. Іх калектывы павінны ў чарговы раз пацвердзіць ганаровае званне "народны".

— Рамёствамі сёння больш цікавяцца дарослыя, прыходзіць шмат пенсіянераў, вечарам збіраюцца тыя, хто працуе, — зазначыла Наталля Чымірыкіна. — Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца курсы шыцця з абрэзкаў тканіны. Для дзяцей мы праводзім майстар-класы, урокі беларускай культуры, запрашаем юных палачан на пасяджэнні ў гасцёўню. Працуем з хлопчыкамі і дзяўчынкамі пачынаючы з дзіцячага садка. Заўважылі, што ў апошні час цікавасць да народных рамёстваў вырасла, але сапраўднымі майстрамі становяцца адзінкі. На жаль, перадача майстэрства ад аднаго пакалення да другога ідзе складана. І хочацца зрабіць усё магчымае, каб традыцыйныя беларускія рамёствы не толькі захоўваліся, але і квітнелі.

***На здымках: Наталля Чымірыкіна прэзентуе вырабы калег; пано-маляванка "Стары горад" — работа Наталлі Яўгенаўны.***

З глыбінкі

## Аўтар любімых п'ес

Вучні Лагойскай сярэдняй школы № 1 часта бачаць беларускіх пісьменнікаў. Тут цёпла прымалі Сяргея Давідовіча, Міколу Мятліцкага, Уладзіміра Ліпскага, Галіну Каржанеўскую. Кожная з такіх сустрэч, што ладзяцца па ініцыятыве настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Людмілы Пількевіч, праходзіць у святочнай, узнёслай атмасферы.

Не так даўно да школьнікаў завітаў драматург Аляксей Дудараў. Актавая зала была перапоўнена. Аўтара любімых драматычных твораў віталі са сцэны юныя артысты, якія хараша выканалі беларускі народны танец, а ў выкананні групы старшакласнікаў былі паказаны фрагмент п'есы "Вечар". На экране ажылі кадры з кінафільма "Дняпроўскі рубеж", знятага паводле сцэнарыя А. Дударава.

З выключнай увагай слухалі ў зале аповед Аляксея Ануфрыевіча, які прыгадаў сваё маленства, працу на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе, службу ў арміі, вучобу ў тэатральна-мастацкім інстытуце, пасля якой і пачалася актыўная пісьменніцкая дзейнасць. На шматлікія пытанні школьнікі пачулі прасякнутыя жыццёвай мудрасцю адказы.

Госць уважліва выслухаў выступленні юных чытачоў, якія падзяліліся ўражаннямі ад п'ес "Радавыя", "Палачанка", "Парог", "Выбар". Самыя актыўныя ўдзельнікі сустрэчы атрымалі ў якасці падарунка зборнік п'ес "Князь Вітаўт" і магчымасць сфатаграфавацца на ўспамін з аўтарам.

Перш чым пакінуць сцены школы, шаноўны госць пазнаёміўся з экспазіцыяй школьнага музея "Літаратурная Лагойшчына" і зрабіў у кнізе водгукаў запіс: "Шчыра дзякую за захаванне духоўнай спадчыны і за выхаванне будучыні".

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ, г. Лагойск**

Куток таемнасці

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

# Свята хэндмэйду

**Сапраўднае свята рамёстваў з танцамі, песнямі, конкурсамі прайшло ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Удзельнікамі выстаўкі хэндмэйду сталі больш як трыццаць майстроў-рамеснікаў з усёй Беларусі. Арганізатарамі кірмашу выступілі партал *remesla.by*, творчае агенцтва ArtExpo і інтэрнэт-салон вырабаў ручной работы *handmade.by*.**

З Бабруйска прыехалі прадстаўнікі студыі славянскай моды "Уцеха", якія прадэманстравалі калекцыі беларускіх строяў з роспісам, вышыўкай мулінэ і бісерам ды іншымі відамі ручнога аздаблення. Кіраўнік студыі Алёна Канойка расказала пра першыя крокі "Уцехі":

— Студыя пачыналася з творчай майстэрні, якая ўяўляла сабой звычайныя "вячоркі", дзе збіраліся зацікаўленыя ў стварэнні льняной вопраткі. Але хобі настолькі захапіла, што ўдзельніцы будучай студыі пачалі шукаць інфармацыю пра абярэгі і старажытныя славянскія традыцыі, ладзіць розныя гульні. Афіцыйны статус студыя атрымала ў 2006 годзе, пасля чаго мы сталі ўдзельнічаць у шматлікіх конкурсах у Беларусі і ва Украіне. У Мінск прывезлі цікавую праграму "Славянская прыгажуня", якая складаецца з дэфіле, пластыкі, уздзелу ў паказе славянскіх строяў.

Адметнасцю выстаўкі стала тое, што ўсе жадаючыя маглі не толькі пазнаёміцца з вырабамі рамеснікаў і набыць іх, але і запісацца на майстар-класы, пагутарыць з майстрамі. Столькі цікавага даведваешся з размоў! Разглядаючы біжутэрыю, заўважыла металічныя кулончыкі з выявай рун. "Як жа выбраць правільны знак руны?" — пацікавілася ў майстра. "Вельмі проста, — патлумачыла Яўгенія Андрэева. — Бярыце кулончык, які першы трапіцца на вочы".

Музыкальныя інструменты, драўляныя ключніцы і карціны прывёз Аляксандр Стругаў. Узяла ў рукі доўгую палачку. Аказваецца, гэта "Дрэва дажджу". Чароўны музычны інструмент зроблены з баршчэўніка. Пераварочваеш гэтую самую палачку, падобную да невялікага бервяна, і нешта пачынае сыпацца ўнутры інструмента. "Гэта рыс, — тлумачыць майстар. — "Дрэва дажджу" супакойвае сваім гукам".

"Адкуль такі салодкі пах?" — падумалася мне. На суседнім стале раскладвалі свечкі ў форме розных жывёл, птушак, раслін. Іх вырабляе Яна Каўгарэня. Дзяўчына патлумачыла, што ўсе яны зроблены з пчалінага воску, таму не шкодныя для здароўя, іх можна выкарыстоўваць як прыродны араматызатар.

Што і казаць, такія выстаўкі-кірмашы радуюць вока. Адчуваецца еднасць сучаснага чалавека са старажытнай славянскай культурай, бо ўсё створанае майстрамі мае ў аснове традыцыі славянскага народа.

Марына Духан, куратар міжнароднага творчага праекта "Фарбы душы", паведаміла, што ў маі ў Мінску адбудзецца пятая Міжнародная выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Свае работы прывязуць майстры з Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Францыі, Ізраіля… Таму сталіцу чакае новае свята хэндмэйду.

## Дзве сустрэчы — тры прэзентацыі

У кабінеце дырэктара Азярыцкаслабадской сярэдняй школы Смалявіцкага раёна Вольгі Чушанковай на самым бачным месцы, якраз насупраць рабочага стала, можна пабачыць фотаздымкі, зробленыя падчас наведвання навучальнай установы беларускімі пісьменнікамі. А нядаўна гэты ганаровы спіс папоўніў і Анатоль Зэкаў. Тут адбылася прэзентацыя адразу трох яго кніг: "Зязюля Гулюля", "Генеральскі нумар" і "Каханне на снезе". Першую пісьменнік прадставіў вучням малодшых класаў, дзве астатнія — старшакласнікам.

На абедзвюх сустрэчах госць з Мінска распавядаў, як ствараліся гэтыя кнігі, чытаў творы з іх, запрашаў да супрацоўніцтва з часопісам "Вясёлка", пакідаў аўтографы сваім новым чытачам.

Уладальнікам аўтографа стаў і сам пісьменнік: трэцякласніца Антаніна Багдановіч падарыла Анатолю Зэкаву сваю першую кніжачку "Мечтательница и её мягкие игрушки", надрукаваную сёлета тыражом 20 экзэмпляраў у выдавецтве "Тэхналогія".

**Аліна РАЧЫЦКАЯ, Смалявіцкі раён**

Афарызм

*Каб нешта сцвердзіць, неабавязкова крычаць.*

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2835
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 15.03.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1166
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686